3ок-1
6502

ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

XVIII
9555
IV

# САВЕЦКАЯ КРАІНА

1859 г.



ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА ПРЫ БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

ЛЮТЫ
№ 2
(41)

1931

3 ок-1
6502

*Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!*

# САВЕЦКАЯ КРАІНА

ШТОМЕСЯЧНЫ ОРГАН

ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА

ПРЫ

БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

ГОД ВЫДАНЬНЯ ДРУГІ

XVIII
9555

ЛЮТЫ

№ 2 (4)



МЕНСК — 1931

# Да пытаньня аб бліжэйшых задачах Беларускай Акадэміі Навук.

Ад Беларускай Акадэміі Навук патрабуецца самы актыўны ўдзел у социялістычным будаўніцтве БССР. Толькі актыўным удзелам у справе социялістычнага будаўніцтва БССР БАН зможа ператварыцца ў сапраўдны цэнтар навукова-дасьледчай работы БССР. Гэта так відавочна кожнаму, але аб гэтым прыходзіцца і, напэўна, яшчэ ня раз прыдзецца паўтараць, бо мінулая дзейнасьць БАН не працякала ў такім напрамку, у моц чаго сустракала зусім правільнае асуджэньне з боку нашай савецкай грамадзкасьці. Дый як-жа інакш можна аднесьціся да таго, што БАН—дзіця Кастрычнікавай рэволюцыі—была скарыстана контр-рэволюцыйнымі элемэнтамі для сваіх мэт. Вось з гэтага і трэба зрабіць усе вывады. Перш за ўсё трэба зразумець што навука не аполітычна. Як ні прыкрываліся паны Цьвікевічы, Лёсікі, Ластоўскія і Некрашэвічы сваёй „акадэмічнасьцю", як ні стараліся яны давесьці „об'ектыўнасьць" навукі, яны самі-ж зьявіліся лепшымі ўзорамі буржуазнага ханжаства, па-здрадніцку завуаляваліся так званай „аб'ектыўнасьцю" навукі для сваіх контр-рэволюцыйных рэстаўратарскіх мэт. Як пры гэтым ня ўспомніць і вельмі цьвёрда не запомніць словы Леніна, што „беспристрастной социальной науки не может быть в обществе". Паны Лёсікі, Ластоўскія, Некрашэвічы гэта палажэньне марксызму яшчэ раз пацьвердзілі, нават здавалася-б у такой „беспристрастной" навуцы, як мовазнаўства. І ў гэтым няма нічога дзіўнага. Гэроічная барацьба мас за социялістычнае будаўніцтва сустракае шалёнае супраціўленьне нашых клясавых ворагаў. Клясавыя ворагі пролетарыяту ў сьмяртэльных сударгах скарыстоўваюць яшчэ нябачаныя ў гісторыі формы барацьбы. Шкодніцтва, абман, здрадніцтва, двурушніцтва і г. д.—гэтыя заўсягдашнія атрыбуты капіталістычнага ходу, ва ўмовах пагібелі буржуазіі выяўляюцца ў самай дзікай і агіднай форме. „Культурныя" агэнты буржуазіі скарыстоўваюць і ідэолёгічны фронт для шкодніцтва. Буржуазія разумее, што без навукі мы ня зможам пабудаваць социялізм. І ў тэй барацьбе, якую пролетарыят вядзе за аўладаньне навукай, буржуазія прымае ўсе самыя крайнія сродкі барацьбы. Праўда, клясавая барацьба на навуковым вучастку больш „утонченна", чым на другіх вучастках нашага социялістычнага будаўніцтва. Але гэта „утонченность" патрабуе ад нас большай пільнасьці. Трэба ўрэшце ўсьвядоміць, што кожны сумленны савецкі навуковы працаўнік таксама стаіць на варце, як усякі чырвонаармеец, што бароніць межы нашай рэспублікі. Цяпер асабліва важна гэта зразумець, бо мы вядзем рашучы бой за заканчэньне пабудовы фундаманту социялістычнай экономікі, за выкарчаваньне карэньняў капіталізму, за поўнае вызваленьне чалавецтва ад капіталістычнай эксплёатацыі. Апошні

бой заўсёды патрабуе вялікай увагі. Вось чаму акадэмік БАН ня можа паходзіць на першых грэцкіх акадэмікаў, якія любілі пад ценем густых дрэў першай у гісторыі Акадэміі размаўляць „наогул“ аб тленнасьці ці велічы жыцьця. БАН ня можа ня быць актыўным барацьбітом за выпрацоўку рэволюцыйнай тэорыі, якая, як адзначыў т. Сталін на зьезьдзе марксыстых-аграрнікаў, „если она является действительно теорией, дает практикам силу ориентировки, ясность перспективы, уверенность в работе, веру в победу нашего дела“. Выканаць гэту задачу БАН зможа толькі ўжываючы ў сваёй навуковай рабоце марксыцкаленінскі дыялектычны мэтод, як адзіны навуковы мэтод. Толькі скарыстоўваючы дыялектычны мэтод мы будзем здольны ажыцьцявіць задачы, пастаўленыя перад інстытуцыямі БАН, якія працуюць як у галіне грамадзкіх, так і прыродазнаўчых навук. Толькі ў выніку бязьлітаснай барацьбы з самымі нязначнымі спробамі рэвізіі марксызму-ленінізму мы будзем здольны выканаць тыя задачы, якія стаяць перад намі.

Гэтыя задачы мы зможам ажыцьцявіць калі БАН будзе стаяць на правільных позыцыях у галіне нацыянальнай політыкі, будзе весьці рашучую барацьбу з вялікадзяржаўным шовінізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе і нацдэмаўскімі ўстаноўкамі, пад якімі маскуюцца чужыя нам варожыя клясавыя сілы. Толькі стоячы на правільных ленінскіх позыцыях у галіне нацыянальнай палітыкі, Беларуская Акадэмія Навук зможа быць магутным праваднікам ідэй інтэрнацыяналізму. Нацдэмаўскія элемэнты скарыстоўвалі Беларускую Акадэмію Навук для сваёй контр-рэволюцыйнай і падрыўной работы і па сутнасьці справы ўсімі сіламі затрымлівалі, тармазілі і зрывалі справу нацыянальна-культурнага будаўніцтва. Абвяшчаючы сябе монопольнымі прадстаўнікамі „беларускай культуры“—яны фактычна вялі барацьбу супроць бурнага разьвіцьця культуры, нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зьместу, якая стала магчымай толькі пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі, ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту. Толькі ў рашучай барацьбе супроць гэтых элемэнтаў, толькі ажыцьцяўляючы на справе ленінскія прынцыпы нацыянальнай політыкі, БАН зробіцца цытадэляй сапраўднага разьвіцьця беларускай нацыянальнай па форме і пролетарскай па зьместу культуры, Беларуская Акадэмія Навук будзе рухаць уперад справу яе ўзмацненьня, справу разьвіцьця культуры нацменшасьцяй БССР. Заканчэньне фундаманту соцыялістычнай экономікі, магутны творчы энтузыязм мас, ленінскае кіраўніцтва нашай партыі—усё гэта забясьпечыць далейшыя посьпехі ў справе магутнага культурнага разьвіцьця раней прыгнечаных народаў. Гэтыя задачы, якія стаяць перад Беларускай Акадэміяй Навук, набываюць асаблівае значэньне ў сувязі з той аграмаднай рольлю, што адыгрывае ўся наша работа для працоўных мас Заходняй Беларусі, якія прыгнятаюцца польскім фашызмам і яго вернымі саюзьнікамі беларускімі нацыянал-фашыстамі на чале з Луцкевічамі, Астроўскімі, Станкевічамі і інш. нацыянал-здраднікамі.

Цьвёрдае ўсьведамленьне, што навука клясавая, што Беларуская Акадэмія Навук павінна ўключыцца ў бурнае соцыялістычнае будаўніцтва БССР, такая вось першая канечна патрэбная ўмова павароту Беларускай Акадэміі Навук да тых задач, якія стаяць перад ёю. Мы ня можам не адзначыць тэй увагі і клапот, якія выяўляюць у адносінах да Беларускай Акадэміі Навук КП(б)Б і ўрад БССР. Мы маем ўсе падставы ператварыцца ў сапраўдны вышэйшы навукова-дасьледчы

цэнтар БССР. Зрабіцца-ж сапраўдным навукова-дасьледчым цэнтрам у БССР, паўтараем, мы зможам толькі пры ўмове актыўнага ўдзелу Беларускай Акадэміі Навук у нашым соцыялістычным будаўніцтве. Сапраўды нічым іншым, як сьвядомым ці бесьсьвядомым жаданьнем адгарадзіцца ад сучасных задач соцыялістычнага будаўніцтва, можна вытлумачыць тое, што пры самых руплівых адносінах да Беларускай Акадэміі Навук з боку КП(б)Б і ўраду БССР, бяз БАН і бяз сувязі з ёю на тэрыторыі БССР узьнік рад самастойных навукова-дасьледчых інстытутаў, што бяз сувязі з БАН, самастойна існавалі розныя навуковыя таварыствы Беларусі. Вытлумачыць гэту зьяву, як імкнуліся зрабіць некаторыя былыя кіраўнікі БАН спэцыфічнасьцю, асобнасьцю навуковых задач—ніяк нельга Уся наша грамадзкая гаспадарчая работа патрабуе і концэнтрацыі навуковай работы. Концэнтрацыю навуковай работы мы назіраем нават у буржуазных дзяржавах. Погляды Момсэна, якія абараняліся ім у апошняй чвэрці мінулага стагодзьдзя ў Гэрманскай Акадэміі Навук, што ў моц бурнага разьвіцьця навуковай думкі, Акадэміі ўжо ўстарэлі, былі бліскуча адкінуты жыцьцём. Наадварот, росквіт грамадзкіх і тэхнічных навук у другой палове XIX і пачатку XX стагодзьдзяў прывёў да коордынацыі работ навукова-дасьледчых устаноў. Так, у 1898 годзе ў Амэрыцы у Вашынгтоне была аформлена Амэрыканская асоцыяцыя па прыродазнаўчых дысцыплінах (Washington Academy of Sciences), у 20-м годзе стварылася асоцыяцыя па гуманітарных навуках. (Amerikan Council of Łearned Societes). Спробы цэнтралізацыі навуковых устаноў мы назіраем і ў дзяржавах Заходняй Эўропы. У 1923 годзе ў Італіі была створана Unione Academica Nazionale. Няма чаго даводзіць, што ва ўмовах капіталістычнай анархіі вытворчасьці імкненьне навуковай думкі да коордынацыі работ навуковых устаноў працякае стыхійна. У нашых-жа ўмовах соцыялістычнага будаўніцтва распыленьне навукова-дасьледчае работы зусім немэтазгодна і шкодна. Трэба рашуча скончыць з настроямі, якія прызнаюць нормальным існаваньне на тэрыторыі БССР навукова-дасьледчых устаноў апроч Акадэміі і бяз сувязі з ёю. Таксама трэба тэрмінова правесьці радыкальныя мерапрыемствы па концэнтрацыі вакол Беларускай Акадэміі Навук усіх нашых навукова-дасьледчых сіл. Толькі згуртаваньне ўсіх навукова-дасьледчых кадраў БССР вакол БАН дасьць ёй магчымасьць ажыцьцявіць тыя задачы, якія стаяць перад Акадэміяй. На жаль з 700 навуковых працаўнікоў БССР далёка ня ўсе зьвязаны з БАН. Ня была наладжана патрэбная сувязь і з нашымі вышэйшымі навучальнымі ўстановамі. Ня было ніякай сувязі з другімі навукова-дасьледчымі ўстановамі СССР. Гэтыя недахопы трэба хутка зьнішчыць. Аднак, мы ня можам не адзначыць, што гэтыя хваробы Беларускай Акадэміі Навук у першую чаргу ёсьць хваробы навукова-дасьледчай грамадзкасьці БССР. Толькі пры ўмове стварэньня шырокай грамадзкасьці вакол БАН мы зможам выканаць нашы задачы. Трэба раз назаўсёды пакончыць, на жаль з шырока яшчэ распаўсюджанымі поглядамі, што Акадэмія гэта такая ўстанова, „дзе займаюцца навукай не для практычных мэт, а для яе самой". Рашучы паварот БАН да задач сучаснасьці і актыўны ўдзел яе ў соцыялістычным будаўніцтве—вось што можа забясьпечыць росквіт яе навукова-дасьледчай дзейнасьці.

Дадатковыя выбары новых акадэмікаў, якія зараз праводзяцца, павінны ўліць новыя сілы і павесьці БАН па новаму шляху. Давыбары новых акадэмікаў зразумела ня справа толькі самой Акадэміі. Дадат-

ковыя выбары акадэмікаў павінны прыцягнуць самую шырокую ўвагу партыйных, рабочых, навуковых, грамадзкіх і профсаюзных організацый. Кампанія, зьвязаная з давыбарамі акадэмікаў, павінна паслужыць пачаткам штодзённых самых уважлівых адносін савецкай грамадзкасьці да работы Акадэміі. Штодзённая самакрытыка дзейнасьці БАН павінна зьявіцца канечна патрэбнаю ўмоваю нашай навукова-дасьледчай работы, бо яна служыць гарантыяй ад ператварэньня акадэміі ў касту вучоных, а ня рэдка і ў псэўда-вучоных. І кожны вучоны, шчыра адданы справе социялістычнага будаўніцтва, ніколі ня стане супярэчыць, каб яго работа працякала пад такім-жа грамадзкім контролем, пад якім знаходзіцца дзейнасьць нашых савецкіх, профэсіянальных і грамадзкіх працаўнікоў. Беларуская Акадэмія Навук павінна таксама як і нашы партыйныя, савецкія організацыі рабіць справаздачы аб сваёй рабоце перад шырокімі рабочымі і сялянскімі масамі. Навуковыя дасягненьні БАН трэба шырока папулярызаваць у масах, бо гэта важнейшая задача дзейнасьці БАН, якая да апошняга часу ігноравалася, сапраўды зьяўляецца адным з відаў удзелу БАН у нашым социялістычным будаўніцтве.

Бліжэйшая работа Акадэміі з усёй вострасьцю ўпіраецца ў вырашэньне проблемы навуковых кадраў. Беражна скарыстоўваючы нашы так званыя „старыя“ кадры, трэба ўважліва адносіцца да падрыхтоўкі новых навуковых сіл. Посьпехі социялістычнага будаўніцтва БССР асабліва выяўляюць недахоп нашых навуковых сіл. Гэта яшчэ больш востра адчуваецца ў сувязі са шкодніцкай дзейнасьцю часткі політычна-рэакцыйнай інтэлігенцыі, якая давер‘е да іх з боку савецкай улады скарыстала для сваіх карысных мэт. Шкодніцтва ва ўвесь рост ставіць перад намі задачу падрыхтоўкі навуковых працаўнікоў з радоў пролетарыяту, колгасьнікаў, саўгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас сялянства. Толькі стварыўшы кадры свае інтэлігенцыі, шчыра адданай справе социялістычнага будаўніцтва, мы будзем здольны ажыцьцявіць задачы Кастрычнікавай рэволюцыі. Барацьба за новыя кадры, аднак, ні ў якай меры не абазначае наш разрыў са „старымі“ кадрамі. Трэба рашуча адмесьці настроі, якія прабуюць акляйміць усю нашу беспартыйную інтэлігенцыю, як шкодніцкую. Склад нашых шкодніцкіх організацый відавочна выкрыў, што ў масе сваёй яны формаваліся з былых фабрыкантаў ці з радоў рэакцыйных тэхнічных кадраў, што ня могуць разглядацца як выяўнікі настрояў усёй савецкай інтэлігенцыі. Наадварот, за годы рэволюцыі выявіліся значныя кадры інтэлігенцыі, формальна беспартыйнай, якая шчыра змагаецца за наша социялістычнае будаўніцтва. Гэта зусім зразумела, бо Кастрычнікавая рэволюцыя ўпяршыню ў гісторыі пазбавіла навуковыя сілы ад ярма капіталізму. Згуртоўваючы вакол Акадэміі гэту па сутнасьці нашу савецкую інтэлігенцыю, мы з большым посьпехам пойдзем па шляху выкананьня нашых задач і будзем весьці бязьлітасную барацьбу з клясава-варожымі нам элемэнтамі.

Гэтым артыкулам мы ні ў якай меры зразумела не прэтэндуем закрануць і асьвятліць усе задачы, якія стаяць перад БАН. У недалёкай будучыні пастараемся асьвятліць у друку дзейнасьць і пляны навуковай работы паасобных інстытутаў і катэдраў БАН. І мы ўпэўнены, што партыйная і савецкая грамадзкасьць прыме самы актыўны ўдзел у справе ператварэньня БАН у сапраўдны цэнтар навукова-дасьледчай работы БССР. Сапраўды, ня можа-ж ня цікавіцца партыйная і савецкая грамадзкасьць тым, што робіцца ў БАН, якая ўтварылася толькі дзякуючы Кастрычнікавай рэволюцыі.

*П. Горын.*

# Організацыі Таварыства краяведаў-марксыстаў.

*(Рэзолюцыя організацыйнага сходу Таварыства краяведаў-марксыстаў пры Комакадэміі ЦВК СССР па дакладу Оргбюро Таварыства).*

Організацыйны сход Таварыства краяведаў-марсыстаў пры Комакадэміі і ЦВК СССР наступным чынам характарызуе асноўныя і першачарговыя задачы Т-ва краяведаў-марксыстаў ва ўмовах сучаснага пэрыоду соцыялістычнага будаўніцтва.

I

Заснаваньне Т-ва краяведаў-марсыстаў пры Комакадэміі ЦВК СССР адбываецца ў адзін з найважнейшых гістарычных этапаў пролетарскай рэволюцыі: *Саюз Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік*, як сказаў аб гэтым т. Сталін на XVI зьезьдзе УсеКП(б), *„уступіў у пэрыод соцыялізму“*. Правільнасьць гэтай характарыстыкі сучаснага моманту сьцьверджана сьнежаньскім пленумам ЦК і ЦКК УсеКП(б) і 3 Сэсіі ЦВК СССР пятага скліканьня, якія ў сваіх пастановах першы раз зацьвердзілі не контрольныя лічбы разьвіцьця народнай гаспадаркі, як гэта было да гэтага часу, а разгорнуты комплексны „адзіны плян“ народна-гаспадарчага і культурнага будаўніцтва на 1931 год. Характар і конкрэтны лічбовы зьмест прынятага адзінага пляну 1931 г. паказвае грандыёзныя дасягненьні нашага соцыялістычнага будаўніцтва: ужо на 3-м годзе пяцігодкі соцыялістычнай рэконструкцыі народнай гаспадаркі будзе завершана пабудова фундаманту соцыялістычнай эканомікі. Усьлед за тым, як перад XVI зьездам УсеКП(б) пытаньне „хто каго“ было ўжо канчаткова вырашаным на карысьць соцыялізму ў галіне прамысловасьці, гэта самае пытаньне на карысьць соцыялізму вырашаецца цяпер і ў сельскай гаспадарцы, дзякуючы надзвычайна шпаркаму росту будаўніцтва саўгасаў і колектывізацыі вёскі. Гэтыя посьпехі дыктатуры пролетарыяту ў СССР адбываюцца на фоне бязупынна ўврастаючага крызісу і развалу капіталістычнай сыстэмы. На вачох усяго сьвету сыстэма соцыялізму перамагае, капіталізм ідзе да пагібелі. Капіталісты імкнуцца знайсьці выхад у новых войнах і перш за ўсё ў вайне супроць СССР. Але посьпех СССР натхняе рабочыя і працоўныя масы ня толькі Савецкага Саюзу, але і ўсяго сьвету. Хваля працоўнага ўздыму і соцыялістычнага энтузыязму бязупынна ідзе ўверх. Рабочыя капіталістычных краін імкнуцца знайсьці выхад у рэволюцыі.

Сход краяведаў-марксыстаў заяўляе, што пэрыод рэволюцыйнай эпохі, які перажываем мы, кожнага з удзельнікаў барацьбы за кому-

нізм напаўняе асаблівай бадзёрасьцю і ўпэўненасьцю ў прыходзячай перамозе пролетарскай рэволюцыі.

Гэту бадзёрасьць кожны з краяведаў-марксыстаў павінен уносіць і ў працу ўсіх масавых краязнаўчых організацый. Кожны з краяведаў-марксыстаў ва ўсіх зьвянох масавых краязнаўчых організацый павінен актыўна змагацца за тое, каб і краязнаўчую працу цалкам і поўнасьцю падпарадкаваць задачам далейшага пасьпяховага разьвіцьця соцыялістычнага наступу па ўсяму фронту. Бязьлітаснае змаганьне з усялякай праявай „аполітычнасьці“, „акадэмізму“, адарванасьці ад грандыёзных задач і пэрспэктыў соцыялістычнага будаўніцтва—вось асноўны лёзунг Таварыства краяведаў-марксыстаў.

Абавязковай умовай для краяведаў-марксыстаў у той барацьбе, якую мы вядзем за поўную перабудову савецкага краязнаўства, ёсьць безагаворная і актыўная абарона генэральнай лініі УсеКП(б) ад усялякіх ухілаў і скрыўленьняў як у тэорыі, так і на практыцы. Краявед-марксыст усю сваю штодзённую працу ў масавых краязнаўчых організацыях павінен весьці, выходзячы і грунтуючыся на генэральнай лініі партыі, скарыстоўваючы кожны выпадак для растлумачэньня масам, што толькі бязьлітасная барацьба з правымі і „левымі“ ўхілістамі, што толькі жорсткае ўжываньне ўсіх суровых мер дыктатуры пролетарыяту супроць клясавага ворага далі магчымасьць УсеКП(б) ва ўмовах жорсткай клясавай барацьбы атрымаць пад кіраўніцтвам ленінскага ЦК УсеКП(б) перамогу і давесьці краіну да пасьпяховага заканчэньня двух год і пасьпяховага пачатку трэцяга рашаючага году 5-годкі.

Новы этап соцыялістычнага будаўніцтва характарызуецца між іншым і тым, што процэсы соцыялістычнай рэконструкцыі прасякаюць усё глыбей і глыбей, захапляючы самыя першавінныя асноўныя каморкі гаспадарчага і культурна-бытавога організму краіны. Раён робіцца вузлавым пунктам у вырашэньні проблем гаспадарчага будаўніцтва. Сяло і вёска зьмяняюць свой твар і свой звычайны лад жыцьця, пераходзячы на рэльсы колектывізацыі. Сям'я і асобны ўдзельнік усяго процэсу клясавай барацьбы за соцыялізм перабудоўваецца зусім панowаму, паколькі ўжо і асновы жыцьця шматмільённых мас працоўных — праца — робіцца замест рабскага ярма і цяжкага абавязку „справай гонару, доблесьці і славы“, робіцца об'ектам соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва.

## II.

Год назад на конфэрэнцыі аграрнікаў-марксыстаў пры Комакадэміі т. Сталін ужо заявіў, што ў Савецкім Саюзе адбываюцца процэсы грандыёзнага навукова-тэорэтычнага і практычнага значэньня. Але калі практыка соцыялістычнай перабудовы краіны сапраўды робіць цуды, дык тэорытычнае абагульненьне ўсяе гэтае практыкі недапушчальна адстае ад усяго ходу жыцьця. А між тым навукова-тэорытычная праца павінна асьвятляць шлях практыкі. Апошні год у галіне навуковай працы адзначыўся якраз рашучай перабудовай усяго навуковага фронту тварам да тых гістарычных процэсаў, якія адбываюцца як у нас у СССР, так і ў капіталістычных краінах сьвету пад значным уплывам СССР, ходу падзей у першай пролетарскай дзяржаве.

Але ці змогуць савецкія дзяржаўныя навуковыя організацыі хоцьбы і пры ўмове іх шпаркага росту і разьвіцьця ахапіць толькі сваімі

наяўнымі сіламі ўсю бязьмежную колькасьць і featuresнастайнасьць працэсаў, якія адбываюцца ў галіне палітычнай, гаспадарчай і культурна-бытавой перабудовы краіны. Асабліва ў самых нізінах гэтага жыцьця, у глухіх акраінных раёнах вялізнага СССР.—Не, ня змогуць. І навуковыя савецкія організацыі адным з мэтодаў сваёй савецкай працы заклікаюць сабе на дапамогу савецкую грамадзкасьць, самадзейнасьць рабочых колгасьнікаў, моладзі, жанчын і нават дзяцей-піонэраў.

*Краязнаўства* як раз і ёсьць адзін з мэтодаў мобілізацыі мільённых мас для ўсебаковага вывучэньня раёну, гораду, сяла і вёскі для дапамогі нашым навуковым плянуючым і опэрацыйным органам.

Культпроп ЦК УсеКП(б) у сваім лісьце 17 лістапада 1930 г. аб краязнаўстве падкрэсьлівае як раз гэта значэньне масавага краяведнага вывучэньня. Адгэтуль першай задачай марксыстаў-краяведаў ёсьць пэратварэньне краязнаўства з аматарскага і сузіральнага вывучэньня краю, дзеля самога вывучэньня, у „адну з форм актыўнага ўдзелу мас у соцбудаўніцтве“.

У гэтым палітычнае значэньне краязнаўчага руху.

Але вялікім ёсьць і культурнае значэньне краязнаўства, бо яно ёсьць і адзін з лепшых спосабаў *„самага ўзбраеньня працоўных мэтодамі навуковага аналізу і дасьледваньня ў іх штодзённай працы на прадпрыемстве, колгасе, школе“* і г. д.

Краязнаўства ў самыя кароткія тэрміны можа зрабіцца адной з самых багатых крыніц вылучэньня з рабочых і колгасьнікаў у навуку, адной з лепшых школ для стварэньня пролетарскіх навуковых кадраў.

Але апрача гэтых палітычных культурных момантаў краязнаўства павінна зьявіцца магутным сродкам садзейнічаньня росту тэмпаў соцыялістычнай гаспадаркі. Апрача паасобных вынаходніцтваў у галіне разьвіцьця прыродна-вытворчых сіл, паляпшэньня ў галіне прамысловай і сельска-гаспадарчай вытворчасьці,—краязнаўства можа адыграць вялізную ролю ў тым, што масавыя арміі краяведаў змогуць распачаць барацьбу за сустрэчны комплексны плян соцыялістычнай рэконструкцыі свайго раёну ў цэлым. Праз арміі краяведаў і іх працу па комплекснаму сустрэчнаму раённаму пляну можа зьдзейсьніцца думка т. Леніна пры апрацоўцы ім 10 год назад пляну ГОЭРЛО, што ўвесь комплекс пытаньняў, зьвязаных з электрафікацыяй раёнаў будзе перададзены на абгаварэньне мас (артыкул т. Кржыжаноўскага „К 10-летию плана ГОЭРЛО“).

Вось значэньне краязнаўства з пункту погляду палітычнай, гаспадарчай і культурнай яго ацэнкі.

Але які стан гэтага кразнаўства.

## III.

Першы сход Т-ва краяведаў-марксыстаў констатуе, што да апошняга часу краязнаўчы вучастак ідэолёгічнага фронту быў адным з найбольш адсталых вучасткаў. З прычыны амаль поўнай адсутнасьці ўвагі да краязнаўства з боку партыйна-савецкай грамадзкасьці, з прычыны слабага ўцягненьня марксыстаў і партыйных сіл у краязнаўчыя організацыі—апошнія ў шэрагу месц РСФСР зрабіліся цэнтрамі зьбіраньня варожых соцыялістычнаму будаўніцтву элемэнтаў (Кондрацьцевы, прадстаўнікі розных шкодніцкіх груповак і г. д.). У БССР краязнаўчыя організацыі аказаліся па сутнасьці ў руках контр-рэволюцыі



нага нацдэмократызму. На Украіне ў кіруючых цэнтрах краязнаўства панавалі яфрэмаўцы і іншыя контр-рэволюцыйныя шкоднікі. У Закаўказьзі масавае краязнаўства да гэтага часу не разьвіваецца, існуючыя організацыі заражоны аполітычнасьцю і „акадэмізмам“. У Сярэдняй Азіі асноўным і політычна шкодным недахопам ёсьць тое, што ў краязнаўства ня былі ў здавальняючай ступені ўцягнуты кадры мясцовых карэнных нацыянальнасьцяй.

Сход са здавальненьнем адзначае, што ў краязнаўчых організацыях РСФСР і БССР за апошні пэрыод зроблен круты паварот і ёсьць значныя дасягненьні ў справе рашучага павароту краязнаўства тварам да проблем соцыялістычнага будаўніцтва, у справе ўдаленьня з краязнаўчых організацый чужых і проста антысавецкіх элемэнтаў.

Але ўсё-ж сход лічыць, што агульны стан краязнаўства СССР у цэлым зьяўляецца яшчэ далёка нездавальняючым.

Аднак, за апошні пэрыод створаны ўсе асноўныя прадпасылкі для поўнага росквіту і разьвіцьця савецкага краязнаўства на новай базе: з аднаго боку ўзрастае і організацыйна афармляецца актыўная зацікаўленасьць рабочых і колгасных мас да краязнаўства, з другога— шэраг кіруючых органаў партыйнага, савецкага і профэсійнага будаўніцтва выдалі важнейшыя дырэктывы для садзейнічаньня і перабудовы краязнаўчага руху на новых падставах.

Пры такіх умовах організацыя Т-ва краяведаў-марксыстаў пры Комакадэміі павінна быць пачаткам разгорнутага марксыцкага наступу на фронце краязнаўства.

IV.

Асноўнымі і першачарговымі задачамі Т-ва краяведаў-марксыстаў на бліжэйшы пэрыод часу сход лічыць наступныя:

1. Аб‘яднаньне навуковых і грамадзка-політычных працаўнікоў СССР, стаячых на пляцформе марксыцка-ленінскай мэтодолёгіі і актыўна ўдзельнічаючых у савецкім краязнаўстве ці садзейнічаючых разьвіцьцю краязнаўчага руху, для навуковай распрацоўкі і пропаганды марксыцка-ленінскай мэтодолёгіі і мэтодыкі савецкага краязнаўства.

У гэтым напрамку трэба дабіцца, каб унутры асноўных масавых краязнаўчых організацый былі створаны баявыя групы ваяўнічых краяведаў-марксыстаў, працуючых пад непасрэдным кіраўніцтвам мясцовых марксыцка-ленінскіх навуковых устаноў і мясцовага партыйнага кіраўніцтва.

Таварыства краяведаў-марксыстаў згуртоўваючы ў сваіх шэрагах усе мясцовыя групы марксыстаў, павінна дабіцца безадкладных і рэальных вынікаў у справе стварэньня тэорытычна-вытрыманай продукцыі кіраўнічай краязнаўчай літаратуры.

2. Падрыхтоўка і вылучэньне кадраў краяведаў-марсыстаў у першую чаргу з шэрагаў членаў УсеКП(б), ударнікаў, рабочых і колгасьнікаў, батракоў розных нацыянальнасьцяй, якія ўваходзяць у склад СССР.

У гэтым напрамку Т-ва павінна дабіцца разгортваньня энэргічнай працы цэнтральных і мясцовых органаў народнай асьветы па падрыхтоўцы новых кадраў краязнаўцаў як вышэйшай кваліфікацыі (праз Вузы, асьпірантуру і г. д.), так і сярэдняй і ніжэйшай падрыхтоўкі. Т-ва краяведаў-марксыстаў павінна разгарнуць працу па

марксыцкай падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы савецкага актыву шляхам завочных курсаў, консультацый, адпаведных аддзелаў у часопісах і г. д.

3. Правядзеньне ў жыцьцё асноўных дырэктыў партыі ў галіне савецкага краязнаўства і актыўная барацьба супроць буржуазнай ідэолёгіі ў краязнаўстве, антымарксыцкіх плыняў і правядзеньня правых і „левых“ ухілаў у тэорыі і практыцы савецкага краязнаўства.

У гэтым напрамку Т-ва краяведаў-марксыстаў павінна дабіцца поўнага і разгорнутага выкрыцьця ўсяе краязнаўчае літаратуры, дзе быў чужы ідэолёгічны ўплыў ці дзе дазволены нявыразныя ці няправільныя формулёўкі задач і сутнасьці савецкага краязнаўства.

Лічачы асноўнай небясьпекай у краязнаўстве праваопортуністычны ўхіл (змазваньне фактаў клясавай барацьбы, лібэральныя і прымірэнчыя адносіны да буржуазных і немарксыцкіх краяведаў, невыстарчальна рашучая палітычна загостраная барацьба за карэнную перабудову краязнаўчай сыстэмы, адсутнасьць жорсткай самакрытыкі ў шэрагах новых савецкіх краязнаўчых організацый і г. д.)—Т-ва краяведаў-марксыстаў павінна рашуча змагацца ў той-жа час і супроць „левых“ загібаў у краязнаўстве (адмаўленьне якой-небудзь каштоўнасьці сабранага старым краязнаўствам фактычнага матар‘ялу, нігілістычныя адносіны да шэрагу навуковых прац па гісторыі, этнографіі, археолёгіі, фольклёру і г. д., поўнае адмаўленьне ад скарыстаньня старых краязнаўчых кадраў, якія далучыліся да савецкага краязнаўства і г. д.).

4. Практычнае правядзеньне ў краязнаўчым руху новых задач, якія стаяць перад усім навуковым фронтам — форсаванае вывучэньне і тэорытычнае абагульненьне практыкі соцыялістычнага будаўніцтва ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, шляхам уцягненьня краязнаўчых організацый у самыя процэсы соцыялістычнай рэконструкцыі на падставе комплекснага навуковага дасьледваньня кожнага з раёнаў СССР.

У гэтым напрамку Т-ва краяведаў-марксыстаў павінна даць разгорнутую програму генэральнага пляну краязнаўчых прац як у сэнсе ўдзелу ў выкананьні гаспадарча-культурнай пяцігодкі СССР, так і ў сэнсе сваечасовай падрыхтоўкі краяведаў да ўдзелу ў распрацоўкі генпляну соцыялістычнага будаўніцтва.

## V.

На падставе гэтай рэзолюцыі організацыйны сход даручае абранаму савету Т-ва:

1. У месячны тэрмін заснаваць організацыйную сувязь з краязнаўчымі цэнтрамі саюзных рэспублік.

2. Апрацаваць і апублікаваць разгорнутую дэклярацыю-пляцформу Т-ва краяведаў-марксыстаў на агульнай падставе апошніх пастаноў партыйных і савецкіх кіруючых органаў і вучоту вынікаў 10 Пленуму ЦБК РСФСР, апошніх падзей у краязнаўстве БССР і стану краязнаўчай справы ў УССР, Закаўказьзі і Сярэдняй Азіі.

*10 пленум ЦБК РСФСР.*

Ф. П. Садоўскі.

# Да XIII гадавіны Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі.

23 лютага гэтага году споўнілася XIII год з таго знамянацельнага ў гісторыі савецкага будаўніцтва дня, калі, вымушаны абставінамі, малады, толькі-толькі яшчэ перамогшы над векавечным сваім ворагам, расійскі пролетарыят, для барацьбы з насядаючай з усіх бакоў унешняй і ўнутранай контр-рэволюцыяй і інтэрвэнцыяй, утварыў узброены свой браніраваны авангард—Чырвоную армію. Утварэньне рэгулярнай Рабоча-Сялянскай Чырвонай арміі, заместа дзейнічаючых да гэтага супроць ворагаў пролетарыяту разрозьненых, не падпарадкаваных адзінаму цэнтру, адзінаму штабу кіраваньня, атрадаў Чырвонай гвардзіі, было выклікана тым, што ў палове 1918 году, барацьба капіталу з перамогшым пролетарыятам Расіі прыняла форму арганізаванага інтэрвэнтамі нападу на РСФСР моцных, арганізаваных белых армій, узброеных апошнімі дасягненьнямі міравой вайсковай тэхнікі. Абыйсьціся пры гэтых умовах выстаўленьнем прыкладна проціў чэха-славацкіх белых банд ці проціў армій белых казацкіх атаманаў разрозьненых атрадаў Чырвонай гвардзіі было нямысьліма, небясьпечна і рызыкоўна для маладой Савецкай рэспублікі. Неабходна было ўтварыць такую клясавую армію пролетарыяту, якая-б забясьпечыла перамогу над ворагам у непасрэднай вайне, якая служыла-б у далейшым сталым узброеным авангардам пролетарыяту і яго дзяржавы, які адным нават фактам свайго існаваньня зьяўляўся-б гарантыяй ад небясьпекі нападу на Савецкія рэспублікі з боку акаляючых гэтыя рэспублікі капіталістычных дзяржаў. Такую гарантыю перамогшаму пролетарыяту, арганізаваўшамуся ў сваю пролетарскую дзяржаву Саветаў, магла даць клясавая, арганізацыйна моцная, выхаваная клясава пролетарскі, састаяшчая з рабочых, працоўных сялянскіх і іншых працоўных мас, Чырвоная армія. Вось чаму павінна быць напэўна зразумелым і яскравым для кожнага той прынцып, які ляжыць у аснове комплектаваньня радоў Чырвонай арміі. Гэты прынцып заключаецца ў тым, што воінам Рабоча-Сялянскай Чырвонай арміі можа быць толькі працоўны—пролетар, батрак, бядняк, серадняк, саматужнік і рамесьнік, які ня ўжывае чужога труда. Усе-ж непрацоўныя, эксплёататарскія групы пазбаўлены гэтага права і прыцягваюцца да ўплаты вайсковага падатку, ці для абслугоўваньня тылоў. Гэтым прынцыпам комплектаваньня радоў Чырвонай арміі і гарантуецца пролетарская чыстата, сугубая клясавасьць Чырвонай арміі. Вось чаму гэты прынцып з першых дзён арганізацыі Чырвонай арміі і на весь час захоўваецца і застаецца непахісным.

З моманту організацыі Рабоча-Сялянскай Чырвонай арміі прайшло XIII год. Гэтыя годы для гісторыі нашай Чырвонай арміі зьяўляюцца слаўнымі годамі перамог на фронце вайсковым, гаспадарчым, на фронце вучобы арміі перамагаць у далейшым у апошняй рашаючай схватке з міравой буржуазіяй, з міравым капіталізмам, на фронце пролетарскага клясавага выхаваньня байцоў, на фронце ўдзелу Чырвонай арміі ў розных самых размаітых галінах соцыялістычнага будаўніцтва.

У выніку правідловай організацыі пролетарска-клясавай Чырвонай арміі, у выніку выхаваньня ў байцоў пачуцьця неабходнасьці зьнішчэньня капіталізму, выхаваньня клясавай нянавісьці да міравой буржуазіі,—мы маем бліскучыя перамогі Чырвонай арміі ў грамадзянскай вайне—перамогі, якія складаюць найлепшыя, найпрыгажэйшыя старонкі ў гісторыі дзяржавы Саветаў. Чым, як ня клясавай сьвядомасьцю, як ня клясавай нянавісьцю можна тлумачыць перамогу Чырвонай арміі—галоднай, разутай, разьдзетай,—над сытай, абутай, адзетай, узброенай да зубоў белай арміяй інтэрвэнтаў. Энтузыязм, прагнае імкненьне да абавязковай перамогі, менавіта, і прывялі да бліскучых перамог пролетарскай дзяржавы на вайсковых франтох. Яскравейшым прыкладам гэтага энтузыязму і імкненьня да перамогі зьяўляецца ўвесь пэрыод грамадзянскай вайны.

Прагучэлі кананады і змоўклі. Спынілася непасрэдная вайсковая барацьба, скончылася вайна. Настаў пэрыод мірнага гаспадарчага будаўніцтва. На першых парах гэтага гаспадарчага будаўніцтва патрэбны былі гэроічныя патугі, масавы ўдзел організаваных, дысцыплінаваных мас на пэўных вучастках гаспадарчага фронту, каб рашуча пасунуць наперад разьвіцьцё вытворчых сіл Савецкай краіны. І Чырвоная армія набывае выгляд трудавой арміі. На трудавым фронце яна змагаецца з такім-жа запалам, энтузіязмам і парывам, як і на вайсковых франтох. Чырвоная казарма становіцца кузьняй для выкоўваньня змагароў на гаспадарчым фронце.

Пераход на шлях разгорнутага соцыялістычнага будаўніцтва на рэйках новай экономічнай політыкі патрабаваў падрыхтоўкі шырокіх мас гораду і вёскі і прыцягненьня іх да соцыялістычнага будаўніцтва. Чырвоная армія ў гэты пэрыод стала школай (і прытым школай масавай) для падрыхтоўкі з рабоча-сялянскай моладзі, узятай у рады Чырвонай арміі, грамадзкіх працаўнікоў для гораду і вёскі, для падрыхтоўкі з іх масавага рабоча-сялянскага савецкага, коопэрацыйнага, профэсыянальнага і іншага актыву. З гэтай задачай Чырвоная армія добра справілася. Чырвоная казарма з месца муштры, аўтаматызацыі моладзі, выкалачваньня з яе ўсяго чалавечага, як гэта было ў старой царскай арміі, ператварылася ў месца вучобы, выхаваньня, падрыхтоўкі да актыўнага ўдзелу моладзі ў соцыялістычным будаўніцтве Савецкай краіны. Паставіўшы перад сабою задачу не выпускаць з казармы назад на фабрыку, на завод, у вёску ніводнага няпісьменнага, Чырвоная армія з посьпехам гэтага дабілася. Вучоба ўсіх відаў у Чырвонай арміі займае вельмі і вельмі паважнае месца ўвесь час яе існаваньня.

Магутны экономічны ўздым краіны, на базе разьвіцьця буйнай дзяржаўнай прамысловасьці, гэтай вядучай галіны ўсёй народнай гаспадаркі, даў мажлівасьць, зрабіў неабходным пераход краіны ў рашучы наступ на капіталістычныя элемэнты краіны, зрабіў неабходным рашучае разгортваньне соцыялістычнага наступленьня па ўсяму фронту, ліквідацыю апошняга аплоту капіталізму ў нашай краіне—кулацтва, як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі.

Чырвоная армія ў гэты пэрыод стала актыўным змагаром і прапагандыстым за генэральную лінію Комуністычнай партыі. Праз практычны ўдзел Чырвонай арміі ў колгасным і саўгасным будаўніцтве, праз сувязь і трудавы ўдзел вайсковых часьцей у ліквідаваньні прарываў у некаторых галінах і на некаторых вучастках прамысловасьці, Чырвоная армія—заўсягдашні ўдзельнік у справе соцыялістычнага будаўніцтва. Чырвоная армія выхавана ў энтузыязьме барацьбы за соцыялізм. Паміж соцыялістычным будаўніцтвам і Чырвонай арміяй ў наліччы тое адзіненьне, тая сувязь, якой ніколі ня можа быць паміж гаспадарчым будаўніцтвам і арміяй у капіталістычных дзяржавах. Чырвоная армія заўжды ў курсе экономічнай політыкі свае пролетарскае дзяржавы. Да гэта напэўна зразумела, бо сама Савецкая дзяржава, перамогшага ў кастрычніку 1917 гаду пролетарыяту, адстояна патугамі гэроічнай Чырвонай арміі: яна—непадзельнае дзецішча пролетараў фабрык і заводаў, батрацтва, беднаты і серадняцтва вёсак і тых-жа пролетараў, батрацтва, беднаты і серадняцтва, але толькі адзетых у шэрыя шынэлі.

Вось у кароткіх рысах асноўныя этапы, якія пройдзены Чырвонай арміяй за XIII год свайго слаўнага існаваньня. Але-ж трэба адзначыць, што ва ўсе гэтыя пэрыоды асноўнаю заботаю Чырвонай арміі—была забота ў дасканаласьці аўладаць прэмудрасьцю вайсковай вучобы, вайсковай тэхнікі, прэмудрасьцю забараніць ва ўсякі час сваю Савецкую краіну ад пасягацельства, ад нападу на яе ўзброенага да зубоў сусьветнага імпэрыялізму. Трымаць порах сухім, быць на кожны момант гатовай да забароны свае соцыялістычнае бацькаўшчыны, дасканальна аўладаць вайсковай тэхнікай—вось асноўныя ўстаноўкі работы Чырвонай арміі ў рабоце са сваімі байцамі.

Жыцьцёвасьць гэтых установак, іх актуальнасьць вельмі зразумела, калі ўзяць капіталістычнае, варожае абкружэньне нашай савецкай краіны. Зараз на зямной кулі існуюць дзьве процілеглыя, выключаючыя адна другую экономічныя і палітычныя сыстэмы—соцыялістычная на аднэй шостай частцы зямлі і капіталістычная на пяці шостых частках. Гэтыя дзьве розныя сыстэмы ня змогуць ужыцца і саіснаваць адна поруч з другой. Рана ці позна (і хутчэй рана, чым позна) капіталістычная сыстэма захоча зьнішчыць раз назаўсёды ненавісную ёй сыстэму соцыялістычную. З гэтай прычыны весь пэрыод саіснаваньня гэтых дзьвёх сыстэм ёсьць пэрыод поўны небясьпекай контр-рэволюцыйнай вайны капіталістычнай сыстэмы супроць соцыялістычнай, пэрыод агрэсыўнай унешняй політыкі імпэрыялістычных дзяржаў, пэрыод экономічнага ўціску і блёкады капіталістычных дзяржаў у адносінах да СССР, пэрыод уціску, провакацыі, ілжы, ...веты з накіраваньнем усяго гэтага арсэналу да аднэй пажаданай мэты—нізрынуцьця дыктатуры пролетарыяту ў адзінай у сьвеце краіне ў СССР.

Само па сабе зразумела, што асноўнай гарантыяй існаваньня і далейшага пасьпяховага разьвіцьця СССР, на раду з яго політыкай міру, зьяўляецца моцны, броняваны кулак пролетарыяту ў асобе яго гонару, яго Чырвонай арміі. Чым мацней будзе Чырвоная армія, чым лепш яна будзе выхавана політычна, клясава, чым больш яна будзе клясава-асьвядомлена, чым лепш яна будзе аснашчана вайсковай тэхнікай,—тым меншая небясьпека нападу на нас з боку акружаючых нас імпэрыялістычных драпежнікаў, якія ўвесь час ліхаманкава ўзбройваюцца пад усыпляючыя, ілжывыя пацыфіцкія балбатаньні аб разброеньні і наадварот.

Гэта асабліва чотка трэба разумець зараз на XIV годзе існаваньня савецкай сыстэмы.

Тая акалічнасьць, што мы зараз рашуча перайшлі і вядзем соцыялістычнае наступленьне па ўсяму фронту, што мы зараз шпарка будуем соцыялізм у вёсцы, у сельскай гаспадарцы, якая пры сыстэме індывідуальнай гаспадаркі была базай росту капіталізму, а зараз, пры рашучым павароце яе на шлях соцыялізму, перастала быць базай капіталізму, што мы ліквідуем кулацтва, як клясу, на базе суцэльнай колектывізацыі, ліквідуем той апошні аплот унутранага міравога капіталізму, які́м зьяўляўся раней кулак у вёсцы; тое, што мы завяршаем пабудову фундаманту соцыялістычнай экономікі ў СССР; тое, што пасьпяховае соцыялістычнае будаўніцтва ўзьнімае нявіданы энтузіязм барацьбы за соцыялізм з боку пролетараў усіх пагалоўна капіталістычных краін і выклікае сымпатыю да сябе пролетарскіх мас усяго міру; тое, што СССР з яго ленінскай нацыянальнай політыкай будзіць, рэволюцыянізуе, падымае супроць векавога нявольніцтва колёніяльныя і паўколёніяльныя масы і выклікае валікую сымпатыю гэтых мас да СССР,— усё гэта стварае з СССР вялікую пагрозу капіталістычнаму міру, усё гэта выклікае зьвярыную нянавісьць міравога капіталізму да СССР. Зараз міжнароднае становішча такое, якое характарызуецца вельмі агрэсыўнай політыкай капіталістычных дзяржаў на чале з Францыяй у адносінах да СССР. Гэтая агрэсыўнасьць яшчэ больш небясьпечна для СССР таму, што ў асобе фашыстоўскіх урадаў Польшчы, Румыніі міравы імпэрыялізм мае адданых сабак, верных імпэрыялізму цэрбэраў, гатовых па загаду з Парыжу кінуцца на СССР кожную хвіліну. Пагэтаму справа баяздольнасьці Чырвонай арміі ёсьць забота ўсёй савецкай грамадзкасьці, а ня толькі вайсковага ведамства.

Савецкая грамадзкасьць—у горадзе і на вёсцы—павінна агарнуць Чырвоную казарму, чырвоных байцоў такой заботай, каб даць яму мажлівасьць ахвотна і лёгка аўладаць навукай змаганьня з заклятым ворагам—з капіталізмам.

БССР зьяўляецца краінай, якая ляжыць на мяжы з капіталістычным мірам. Вайсковыя падзеі ў будучай вайне будуць у першую чаргу адбывацца на тэрыторыі БССР. Пагэтаму пролетары, батрацтва, колгасьнікі, бедната і серадняцтва БССР пытаньне ўвагі да Чырвонай арміі, пытаньне вайсковай справы, пытаньне абароны краіны павінны вырашаць асабліва ўважліва, ставіць асабліва ахвотна. Яднаньне пролетарыяту і працоўных мас БССР з Чырвонай арміяй усякімі спосабамі павінна заняць належнае месца ў працы грамадзкіх організацый БССР.

Пытаньне небясьпекі вайны і інтэрвэнцыі ў сучасны пэрыод з усёй вастратой напамінае нам і тое, што і ўнутры БССР інтэрвэнты мелі сваю агэнтуру, ў асобе беларускага контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму які ўсёй сваёй працай у БССР рыхтаваў гэтую інтэрвэнцыю. Пагэтаму ў гадавіну Чырвовай арміі неабходна з усёй яскравасьцю паставіць перад шырокімі масамі пролетарыяту, батрацтва, колгасьнікаў, бедняты і серадняцтва пытаньне бязьлітаснай барацьбы з нацыянал-дэмократызмам, з пераплятаючымся з ім вялікадзяржаўным вялікарускім шовінізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, паставіць пытаньне рашучага правядзеньня ленінскай нацыянальнай політыкі.

Умовы будучай вайны, уяўляючай з сябе спаборніцтва вайсковай тэхнікі, сьціраюць мяжу паміж фронтам і тылам, паміж арміяй і мір-

ным насельніцтвам. Пагэтаму вайсковаму пытаньню павінна быць аддана максымум увагі з боку ўсіх пластоў працоўных мас—пролетараў гораду і вёскі, колгасьнікаў, беднаты, серадняцтва, працоўных мас гораду і мястэчак. Трэба, каб кожны працоўны дастаткова добра ўладаў зброяй, трэба, каб кожны з нас меў дастатковыя веды аб спосабах зашчыты ад атрутных газаў, барацьбы супроць кожнага віду вайсковай зброі. Гэта асабліва яшчэ трэба мець на ўвазе з тае прычыны, што апошні бой за соцыялізм з міравым капіталам запатрабуе масавых сіл, нязьлічоных полчышчаў пролетарскіх, батрацкіх, колгасьніцкіх, бядняцкіх і серадняцкіх мас.

У сувязі з гэтым у гадавіну Чырвонай арміі ў 1931 годзе павінна з усёй чоткасьцю быць пастаўлена пытаньне аб неабходнасьці яшчэ большага ўзмацненьня, яшчэ большага ажыўленьня працы Осоавіяхіму. Осоавіяхім павінен стаць яшчэ больш масавай, больш жывой, працаздольнай організацыяй, Осоавіяхім павінен узяць на сябе адказнасьць за сапраўдную, дастатковую падрыхтоўку шырокіх працоўных мас да аўладаньня вайсковай тэхнікай. Партыйныя організацыі на мясцох, а таксама і самі раённыя таварыствы Осоавіяхіму павінны праверыць гэтую гатоўнасьць авіяхіму.

Краязнаўчыя організацыі на мясцох у гадавіну Чырвонай арміі павінны паставіць перад сабою задачу вывучэньня гісторыі Чырвонай арміі, яе дзейнасьці ў барацьбе з ворагамі саветаў, вывучэньня партызанскага руху ў БССР і інш. Глеба для гэтага ў БССР вельмі адпавядаючая, бо БССР у грамадзянскай вайне служыла пляцдармам апошняй.

Агульнымі патугамі ўсіх організацый неабходна зрабіць нашу краіну саветаў настолькі моцнай і абароназдольнай, каб у апошняй схватцы труда з капіталам забясьпечыць перамогу пролетарыяту ва ўсім сьвеце.

Няхай жыве Чырвоная армія!

---

**Матвяёнак.**

# Шлях да Чырвонай арміі ў БССР.

Першая ў сьвеце пролетарская рэволюцыя ў нашай краіне выклікала да сябе адразу-ж самую шалёную нянавісьць расійскай і замежнай буржуазіі, організаваўшых значныя капіталістычныя сілы Захаду на барацьбу з маладой Савецкай Рэспублікай.

Грамадзянская вайна на Беларусі пачалася з моманту, калі ў 1918 годзе на абшарах Савецкай Беларусі стаў разгульваць і рабаваць гарады і вёскі корпус Доўбар-Мусьніцкага. Магутнай сілай, якую сустрэлі белапольскія легіёны былі організаваўшыяся ў сувязі з гэтым на БССР партызанскія атрады Чырвонай гвардыі, якія потым, пераварыўшыся ў рэгулярныя палкі Чырвонай арміі, гэроічна прайшлі ўсе этапы грамадзянскай вайны з белапанскай Польшчай.

Пастановаю 3-й Паўночна-Заходняй абласной партыйнай конфэрэнцыі бальшавікоў у канцы сьнежня 17 году былі заснованы атрады Чырвонай гвардыі па ўсіх павятовых гарадох Савецкай Беларусі.

Да студзеня месяца, у выніку гэтай дырэктывы, у кожным павятовым горадзе аформілася Чырвоная гвардыя. Створаны былі каманды чалавек па 250—300.

У гэты-ж час разьвіваліся вайсковыя дзеяньні з белай Польшчай. 20-га студзеня корпус Доўбар-Мусьніцкага заняў Бабруйск. Трохі раней быў заняты Рагачэў, Дарагабуж. Польскія легіянэры падступалі пад Асіпавічы і непасрэдна пагражалі Менску, а з боку Дарагабужа наступалі на Віцебск. Чырвоную гвардыю зараз-жа накіравалі на бой з белапалякамі. Старая армія, якая ня была яшчэ поўнасьцю дэмобілізавана, і таму лепшыя часткі яе, папоўненыя чырвонагвардзейцамі, былі кінуты ў бой з белымі. Бальшавіцкая агітацыя, пранікаўшая ў польскае войска, рабіла належную справу, паніжаючы яго баяздольнасьць, дзякуючы чаму асабліва рашучай барацьбы з іхняга боку не магло быць. Так, напрыклад, супроць цэлага корпусу, які знаходзіўся ў Рагачэўшчыне і Бабруйшчыне, чырвоныя здолелі выслаць пад Рагачэў толькі адзін латыскі полк, эскадрон кавалерыі, рэшткі сібірскага (Сымбірскага?) палка, які праяжджаў праз Рагачэў з фронту ў глыб Расіі і бронецягнік другой арміі ў складзе двох вагонаў з байцамі, пераважна матросамі. Асобны атрад Чырвонай гвардыі, які быў уведзены ў вайсковыя опэрацыі супроць войскаў Доўбар-Мусьніцкага, складаўся з 300 чалавек, з якіх да 200 чалавек было матросаў, паходзіўшых з Беларусі, якія к гэтаму часу былі дэмобілізаваны з флёту. Гэтых сіл, у параўнаньні з польскімі сіламі, было мала. Але рэволюцыйны энтузыязм удзельнікаў быў настолькі вялікі, што перамога аказалася на баку бальшавіцкіх атрадаў. 24-га студзеня была атрымана

першая перамога над белапалякамі пад станцыяй Ясень. Хутка пасьля гэтага былі вызвалены ад польскіх легіянэраў Рагачэў, Жлобін, Дарагабуж. Польская дывізія, якая знаходзілася паміж Віцебскам і Дарагабужам, была разброена пад Віцебскам 30-га студзеня. У самы хуткі час можна было спадзявацца дакончыць ліквідацыю ворага.

Але наступленьне немцаў, якое пачалося ў гэты час, дзякуючы спыненьню мірных перамаўленьняў з імі, пашкодзіла канчаткова расправіцца з белапалякамі. 20-га лютага польскія легіянэры занялі Менск, 21-га лютага ў Менск уступілі немцы. Немцы адразу падзялілі функцыі з белапалякамі, накіраваўшы наступленьне апошніх на ўсходнюю частку Беларусі. Зноў былі заняты белапалякамі Бабруйск, Жлобін, Рагачэў і г. д.

У гэты час Чырвоная гвардыя папоўнілася новымі кадрамі сьвядомых рэволюцыянэраў-гэрояў, якія пад кіраўніцтвам бальшавіцкае партыі адважна, не шкадуючы свайго жыцьця, змагаліся з белапалякамі аж да самага сканчэньня грамадзянскай вайны.

Организацыя партызанскіх атрадаў, якія адыгралі такую надзвычайна вялікую ролю ў пачатку грамадзянскай вайны, якія ў далейшым яе ходзе стварылі найбольш надзейныя кадры Чырвонай арміі, праводзілася пад непасрэдным кіраўніцтвам і па ўказаньнях бальшавіцкіх партыйных камітэтаў, пачынаючы ад абласнога і канчаючы мясцовымі. У гісторыі Беларусі было два важнейшых моманты, калі организацыя партызанскіх сіл праводзілася надзвычайна інтэнсыўна і мела самае найвялікшае падтрыманьне і водгук з боку працоўных мас. У першы раз вялізарная маса рабочых і працоўнага сялянства Беларусі ўступіла ў партызанскія атрады Чырвонай гвардыі ў другой палове лютага 1918 году, у сувязі з окупацыяй Беларусі белапалякамі і немцамі, і другі раз у жніўні-верасьні 19 году, пасьля таго, як 19-га жніўня (н. ст.) быў заняты палякамі Менск. І ў першым і ў другім выпадку бальшавіцкае партыйнае кіраўніцтва толькі адно і здолела павесьці гэтую организацыйную справу, узьняць яе на высокую ступень, уцягнуць у партызанскія атрады тысячы працоўных мас. Так, пасьля заняцьця Менску, организацыяй партызанскіх атрадаў кіравала падпольная бальшавіцкая организацыя ў Менску праз спэцыяльную камісію ў складзе т. т. Шаранговіча, Яна і Ляўкова. У лютым 1918 году агульныя ўказаньні аб организацыі партызанскіх атрадаў даваў паўночна-заходні абласны партыйны камітэт, а непасрэднае кіраўніцтва гэтаю справаю ажыцьцяўлялі бальшавіцкія павятовыя камітэты.

Як толькі пачалося новае наступленьне белапалякаў, у сярэдзіне лютага 1918 году павятовыя партыйныя і вайскова-рэволюцыйныя камітэты заклікалі масы да ўступленьня ў Чырвоную гвардыю. Так, напрыклад, Быхаўскі партыйны і вайскова-рэволюцыйны камітэт пісалі ў сваёй адозьве: „Таварышы. Вораг блізка. Ён хоча перашкодзіць спакойнай працы земляроба, ён імкнецца пазьдзекавацца над нашымі бацькамі, жонкамі, сёстрамі. Вораг імкнецца зьнішчыць нашы рэволюцыйныя заваёвы і зноў пасадзіць нам на карак пана і ўрадніка. Пішэцеся ў Чырвоныя атрады абароны“ і г. д.

Адозвы рабілі надзвычайнае ўражаньне. Батрацтва, бедната і некаторая частка серадняцтва ў значнай колькасьці запісвалася ў Чырвоную гвардыю. Некаторыя буйнейшыя вёскі давалі такую вялікую колькасьць добраахвотнікаў у Чырвоную гвардыю, што з іх организоўваліся спэцыяльныя атрады чалавек да 300 і больш, якія потым пры организацыі Чырвонай арміі зрабіліся асобнымі ротамі і нават

батальёнамі асобных стралковых палкоў. Як масавыя атрады, можна вызначыць Н.-Быхаўскі, які складаўся з 400 з лішкам чалавек, які пазьней склаў дзьве роты 152 стралковага палка, і ў складзе гэтага палка прайшоў усе этапы грамадзянскай вайны з Польшчай, аж да Варшаўскага наступленьня. Вельмі буйныя атрады, у колькасьці 200—300 чалавак, былі створаны ў вёсках Вільчына, Гадзілавічы, Камарычы, Благавічы і інш.

На фронт паміж Рагачэвам і Бабруйскам пасылаюцца ўсё новыя і новыя чырвоныя атрады. Але сіл не хапала. Пасьля самых адчайных боек з белапалякамі чырвоныя адступаюць. З 20-га па 25-ае лютага здадзены пасьля ўпартых боек Рагачэў і вёскі Шчыбрын, Гадзілавічы, Званец, Кісьцяні. 25-га лютага пачалася бойка на станцыі Тошчыцы. Некалькі разоў станцыя пераходзіла з рук у рукі. Пасьля двухдзённага бою станцыя здана, і чырвоныя адступілі на вёску Камарычы і горад Быхаў. Быхаўскі штаб чырвоных атрадаў запрасіў дапамогі ад суседніх павятовых гарадоў—Магілева, Чэрыкава, Чавус. Але дапамога не паступіла. Белапалякам быў адчынены шлях на Быхаў, Магілеў і далей па Дняпры.

Трэба аданачыць, што некаторыя часткі Чырвонай гвардыі ў часе польскага наступленьня былі раскіданы маленькімі ўзводамі па асобных глухіх вёсках прыдняпроўнай часткі Беларусі на вялікай адлегласьці адна ад другой. Сувязі паміж імі амаль што ніякай ня было, і некаторыя з гэтых атрадаў нечакана для сябе папалі ў рукі белапалякаў і былі жорстка пакараны. Большасьць такіх вартаўнічых (дозорных) атрадаў, аднак, здолелі выбрацца з окупаванай палякамі мясцовасьці за Дняпро, які ў гэты час зрабіўся натуральнаю мяжой паміж белымі і чырвонымі. Так, напрыклад, у вёсцы Уюн, пасьля таго, калі ўсё прыдняпроўе было занята белапалякамі, яшчэ заставаліся два ўзводы, якіх не пасьпелі зьняць з вартаўнічага паста. Калі яны даведаліся аб заняцьці Быхава (за якім яны былі ў тылу на 25 вёрст), пачалася паніка. Няўстойлівыя элемэнты атрадаў пачалі разьбягацца. Гэта выклікала такое абурэньне з боку астатняе часткі атраду, што ўцякаўшыя ледзь ня былі расстраляны сваімі-ж. У гэтым выпадку надзвычайна паказальна тое, што тут заставалася на месцы частка атраду выключна з вясковае беднаты, у той час, калі ўцёкшыя былі заможнымі серадняками. Гэта сьведчыць аб тым, што бедната ў ходзе рэвалюцыі здольна была і сапраўды рабілася апораю партыі ў вёсцы ў ходзе грамадзянскай вайны з унутраной і замежнай контр-рэволюцыяй.

Пад націскам наступаючых польскіх і нямецкіх войск атрады Чырвонай гвардыі перайшлі за Дняпро. Там згрупавалася шмат атрадаў. Франтавы камітэт, які ў гэты час яшчэ дзейнічаў, аддаў загад сабрацца ўсім атрадам для формаваньня Чырвонай арміі ў горадзе Рослаўлі. К 12-му сакавіка ў Рослаўль сабраліся 6 буйных атрадаў, організаваных на Беларусі—першы і другі Магілеўскі, трэці і чацьверты—Чавускі, пяты і шосты — Быхаўскі. Апрача таго, у Рослаўлі знаходзіўся яшчэ адзін буйны атрад чалавек у 400—сёмы Петраградзкі, які ў большасьці складаўся з ленінградзкіх рабочых. У будучых бойках з унутраной контр-рэволюцыяй (падаўленьне белагвардзейскага паўстаньня ў Рослаўлі) і на фронце гэты сёмы атрад адзначаўся найбольшаю адвагаю і рашучасьцю. Шмат іншых дробных атрадаў уліліся ў Рослаўлі ў буйныя атрады.

Польскае наступленьне ня спынілася на мяжы Дняпра. Польскія легіянэры на вучастку Жлобін—Быхаў, тэкінцы—на вучастку Быхаў—



Копысь—перайшлі праз Дняпро і занялі даволі значную тэрыторыю. Вось з гэтымі белагвардзейскімі атрадамі і павялі чырвоныя атрады франтавую барацьбу. 25-га сакавіка сформаваныя ў Рослаўлі атрады, якія былі перайменаваны ў Чырвоную армію, разасланы па фронту. Франтавая вайна, аднак, вялася партызанскімі мэтодамі. Суцэльнай позыцыі ня было. Бойкі паміж чырвонымі і белымі вяліся ў паасобных вёсках за аўладаньне імі.

Пакуль ня былі створаны сталыя палкі Чырвонай арміі, вайна атрадамі вялася па-партызанску. Атрады часта былі адмежаваны адзін ад другога і амаль ніякай сувязі паміж сабою ня мелі. Усе атрады падначальваліся штабу рослаўскай групы. Гэты штаб падзяляўся на два вучасткі — Мсьціслаўскі і Чэрыкаўскі. У самым Мсьціслаўлі і Чэрыкаве знаходзіліся штабы войск вучасткаў. Усе атрады называліся магілеўскімі. Фронт паміж Мсьціслаўскім і Чэрыкаўскім вучасткамі быў падзелены па лініі Быхаў — Ніканавічы — Прапойск, што якраз супала з падзелам гэтае тэрыторыі паміж палякамі і тэкінцамі.

Трэба азначыць, што к гэтаму часу і белапалякі, і тэкінцы (рэшткі карнілаўшчыны) былі значна дэмаралізаваны і параўнаўча слабыя. Чырвоныя атрады надзвычайна хутка і досыць лёгка расправіліся з гэтымі ворагамі, выгнаўшы іх за Дняпро. Магчыма, героічнымі атакамі чырвоных удалося-б у хуткім часе ачысьціць ад гэтых ворагаў усю Беларусь, калі-б к гэтаму часу яна ня была занята па Дняпро немцамі, якія, зразумела, былі моцным ворагам. Расправы з мірным насельніцтвам, жудасныя пагромы яўрэйскага насельніцтва, якія праводзілі польска-тэкінскія заваёўцы ў Задняпроўі, абуджалі бязьлітасную нянавісьць да іх з боку чырвоных. З гэтае прычыны чырвоныя атрады адважна наступалі на ворага нават у тым выпадку, калі перавага сіл і зброі была на баку апошніх. Так, напрыклад, адзін атрад у 300 чалавек у 5-6 дзён ачысьціў ад тэкінцаў вучастак Сухары — Асавец — Лупава, на якім быў разьмешчаны кавалерыйскі эскадрон і ня менш як рота пяхоты. У адным з такіх баёў з тэкінцамі (каля вёскі Галяні) атрад выбіў з позыцыі тэкінскі кавалерыйскі эскадрон. Тэкінцы кінуліся на ўцёкі. Чырвонаармейцаў настолькі захапіла наступленьне, што яны разуліся, каб хутчэй бегчы, і беглі 5-6 вёрст за тэкінцамі. Зразумела, тэкінцаў не дагналі, бо яны былі на конях.

Амаль што бяз усякіх боек, ва ўсякім выпадку бяз усякіх ахвяр з боку чырвоных было ачышчана ад белапалякаў усё Задняпроўе на Чэрыкаўскім вучастку (Рагачэў—Доўск—Чачэрск—Карма—Прапойск). Сялянства вёсак шчыра дапамагала чырвоным у барацьбе з белапалякамі. Часта бывалі выпадкі, калі, праслухаўшы аб набліжэньні чырвоных, вясковае насельніцтва само ўначы абязбройвала польскую варту і афіцэрства, якія звычайна спакойна спалі ў сялянскіх хатах.

К 14-му красавіка, усяго за 18 дзён, уся задняпроўская частка была ачышчана ад ворага. З гэтага часу да самага прыходу немцаў вяліся толькі асобныя перастрэлкі з белапалякамі праз Дняпро і наладжваліся асобныя вылазкі. Чырвоныя ў гэты час узмацніліся атрадамі лёгкай артылерыі, якая вельмі добра паказала сябе ў бойках пад Н. Быхавым з палякамі і пад Лупалавам—з тэкінцамі. З найбольш адважных вылазак чырвоных у тыл палякаў можна адзначыць вылазку ў вёску Лазаравічы і ў маёнтак Сарочына. У першым выпадку атрад у 30—40 чалавек разагнаў польскі кавалерыйскі эскадрон і захапіў амаль усіх іх коняй. Было перабіта многа белых, а астатнія выратаваліся, уцёкшы ноччу ў ніжняй бялізьне ў суседнюю вёску. У другім

выпадку (пры нападзе на маёнтак Сарочына) група партызан у 17 асоб зьняла польскую варту, якая складалася з цэлага ўзводу, забрала з маёнтку ўсіх кароў і пад носам у польскай варты суседняе вёскі пераправіла гэтых кароў у свой атрад. Там часткаю іх разьмеркавалі паміж вясковаю беднатою, часткаю ўжылі на харчаваньне атраду.

Надзвычайна вялікую арганізацыйную і палітычную дапамогу чырвоным атрадам аказвалі падпольныя бальшавіцкія арганізацыі за Дняпром. Яны цясьнейшым спосабам зьвязаліся з партызанскімі атрадамі і давалі ім як весткі аб складзе белапольскіх войск, так і палітычныя ўказаньні адносна ўзаемаадносін з мясцовым насельніцтвам тых вёсак, дзе знаходзіліся атрады. Бальшавіцкіх ячэек у гэты час па вёсках Беларусі ўзьнікла надзвычайна многа. Толькі на аднэй Меншчыне ў гэты час было больш як 75 вясковых партячэек, у якіх налічвалася да 500 сяброў. Былі партыйныя камітэты ў Магілеве, Бабруйску, Барысаве, Гомлі, Быхаве. Важна адзначыць, што ў абсалютнай большасьці гэтыя партыйныя камітэты складаліся з рабочых. Такім чынам, кіраўніцтва дзейнасьцю чырвоных партызанскіх атрадаў было пролетарскае. Толькі пад кіраўніцтвам пролетарыяту маглі так адважна і рашуча змагацца чырвоныя атрады і ў той-ж час захоўваць правільныя адносіны да мясцовага насельніцтва. Справа ў тым, што ў першай палове 1918 году на Беларусі быў голад, з прычыны неўраджайнасьці ў 1917 годзе і наогул грамадзянскай завірухі гэтага часу. У такі час, калі селяніну дораг і патрэбен для сябе кожны кавалак хлеба, харчаваць яшчэ атрады Чырвонай арміі, якія, фактычна, жылі першы час на ўтрыманьні мясцовага сялянства, для апошняга было надта цяжка. Зразумела, што ў такі час прыхільнасьць сялянства да Чырвонай арміі тлумачыцца толькі правільнымі нормальнымі адносінамі, чырвонаармейцаў да працоўных мас сялянства і шчыраю дапамогаю, якую яны аказвалі сялянству па меры магчымасьці.

На тэрыторыі дарэволюцыйнай Беларусі, як вядома, была слаба разьвітая прамысловасьць, а таму і невялікія кадры індустрыяльнага пролетарыяту. Але гэта не азначае, што наогул адсутнічаў пролетарыят на Беларусі. З Беларусі значная колькасьць людзей працавала на фабрыках і заводах расійскіх гарадоў (напрыклад, надзвычайна многа беларусаў рабочых было ў Петраградзе). Асабліва-ж шмат рабочых беларусаў было у шахтах Донбасу. Калі Украіна папала пад уладу гэтмана Скарападзкага, а потым пад нямецкую окупацыю, усе беларусы-шахцёры вярнуліся дамоў. Вось гэтыя пролетарскія кадры, частка якіх мела вялізны рабочы стаж, і склалі аснову партыйных бальшавіцкіх організацый на Беларусі. Так, напрыклад, трэба адзначыць асабліва героічную дзейнасьць бальшавіцкай падпольнай організацыі ў м. Н. Быхаве. У абсолютнай большасьці организацыя складалася з шахцёраў, якія ўжо ў часе польскай окупацыі вярнуліся дамоў. Гэтая організацыя была настолькі моцнай, што рыхтавалася ўзьняць узброенае паўстаньне супроць белапалякаў, для чаго мела шмат зброі і нават кулямёты. Для пасьпяховасьці намечанага імі ўзброенага паўстаньня яны наладзілі самую жывую штодзённую сувязь з атрадамі Чырвонай арміі, якія стаялі недалёка за Дняпром. Праўда, паўстаньне не ўдалося. Нейкім чынам організацыя была выкрыта польскім камандваньнем, і кіраўнік організацыі быў расстраляны. Яго намесьнік быў заарыштаваны і толькі нейкім дзівам пазбавіўся расстрэлу. А астатнім сябром организацыі прышлося, ратуючыся ад сьмяротнае кары, уцякаць за

Дняпро да чырвоных. Вельмі важна адзначыць, што ў гэтых арганізацыях надзвычайна актыўную ролю адыгрывалі жанчыны-сялянкі, напрыклад, бяднячка-ўдава Кавалёва ў Н. Быхаўскай арганізацыі, якая кіравала ўсімі сувязямі паміж суседнімі парт'ячэйкамі і партызанскімі атрадамі, а таксама мела ў сябе ўсе партыйныя яўкі і адрасы.

У пачатку жніўня 1918 году адбылася конфэрэнцыя комуністаў окупаваных тэрыторый у Смаленску. На ёй былі прадстаўлены 1474 сябры партыі і 1430 спачувальных ад Меншчыны, Бабруйшчыны і Магілеўшчыны. Конфэрэнцыя ўхваліла лінію ЦК РКП аб Берасьцейскай згодзе з немцамі. З гэтага часу грамадзянская вайна на беларускім фронце часова спынілася. Немцы занялі тэрыторыю Беларусі па Дняпро і абязброілі палякаў. Перастрэлка з немцамі атрадам Чырвонай арміі была сурова забаронена. Чырвонаармейцы перайшлі, фактычна, толькі да нясеньня вартаўнічай пагранічнай службы. Гэты час выкарыстан камандваньнем атраду для аформленьня іх у стралковыя палкі. Усе атрады, якія вялі змаганьне з белапалякамі, зьліты ў адзін полк, увайшоўшы ў яго асобнымі ротамі. З прычыны асаблівага героізму і разьвіцьця масавага партызанскага руху працоўнага насельніцтва Быхаўшчыны, камандваньне спэцыяльна хадайнічала перад цэнтрам аб назьве палка Быхаўскім. Некалькі пазьней, калі ўжо поўнасьцю аформілася вайсковая сыстэма Савецкай Расіі, гэты полк быў перайменаваны ў 152 стралковы полк 17 дывізіі. Асобныя-ж дывізіі, як 8, 10, 17 і 51 поўнасьцю складаліся з чырвонаармейцаў з Беларусі (у тым ліку і артылерыйскія часьці гэтых дывізій). Пролетарыят Беларусі ў гэтым складзе таксама меў важнейшае значэньне. Апрача таго, што процант рабочых ва ўсіх вайсковых частках, якія стварыліся з беларускіх чырвонаармейцаў, быў надзвычайна высокі, былі асобныя часткі, якія ствараліся амаль выключна з рабочых Савецкай Беларусі. Адным з такіх палкоў, які ў часе грамадзянскай вайны паказаў бяспрыкладныя ўзоры клясавага героізму, які заўсёды быў наперадзе ва ўсіх наступленьнях на заходнім фронце і быў добрым прыкладам для іншых палкоў Чырвонай арміі, быў першы полк чырвоных комунараў. У гэтым палку процант рабочых даходзіў да 80, а партыйны склад амаль на 100 проц. складаўся з комуністых і комсамольцаў.

Гэтыя вайсковыя часткі, укомплектаваныя на Беларусі, упісалі шмат слаўных героічных старонак у гісторыю змаганьня беларускага пролетарыяту і працоўных мас сялянства разам з расійскім пролетарыятам з клясавым ворагам. Пад бальшавіцкім кіраўніцтвам працоўныя масы Беларусі паўсталі на крывавую барацьбу з клясавымі ворагамі, каб зруйнаваць дашчэнту стары капіталістычны лад і разам з працоўнымі масамі ўсяго СССР спакойна будаваць новае соцыялістычнае жыцьцё.

Так заснавалася, вырасла і загартавалася ў бойках з шматлікімі ворагамі магутная адважная Чырвоная армія, гэты ўзброены кулак і дзецішча пролетарыяту. І зараз яна цьвёрда стаіць на варце абароны нашай краіны ад імпэрыялістычных драпежнікаў усяго сьвету. Апора соцыялістычнага будаўніцтва, Чырвоная армія пільна сочыць за падрыхтоўкаю капіталістычнага сьвету да вайны і сама заўжды гатова даць рашучы адпор усякім спробам узброенага нападу на СССР. Пад бальшавіцкім кіраўніцтвам яна ажыцьцяўляла і ажыцьцяўляе мірны лёзунг партыі—„Чужой зямлі нам не патрэбна, але і сваёй зямлі ні пядзі не аддадзім".

13-я гадавіна існаваньня Чырвонай арміі паказвае, як узмацнілася яна за час ад стварэньня першых атрадаў Чырвонай гвардыі. Ва ўмовах абвостранае барацьбы з капіталістычным сьветам, ва ўмовах падрыхтоўкі да апошняй бязьлітаснай бойкі з ім, барацьба першых партызанскіх атрадаў няхай натхняе нас на тое, каб зрабіць нашу краіну ўзброеным лягерам працоўных мас, каб шчыра ўзяцца за вайсковае навучаньне. Гэтым будзе зроблена самая найлепшая дапамога і Чырвонай арміі.

---

В. Б. Мызянкоў.

# Баявы шлях N Самарскай імя Ангельскага пролетарыяту Кавалерыйскай Дывізіі

1919 г. — 1931 г.

*(Успаміны байца).*

Наша дывізія — Самарская, яе палкі — Астраханскі, Стаўропальскі, Церскі, Самарскі.

У часе грамадзянскай вайны пад сьцягам ген. Дутава на Самарскую губэрню насоўвалася сібірскае кулаччо. Наша дывізія сустрэла яго ў в. Жытакур. Вораг разьбіты і бяжыць у беспарадку. Рэвваенсавет рэспублікі ўзнагароджвае за гэта дывізію ганаровай назвай „Самарская“.

Да 1927 г. нашы палкі мелі назвы паветаў Самарскай губ.: Самарскі, Стаўропальскі, Бузулуцкі, Бугурусланскі, Меленейскі, Пугачоўскі, а з 1927 г. яны атрымалі новыя назвы.

Астраханскі Чырвонаштандартны Кавалерыйскі полк мае старшынство з 1919 г. Сьцяг ЦВК ён атрымаў за баі ў раёне Астрахані ў 1919 г., пагэтаму і стаў звацца Астраханскім.

Стаўропальскі Чырвонаштандартны Кавал. полк мае старшынство з 12 красавіка 1919 г. Сьцяг ЦВК атрыманы ім за баі пад Астраханьню. Назва Стаўропальскі дадзена за ўзяцьце ў 1919 г. г. Стаўропалю на Каўказе.

Церскі Кавалерыйскі полк старшынство мае з 27 красавіка 1920 г., назву „Церскі“ мае ў памяць удачных баёў у Церскай абласьці, на Каўказе ў 1920 г.

Самарскі імя Фрунзэ Кавалерыйскі полк мае старшынство з 12 красавіка 1919 г. Назву „Самарскі“ атрымаў за баі дывізіі ў Самарскай губ. Старшынство яму прызначана па першаму сформаванаму палку дывізіі. Наша дывізія называецца дывізіяй імя Ангельскага пролетарыяту, бо сярод баявых штандараў дывізіі ёсьць сьцяг ад ангельскіх пролетараў. Зроблен ён у Лёндане рукамі ангельскіх работніц на сродкі, сабраныя рабочымі — членамі Ангельскай Комуністычнай Партыі. Сьцяг у дывізію ў 1927 г. прывезла дэлегацыя, якая прыяжджала пазнаёміцца з жыцьцём дывізіі.

Такім шляхам была заснавана сувязь з ангельскімі рабочымі. Гэта сувязь цяпер значна пашырылася. Да нас у дывізію часта прыяжджаюць таварышы з Англіі. Правадыр Ангельскай Компартыі т. Мэрфі зьяўляецца ганаровым чырвонаармейцам нашай дывізіі.

*З успамінаў удзельнікаў.*

Гэроямі былі чырвонаармейцы і камандзіры. На Волзе была такая справа. N кавалерыйскі полк дывізіі ідзе ў лоб часьцям ген. Бабіева. Белыя пруць на полк. Палком тады камандаваў загартаваны ў баёх рубака т. Абраменка. Ён павёў полк у атаку раз, другі — і адкаціліся белыя назад. Перабежчыкі потым гаварылі: „як даведаўся генэрал, што яго дывізію б'е адзін полк пад камандай т. Абраменкі, дык як зьвер зарычэў: як, мяне, генэрала, б'е гэты паганы казачышка, вучань б'е свайго настаўніка! Т. Абраменка і генэрал былі з аднае станіцы. За адступленьне генэрал пагражаў сваім афіцэрам расстрэлам, але як хочаш пагражай — Чырвоная кавалерыя — ня жарты: прышлося зьбіраць генэралу штабныя манаткі і ўцякаць.

*Байцы ўмелі берагчы ваенную тайну.*

Некалькі чырвонаармейцаў былі ўзяты ў палон і прыведзены да генэрала. „Якой часьці“? пытае генэрал. Маўчаць байцы, ведаючы, што сваю часьць ні пры якіх выпадках нельга выкрываць, тым больш, калі яна на позыцыі. „Кажэце, такую вашу, а то кулю ў лоб!“ Байцы ні гуку. Генэрал за рэвольвэр: кажэце, сволачы! Адзін чырвонаармеец сказаў, ды так сказаў, што ў генэрала ад злосьці ледзь дух ня высадзіла. „Мы“, кажа баец, „той часьці, якая лупіць вас і ў хвост і ў грыву“. Гэтых чырвонаармейцаў расстралялі перад прыходам Чырвонай арміі. Харошыя былі хлопцы, прыкладныя, і любілі сваю часьць — аддалі сваё жыцьцё за справу працоўных, але ваеннай тайны ворагу ня выкрылі. Цьвёрда памяталі, якое вялікае значэньне мае ваенная тайна.

*Баі пад Стаўропалем.*

Стомленыя баямі ад Астрахані да Стаўропалю, мы праходзілі праз вароты белай Кубані. Была халодная туманная ноч. Уперадзе баі. Стаўропаль павінен здацца. Было страшна — магчыма заўтра заб'юць, але жыць хацелася. Цяжкі ўздых, і ўсё асабістае зьнікала. Заставалася адно: помста, помста. Ноч скора прайшла. Прышла раніца — туманная, сырая. Грае сыгнал. Бадзёра выяжджаюць байцы, строяцца. „Сьмірна!.. Таварышы! — пачаў камандзір. — Сёньня нам прыдзецца“... Бах... бах... тррр... Артылерыйская пальба... Ня ведаючы, што зрабілася, камандзір спыніў свае слова, блікнуў вачыма, рвануўся ўперад, за ім полк выцягнуўся па шляху. Чырвонаармейцы стараліся не адставаць адзін ад другога, падхлёствалі сваіх стомленых коняй. Уперадзе пачулася: „Саблі нагало! У атаку!“ Засьвісталі кулі. А, дык вось як ты сустракаеш! раздаліся чырвонаармейскія галасы. Паспрабуем ваўкоў! Галопам, з крыкам „ура“, кінуліся ў атаку. Усё зьмяшалася: крыкі „ўра“, тупат конскі, шчокат кулямётаў, сьпеў ружэйных куль, узрывы знарадаў і стогны людзей. Цесным кольцам абкладзен Стаўропаль. Падае пад націскам нашых. Стукаюць капыты па бруку Стаўропалю. Брудныя, потныя, з песьнямі і музыкай байцы ўступалі ў цэнтар цяпер ушо чырвонага Стаўропалю. Няхай жыве Чырвоная армія, — крычалі рабочыя, з вінтоўкамі ў руках далучаючыся да нашых радоў, ад радасьці працягваючы нам свае рукі.

*Штурм Сіваскіх позыцый Крыму.*

Да дня яшчэ заставалася гадзіна. Грае сыгнал пад'ёму і збору. Устаў і скачу ў палявы штаб дывізіі, які разьмясьціўся пасьля бою ў невялікім хутары. У штабе дывізіі начальнік растлумачыў нам задачу будучага бою. Выслухаўшы, накіраваліся да сваіх палкоў. Пастроіліся і з песьнямі пачалі цяжкі паход. Ісьці прыходзілася ў цяж-

кіх умовах. Наш рух быў няпрыкметным для ворага, дзякуючы туману. Раптам галаўны разьезд спыніўся, хутка сьпешыўся і пачаў ружэйную страляніну. Затрашчаў кулямёт „Люіса“, усе сталі ўважлівы. Каманду падалі ціха. Коньніца рушыла цеснымі самкнёнымі радамі. „Быць гатовымі!“ пачулася каманда і адразу ўсё нібы скамянелі. Правыя рукі інстынктыўна ўзяліся за эфэсы сабель. Коні ня фыркалі. Разьезды адыходзяць! — пачуліся чырвонаармейскія галасы. Хвіліна, і ўсе захваляваліся, замітусіліся, калі пабачылі масы ішоўшых на нас прыгожа адзетых, на чале з афіцар'ём у бліскучых пагонах, белых палкоў. Не пачуцьцё страху ўзьнікла ў кожнага з нас, але вострая нянавісьць, жаданьне біцца не на жыцьцё, а на сьмерць. „Вядзі нас, камандзір!“ не адзін раз зьвярталіся чырвонаармейцы да камандзіра. Але трэба было вычакаць момант. Вораг упэўнена ішоў уперад, зухавата размахваючы клінком, думаючы, што чырвоныя задрыжаць і пабягуць. Вораг ужо блізка — і вельмі зьдзіўлены нашым спакоем. Коні яго сталі іськці цішэй. Заставалася 50—60 крокаў. „Уперад у атаку — марш!.. Ура!.. І адважныя байцы, як ільвы, з агнём у вачох, размахваючы вострымі крывымі кубанскімі клінкамі, кінуліся ўперад. Гул ад тупату коняй, гучнае ўра парушылі дысцыпліну ў белагвардзейскіх шэрагах. Не ўстаялі, кінуліся назад, але было позна. Лёс ня тое ім даў. Адзін за адным як снапы валіліся, абліваючы зямлю крывёю. Сіваскія азёры і Крымскі перашыек былі ўсыпаны трупамі белых. Апошняя надзея контр-рэволюцыі страчана. Вольны пролетарыят радасна вітаў чырвоныя палкі.

*Баі пад Мікалаеўкай—канец Махно.*

Гэта было ў жніўні 1921 г. N кавалерыйскі полк прышоў на начлег з Мікалаеўкі гадзін у 12 ночы. Пакуль разьмяшчаліся і вазіліся з коньмі—часу прайшло ня мала. Байцы, стомленыя дзённым пераходам, спалі як забітыя. Раніцою а 9 гадзіне раптам налятае на полк банда. Гэтаму спрыяла тое, што эскадроны палка былі расквартараваны ў 3-4 клм адзін ад другога. Банда мела 250 сабель і задалася мэтай — захапіць кулямётны эскадрон, што ёй і ўдалося. Прыбеглі кулямётчыкі і паведамілі штаб аб нападзе. Кампалка т. Іваноў з некалькімі чырвонаармейцамі кінуўся на бандытаў, думаючы адбіць кулямёты. Другі эскадрон напірае на банду і гоніць яе па балцы. Там яе сустракаюць сваім агнём тры нашых кулямёты. І такім чынам ужо трэці і першы эскадроны гоняцца за ворагам. Кампалка з трыма чырвонаармейцамі ўперадзе эскадрона на паўкілёмэтра, не адстаюць ад банды, вось-вось даскочаць да кулямёту. Але кулямёт, да гэтага часу маўчаўшы, раптам застучэў. Кампалка падае мёртвым з каня, два чырвонаармейцы паранены. „Адплоцім за сьмерць камандзіра!“ Ура! Крыкнулі байцы, і пачалася сеча. На перакрыжаваньні дзьвёх дарог банда папала пад кулямётны агонь. З тылу насядае трэці эскадрон. Першы і другі сякуць. Банда зварачае з дарогі ў кукурузу, але яе тут сустракае пяты эскадрон. Кепска было бандзе: на працягу 70 в. яе гналі і рэзалі. З банды выратавалася ня больш 30 чал. Бой пад Мікалаеўкай—апошні бой. Жалкая жменька ў 20—30 чал. зьбегла ў Румынію; разам з ёю зьбег і бацька Махно. Больш на Украіне яго ня стала.

*Узяцьце станіцы Уладзіміраўкі.*

Раніца. Полк сьпіць. Раптам трывожны сыгнал. Ускакваем, сядлаем коняй. „Пэўне адступаць будзем“ — раздаюцца нездаволеныя галасы. „Няхай-бы ўперад лепш!“ Кампалка абвяшчае загад: Нам не-

абходна заняць станцыю Ўладзіміраўку. „Даёш Уладзіміраўку!“ — сотні галасоў... Полк рушыў уперад. Праз некаторы час вораг ужо сустрэў агнём нашы паходныя заставы. Завязалася бойка. Кампалка т. Стораў дае загад: кулямётны і другі эскадроны ў лоб, трэці і чацьвёрты ў абход. Загрымелі гарматы, затрашчалі кулямёты. Толькі што эскадроны перайшлі чыгуначную лінію, каб пайсьці ў абход, як раптам насустрэчу колёна кавалерыі ворага пачынае абсыпаць кулямётным агнём. Атакай полк урэзаўся ў рады ворага. Вораг задрыжэў і пабег. Узялі трофэі, шмат палонных, 6 кулямётаў, вінтоўкі, знарады. Полк увайшоў у Ўладзіміраўку, страціўшы двух чалавек забітых і аднаго параненага, але выканаўшы з гонарам баявую задачу.

Проф. А. М. Бальшакоў.

# Кандрацьцеўшчына ў краязнаўстве.

У сучасны момант па ўсяму Саюзу ССР адбываецца грандыёзнае будаўніцтва. Будаўніцтва на зусім новых прынцыпах, да гэтага часу невядомых сьвету, — на соцыялістычных.

Працоўныя масы, будаўнікі соцыялізму, добра разумеюць, што плян будаўніцтва павінен моцна абапірацца на самае дасканальнае вывучэньне і падлік вытворчых сіл краіны і ўмоў разьвіцьця культуры. Але, калі да навукова-дасьледчай працы ня будуць уцягнуты масы рабочых, сялян і савецкай інтэлігенцыі, дык адны дзяржаўныя навуковыя ўстановы ня здолеюць вырашыць задачу вывучэньня Саюзу ў цэлым і кожнага яго раёну паасобна.

Адгэтуль — выключную важнасьць, і якраз на даным этапе соцыялістычнай рэконструкцыі ўсяе народнае гаспадаркі і быту, набывае краязнаўства. Краязнаўства ў нашых умовах павінна зрабіцца шырокім грамадзкім рухам, які згуртоўвае мясцовае працоўнае насельніцтва і дае магчымасьць прыняць актыўны ўдзел у соцбудаўніцтве свайго краю на базе ўсебаковага, сынтэтычнага і строга марксыцкага яго вывучэньня.

Краязнаўства робіцца адным з вучасткаў баявога соцыялістычнага фронту — асабліва на вёсцы. А калі гэта так, кандрацьцеўшчына не абышла сваёй увагай гэты вучастак.

Само сабой разумеецца, што кандрацьцеўшчына, калі яе ня зьнішчыць сваечасова, можа ў краязнаўстве праяўляцца ў якіх хочаце вялікіх разьмерах. У гэтым артыкуле мы паспрабуем высьветліць толькі адзін з прыёмаў канрацьцеўшчыны — мы зачэпім толькі адну тэму: кандрацьцеўшчына ў краязнаўчай літаратуры па вывучэньню вёскі.

Кандрацьцеўшчына, павернутая „тварам да вёскі“, характырызуецца, галоўным чынам, двума момантамі: 1) змазваньнем фактаў клясавай барацьбы, што робіцца шляхам унясеньня ў гэта пытаньне рознай блытаніны, якая зьбівае з панталыку даверлівага краязнаўцу і 2) старанным замоўчваньнем вялікага значэньня для вёскі соцыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі (колгасы, саўгасы).

Кандрацьцеўцы-краязнаўцы ўсіх гатункаў, як з „іменьнямі“, так і „без оных“, ва ўсіх сваіх літаратурных практыкаваньнях і ў „тоўстых“ працах і ў танюткіх брошурах — са скуры лезуць, каб выканаць свае асноўныя заданьні, паказаныя вышэй.

Прывядзем конкрэтныя факты. Бярэм краязнаўцу з „імем“ і з „тоўстымі“ працамі — М. Я. Феноменава — зараз профэсара Магілеўскага пэдінстытуту.

У сваёй працы „Современная деревня“ аўтар дае наступнае азначэньне вясковага кулака, разам з гэтым акрэсьляючы і паняцьце як бедняка, так і серадняка вёскі (ч. II, стар. 30): „Кулак — не капіталіст эўропейскага складу“, кажа М. Я. Феноменаў, „але папросту моцны, нахабны чалавек, маленькі „потэнтат“, абкружаны сваёй раднёй, „кліентамі“, паслухным людам. Ворагі кулака — не комуністы - пролетары, не бедната, якая ў вёсцы здольна толькі да ролі „кліентаў“, але энэргічныя, заможныя серадоякі, якія адчуваюць сябе досыць моцнымі, каб не паддацца самадурству маленькага фэўдала“. Цытата, як бачым, зусім нядоўгая, але які вялікі лік у ёй бязглузьдзіцы і палітычнай няпісьменнасьці! Не жадаючы адцягвацца ў бок ад нашай тэмы, мы ня будзем тут спыняцца на няправільнасьці аналёгіі М. Я. Феноменава, які раўнае нашага кулака з рымскім „потэнтатам“, а нашу беднату з „кліентамі“ апошняга. Мы хочам толькі адзначыць, што для марксыста „кулак“ — паняцьце соцыяльна-экономічнага парадку, а ня нейкага псыхолёгічнага, як гэта выглядае паводле Феноменава. Для марксыста не нахабства вызначае кулака, але моманты эксплёатацыі (у вельмі align="left"рознастайных формах) апошнім сялянства, працоўных вёскі. Паводле М. Я. Феноменава вясковая бедната „здольна толькі да ролі кліентаў,“ г. зн. да прыхвасьняў кулака, а паводле Леніна будаваць соцыялізм у вёсцы можна, калі будзем „моцна абапірацца толькі на беднату“. Прымаючы гэта пад увагу, яшчэ вясной 1918 г. былі організаваны (дэкрэтам ВЦВК'а) у вясковых мясцовасьцях камітэты беднаты, якія і выканалі задачу правядзеньня ў вёсцы пролетарскай рэволюцыі — „раскулачваньня вёскі“. І за апошнія год - паўтара на вёсцы для барацьбы з кулацтвам пачалі стыхійна організоўвацца асобныя „групы беднаты“, якія прышлося нават дэкрэтаваць спэцыяльнай пастановай ЦВК'а ад 25 лютага 1930 г. З сказанага выцякае, што, скажаючы паняцьце беднаты, Феноменаў зусім няверна апісвае і яе ролю ў клясавых узаемадносінах вёскі. Аб тым-жа, што комуністы-пролетары і бедната не зьяўляюцца ворагамі кулака - аб гэтых рэчах, як відаць, дазволена гаварыць толькі Феноменаву — дык няхай гэта будзе яго прывілеем.

Але „Современная деревня“, аб якой мы толькі што казалі, ёсьць дасьледчая праца Феноменава і выдадзена ў 1925 г. (Госиздат). Бярэм мэтодычную працу таго самага Феноменава і пры гэтым зусім новую — яго кніжку „Изучение деревни в школе“, выданьне 1930 г. („Работник просвещения“). Тут, на стар. 109, аўтар піша: „Канешне, пытаньне аб распластаваньні знаходзіцца ў цэнтры нашай увагі“. Пасьля гэтых слоў, здаецца, можна чакаць ад Феноменава, што ён сапраўды аддасьць належную ўвагу пытаньню аб распластаваньні. Але на справе з 139 старонак сваёй кнігі аўтар мэтодычным паказаньням па гэтай столь важнай тэме аддае толькі ³/₄ старонкі (на стар. 109) плюс нязначны інструкцыйны матар'ял у дадатках да кнігі (стар. 115-117). Гэтулькі невыстарчальныя тлумачэньні адначасна і вельмі недарэчны. Вось прыклад: „дзе-незудзь на далёкім усходзе селянін з 2-3 каньмі напэўне лічыцца бедняком, але ў нас ён быў-бы кулаком“, піша Феноменаў. Зусім ня так, скажам мы. Тып гаспадаркі (кулацкая яна ці не) вызначаецца ня тымі ці іншымі зьнешнымі адзнакамі (3 коняй і інш.), не „на вока“, але яе сыстэмаю (ёсьць элемэнты эксплёатацыі і г. д. ці іх няма). Гэта аксыёма вядома кожнаму піонэру. А вясною 1929 г. былі нават выдадзены пастановы ўрадавых органаў па пытаньню аб адзнаках кулацкіх гаспадарак і нельга ў кнізе з датай выданьня 1930 г. пі-

саць гэткія рэчы. Альбо вось яшчэ пэрл (на той-жа 109 стар.): „Чаму мы робім стаўку на серадняка? Таму, што серадня коў болей? Ці толькі? Ці не адрозьніваецца серадняк ад бедняка выгадна тым, што ён зьяўляецца папросту фізычна больш моцным тыпам, ды ад кулака тым, што серадняк культурней за яго?“ Бачыце, як паводле Феноменава проста тлумачыцца наша стаўка на серадняка. Дарэмна кажуць марксысты аб нейкай там экономіцы. Калі-б кулак, як тып, быў фізычна мацней за серадняка і бедняка і культурней за іх, дык савецкая ўлада ахвотна зрабіла-б стаўку на кулака. Але дагаварыцца да гэткай бязглузьдзіцы ня кожнаму дадзена...

Наш аналіз твораў Феноменава зьяўляецца яскравай ілюстрацыяй таго, як лоўка змазваецца самая гострая, самая актуальная тэма — клясавыя ўзаемаадносіны на вёсцы, барацьба клясаў.

Цяпер пяройдам да другіх аўтараў—да колектыўнай краязнаўчай працы. Да яе напісаньня прыклалі рукі цэлых 15 чалавек [1]). Гэта—мэтодычная праца „Изучение района силами агронома и учителя“, выданая Сельхозгизом у другой палове 1930 г.

Кніжка—спроба краязнаўчага вывучэньня Краснагвардзейскага раёну (пад Ленінградам). Выдадзена кніга для навучаньня ўсім краязнаўцам:—Глядзіце, як трэба вывучаць раён.

Проблему клясавай барацьбы і дыфэрэнцыяцыі насяленьня раёну колектыў краснагвардзейскіх краязнаўцаў вырашыў самым радыкальным чынам, ня ўжываючы мэтоду Феноменава гаварыць бязглузьдзіцу і заблытваць зразумелыя рэчы—у кнізе з 204 стар. няма ніводнага радку, літаральна ніводнага ні аб клясавай барацьбе, ні аб дыфэрэнцыяцыі. Клясычна простае вырашэньне проблемы!

Пазнаёмімся, як адлюстраван у кнізе соцыялістычны сэктар раёну, ральля якого ў 1930 г. складала $^1/_8$ ўсяе ральлі раёну. Мы, краязнаўцы, добра разумеем, што вывучэньне соцыялістычнага сэктару павінна быць у вясковага краязнаўцы на першым месцы.

Колгасам і саўгасам з 204 старонак адведзена... колькі вы думаеце?.. Усё роўна не адгадаеце. Скажу: соцыялістычнаму сэктару адведзена роўна $2^1/_3$ старонкі, з якіх на долю колгасаў выпадае 17 радкоў.

Пачнем з колгасаў. Аўтары дакладваюць, што „колгаснае будаўніцтва ў раёне пачалося, правільна кажучы, у самы апошні час“. Пасьля памінаецца, што ў 1927 г. організавана адно таварыства па супольнай апрацоўцы зямлі, а ў 1928 г. стварылася адна комуна. Вось і ўвесь фактычны матар‘ял. Далей, радкоў 10—набор агульных слоў („справа колектывізацыі вымагае больш сур‘ёзнай увагі“ і г. д.).

Перш за ўсё краснагвардзейскія краязнаўцы проста элемэнтарна не азнаёмлены (скажам *пакуль што* так) адносна першага часу колгаснага будаўніцтва ў раёне. Бяру адзін з шматлікіх пунктаў раёну—ваколіцы станцыі Елізавеціна. Там яшчэ ў 1918 г. былі організаваны: сельска-гаспадарчая арцель каля в. Дыліцы, у б. маёнтку кн. Трубяцкой ($1^1/_2$ клм ад Елізавеціна); с.-г. комуна ў б. маёнтку ген. Гершэльмана (Шпанькова, 5 клм ад Елізавеціна) і інш. Паўтараю: я ўзяў толькі адзін пункт—Елізавеціна. Такіх пунктаў для раёну можна

[1]) Складзена пры ўдзеле: Брун, Зааль, Галубятнікавай, Гарбачова-Васільлева, Гаршунова, Гаруновай, Тузікавай, Камелавай, Клюева, Мяшкоўскага, Пятрова, Сьмятаньнікавай, Сьмірэннамудранскага, Сьцяпанава; пад рэдакцыяй: Сьмірэннамудранскага, Мяшкоўскага, Пятрова; з прадмовай Корневіца.

было-б назваць ня мала, паказаўшы для кожнага з іх адпаведны год організацыі таго ці іншага колгасу. Але, апрача ўсяго гэтага, трэба падкрэсьліць, што першыя старонкі колгаснага руху ў Краснагвардзейскім раёне намятныя старонкі; яны заліты крывёю колгасьнікаў. Белагвардзейцы, падступаўшыя ў 1919 г. да Ленінграду, ня толькі да сьмерці замучвалі пападаўшых да іх колгасьнікаў, на якіх яны наладжвалі спэцыяльнае паляваньне (ня дзіва: асьмеліліся засесьці ў „панскіх гнёздах"!), але нават забівалі сялян, якія зусім не ўваходзілі ў склад колгасьнікаў, і толькі рабілі некаторыя, хоць-бы за плату, паслугі колгасам (транспорт па найму і інш.).

Усю гісторыю колгаснага руху ў раёне можна дакладна і без асаблівай цяжкасьці прасачыць па докумэнтах і на падставе паказаньняў сьведак—мясцовых людзей. Мы-ж знаходзім у кнізе цэлых 7 старонак з апісаньнем гісторыі Гатчынскага (цяпер Краснагвардзейскага) палацу. Гэта гісторыя прыводзіць для нас нават імены садоўнікаў, якія ў канцы XVIII ст. разьбівалі сады вакол палацу. Дык няўжо нічым-чагенька нельга было даць па гісторыі колгаснага руху ў раёне?.. Няўжо, хоць мімаходам, немагчыма было спамянуць адно-два іменьні з ліку вялікіх ахвяр колгаснага руху!..

Што мы маем у гэтым выпадку? Ці сапраўды элемэнтарную неінформаванасьць, зусім недапушчальную для краязнаўцаў (нават для гора-краязнаўцаў) ці з пэўнай „устаноўкай"?

Адказ на гэта пытаньне мы зараз дадзім. Кніга прыводзіць даныя аб колгасах за 1927/28 г.

Чаму за 1927/28 г., ды не за пазьнейшы час?

Прашу заўважыць наступнае: *выдана кніга ў другой палове 1930 г.* У тэксьце кнігі мы знаходзім спасыланьні на літаратуру, якая вышла ў сьвет у 1930 г. (гл. стар. 167 і інш). Такім чынам, *кніга ня толькі выдана, але і пісалася ў 1930 г.*

Нам-жа вядома, што ў 1929 г. у раёне было 10 колгасаў, на 1 мая 1930 г.—16, увосень 1930 г.—ужо 23, ральля якіх складала 6% ральлі ўсяго раёну. Няхай даныя восені 1930 г. не маглі быць унесены ў тэкст кнігі, але матар'ялы на 1 мая 1930 г. ці ўрэшце 1929 г.? Чаму аўтары не прывялі гэтых матар'ялаў? Справа выразная: *тут наяўна замоўчваньне...*

Цяпер аб саўгасах. Саўгасам, параўнальна з колгасамі, пашчасьлівілася—аўтары адвялі ім цэлых дзьве старонкі.

Чаму так пашаньціла саўгасам? Ці-ж тактыка замоўчваньня не магла быць ужыта і адносна іх? Ніяк нельга „замаўчаць". Саўгасаў у 1928 г. было цэлых 12, з агульнай плошчай ў 3.450 га, з іх ральлі 1.154 га ці 5% (для 1928 г.) усяе ральлі раёну. Нязручна прайсьці міма.

Так, міма ня пройдзеш. Але можна „адыграцца" на матар'яле. Так і зроблена. Па-першае, матар'ял зноў такі стары—1928 г. Магу ад сябе інформаваць аўтараў кнігі, што ў 1930 г. пад саўгасамі раёну было ўжо не 3.450 га, але 5.852 га. У 1931 г.—ня хочацца сумнымі рабіць аўтараў кнігі, але трэба сказаць—пад саўгасы раёну адводзіцца 20.000 га. Калі адкінуць застарэласьць, дык які матар'ял аб саўгасах як раз дае кніга? Адказ: дзьве таблічкі (паўтары старонкі) з назвамі саўгасаў, вестак, каму яны належаць і якія ўгодзьдзі. Астатняя поўстаронка тэксту зьмяшчае вадзяністыя інформацыі, як напрыклад: „як будынкі, так і мёртвы с.-г. інвэнтар па ўсіх саўгасах здавальняючы" і інш.

Заўважым, што на тэрыторыі раёну знаходзіцца адзін з старэйшых (існуе з 1918 г.) і лепшых саўгасаў вобласьці—„Сіверскі" (б. маёнтак гр. Фрэдэрыкса). Пэдагогі, асноўнае ядро сярод аўтараў кнігі, амаль ня ўсе працуюць у школе, якая знаходзіцца на тэрыторыі саўгасу „Сіверскі". І пэдагогі і іх „камандарм" В. В. Сьмірэннамудранскі, праводзіўшы праграмна-мэтодычнае кіраўніцтва колектывам, ведаюць гэты саўгас узад і ўперад. Чаму-ж аўтары кнігі ня спыніліся з усіх 12 хоць-бы на адным гэтым саўгасе, не прысьвяцілі яму некалькіх старонак—няхай-бы нават за пэрыод да 1928 г.?

Зноў замоўчваньне?

*Так, замоўчваньне...*

Прыклад толькі што разгледжаных намі краязнаўчых выданьняў пераконвае нас у неабходнасьці асаблівай, надзвычайнай пільнасьці, якую трэба праявіць савецкім краязнаўцам адносна складу сваіх шэрагаў і адносна якасьці і палітычнай карысьці выходзячай літаратурнай продукцыі.

---

В. Самцэвіч.

# Разгорнем соцспаборніцтва ў краязнаўчай працы.

Соцспаборніцтва, ударніцтва, скразныя брыгады і грамадзкі буксір зьяўляюцца соцыялістычнымі мэтодамі працы пролетарыяту ў нашай савецкай краіне. На фабрыках і заводах гэтыя мэтоды далі надзвычайна вялікія вынікі ў сэнсе выкананьня прамфінплянаў, павялічэньня колькасных і якасных паказьнікаў продукцыі працы, палепшаньня працоўнай дысцыпліны і комуністычнага выхаваньня рабочых мас. Гэтыя соцыялістычныя мэтоды працы—соцспаборніцтва, ударніцтва і скразныя брыгады — з прамысловых прадпрыемстваў ужо перанесены ў саўгасы і колгасы, у савецкія і грамадзкія ўстановы і організацыі і зьяўляюцца магутным сродкам соцыялістычнага будаўніцтва і павялічэньня тэмпаў працы.

У краязнаўчай працы соцспаборніцтва і ўдарніцтва яшчэ не зьяўляюцца асноўнымі мэтодамі працы. Засьмечаныя варожымі пролетарыяту элемэнтамі, ня зьвязаныя шчыльна з гаспадарчымі, партыйнымі і грамадзкімі організацыямі, занятыя ў сваёй працы пераважна вывучэньнем мінулага, старажытнага і „самабытнага“, ігноруючы пытаньні сучаснага соцыялістычнага будаўніцтва, праводзячы концэпцыі контррэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму, краязнаўчыя організацыі да апошняга часу не пераключыліся на новыя соцыялістычныя мэтоды і хуткія тэмпы працы, адпаведныя росту запатрабаваньням нашай соцыялістычнай гаспадаркі і культуры. Толькі паасобныя адзінкавыя організацыі ўступілі паміж сабой у соцспаборніцтва, прычым вынікі гэтага соцспаборніцтва яшчэ ня выяўлены перад савецкай грамадзкасьцю і краязнаўчымі організацыямі.

Дзеля ліквідацыі прарываў у краязнаўчай працы ў мінулым і накіраваньня яе на шлях актыўнай дапамогі плянуючым і гаспадарчым установам у соцыялістычным будаўніцтве, ЦБК БССР прыняла пастанову аб заключэньні дагавору на соцыялістычнае спаборніцтва з ЦБК РСФСР, а ўдзельнікі нарады профактыву саюзу працасьветы 26 раёнаў Віцебскага і Полацкага куставых аб'яднаньняў у студзені месяцы г. г. абвясьцілі сябе ўдарнікамі ў краязнаўчай працы. Але гэта толькі пачатак разгортваньня соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў краязнаўстве.

Ленінскія мэтоды працы — соцспаборніцтва і ўдарніцтва, нам трэба неадкладна ўкараніць ва ўсе краязнаўчыя організацыі і зрабіць іх асноўнымі мэтодамі працы. У аснову соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў краязнаўчай працы павінны быць пакладзены наступныя асноўныя прынцыпы:

а) актыўная барацьба за генэральную лінію партыі ва ўсіх галінах социялістычнага будаўніцтва; выкрыцьцё і рашучае змаганьне з шкоднымі тэорыямі правага і „левага“ ўхілаў, контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмакратызму, вялікадзяржаўнага шовінізму, як галоўнай небясьпекі на даным этапе і мясцовых шовінізмаў у краязнаўчай працы — яўрэйскага, польскага і інш.;

б) поўнае падпарадкаваньне зьместу краязнаўчае працы задачам социялістычнага будаўніцтва і актыўны ўдзел краязнаўчых організацый у выкананьні пяцігадовага пляну свайго раёну, прадпрыемства праз організацыю адпаведнае навукова-дасьледчае працы;

в) разгортваньне краязнаўчых гурткоў на прамысловых прадпрыемствах, у колгасах, саўгасах і пры школах з уцягненьнем у іх актыву рабочых, колгасьнікаў і вучнёўскай моладзі;

г) цесная ўвязка працы краязнаўчых організацый з працай мясцовых гаспадарчых і плянуючых установ і грамадзкіх організацый.

Вельмі пажадана, каб умовы на соцспаборніцтва краязнаўчыя організацыі заключалі ня толькі паміж сабой (адна організацыя з другой), але і з іншымі ўстановамі і організацыямі (напр., райколгассаюзам, райпрофбюро, інспэктурай нарасьветы, комсамолам, саўгасам і інш.), што надасьць практычнасьць краязнаўчай працы і дапаможа наладзіць цесную сувязь паміж краязнаўчымі і іншымі грамадзкімі організацыямі і гаспадарчымі ўстановамі.

Канечна трэба, каб краязнаўчыя організацыі дзяліліся сваёй практыкай па разгортваньні соцспаборніцтва на старонках часопісу „Савецкая краіна“ і мясцовага пэрыодычнага друку.

---

**Жук.**

# Шкодніцтва ў прамысловасьці БССР.

У гэтым артыкуле, на падставе двухгадовай работы па выкананьню 5-гадовага пляну, мы лічым неабходным завастрыць увагу рабочай грамадзкасьці на тым, як беларускія „Рамзіны“ скажалі дырэктывы партыі і Ураду ў важнейшым зьвяне нашай соцыялістычнай гаспадаркі—у прамысловасьці, і як некаторыя кіраўнікі—партыйцы нашых плянуючых і рэгулюючых органаў штампавалі падсунутыя ім „пляны“, не заглядваючы ў сутнасьць іх установак.

Перш за ўсё мы лічым неабходным у некалькіх словах застанавіцца на тых дасягненьнях, якія маюцца ў БССР у галіне прамысловасьці, ня гледзячы на ўсялякае шкодніцтва клясавага ворага.

Прамысловасьць БССР ідзе па шляху хуткага разьвіцьця, прычым тэмп яе разьвіцьця, згодна генэральнай лініі партыі аб узьняцьці экономічнага і культурнага становішча больш адсталых нацыянальных акраін СССР і соцыяльна-экономічнай рэконструкцыі народнае гаспадаркі наогул, ідзе значна шпарчэй, чым разьвіцьцё прамысловасьці ўсяго Савецкага Саюзу. Аб гэтым яскрава сьведчаць даныя росту валавой продукцыі за мінулыя 2 гады пяцігодкі і намётка прамфінпляну на 1931 г. Валавы рост продукцыі па цэнзавай прамысловасьці, якая плянуецца ВСНГ, па СССР складаў супроць папярэдняга году—у 1928-29 г. 24%; у 29-30 г. каля 29% і на 1931 г. намечаны рост на 45%; па прамысловасьці ВСНГ БССР суадпаведна мы маем: 50%, 67,5% і 99,8%; у той час як продукцыя прамысловасьці па СССР на 1929-30 г. узрасла ў параўнаньні з даваенным часам у 2 разы, па БССР за гэты час яна ўзрасла больш чым у 6 разоў і ў адпаведнасьці з гэтым удзельная вага прамысловасьці БССР ва ўсёй прамысловасьці СССР узрасла з 0,76% у 24-25 г. да 1,43% у 28-29 г. і да 2,13% у 1929-30 г.

Адзначаныя дасягненьні зьяўляюцца вынікам буйных капіталаўкладаньняў, якія далі магчымасьць перабудаваць і пашырыць старыя прадпрыемствы, а таксама пабудаваць і пусьціць ў эксплёатацыю некалькі новых заводаў і фабрык, абсталяваных па апошняму слову тэхнікі. Роля продукцыі новых прадпрыемстваў у агульнай прадукцыі склала ў 29-30 г. каля 20%.

Агульны разьмер капіталаўкладаньняў у рэспубліканскую прамысловасьць ВСНГ за мінулыя 3 гады характарызуецца наступнымі данымі.

| | У міл. руб. | | |
|---|---|---|---|
| | 27-28 г. | 28-29 г. | 29-30 г. |
| Агульная сума затрат . . . | 16,4 | 24,8 | 44 (арыент) |
| % росту да папярэдняга году . | 51,9 | 45 | 77,5 |
| У т. ліку ў %%: | | | |
| а) на нов. будаўніцтва . . | 45,2 | 55,8 | 73 |
| б) на пашыр. і рэконструкцыю . | 49,2 | 39,4 | 23 |
| в) капіт. рамонты і іншае . . | 5,6 | 4,8 | 4 |

Такім чынам, адзначаецца з году ў год паступовае павялічэньне ўдзельнай вагі капіталаўкладаньняў у новае будаўніцтва за кошт зьмяншэньня ўкладаньняў на пашырэньне і рэконструкцыю і на капітальныя рамонты старых прадпрыемстваў.

Рост капіталаўкладаньняў адбіўся на росьце асноўнага капіталу і зьмене яго структуры за лік павялічэньня актыўнай яго часткі (абсталяваньне і машыны).

Рост асноўнага капіталу складаў на 1/X-27 г.—34.175,8 тысяч руб., а на 1/X-29 г. павялічыўся да 53.482 тысяч руб., ці на 56,5%; удзельная вага будынкаў і пабудоў у асноўным капітале зьнізілася з 49,9% да 46,2%, пры павялічэньні ўдзельнай вагі абсталяваньня і машын з 43,2% да 45,6%.

Аднак, ня гледзячы на паказаныя вышэй дасягненьні ў разьвіцьці прамысловасьці, у БССР маецца шэраг скрыўленьняў і шкодніцкай дзейнасьці на практыцы як у плянаваньні, так і ў правядзеньні тэмпаў капітальнага будаўніцтва ў цэлым і па паасобных галінах прамысловасьці. Шкодніцтва прывяло да амярцьвеньня на значны час капітальных выдаткаў і зьніжэньня эфэктыўнасьці і да несуадпаведнага напрамку капіталаўкладаньняў па паасобных галінах прамысловасьці, згодна вызначаных дырэктыў партыі і ўраду.

Застановімся на важнейшых момантах гэтага пытаньня.

Пры капітальных укладаньнях за 1928-29 г. на суму 24,8 міл. руб. павялічэньне дзейнага асноўнага капіталу на 1.X-29 г., супроць даных на 1.X-28 г., мела месца толькі на 10 міл. руб. Адсутнасьць чарговасьці будаўніцтва, распыленасьць сродкаў па многіх об'ектах, непадрыхтаванасьць да бесьперабойнага правядзеньня будаўніцтва, няўвязка тэрмінаў сканчэньня будаўніцтва паасобных об'ектаў з тэрмінамі атрыманьня абсталяваньня і наогул установка ВСНГ і Дзяржпляну на расьцяжку тэрміну будаўніцтва прывяла да паступовага ўцягненьня сродкаў у нясконачанае будаўніцтва. Гэтыя факты пацьвярджаюцца наступнымі данымі ВСНГ аб асваеньні капіталаўкладаньняў па рэспубліканскай прамысловасьці.

| | У тыс. руб. | | | |
|---|---|---|---|---|
| | За 27-28 г. | % | За 28-29 г. | % |
| Перайшло нясконч. работ з папярэдняга году . . . . | 4431 | 21,3 | 9104,7 | 26,9 |
| Агульная сума капітальных затрат. | 16417 | 78,7 | 24767,8 | 73,1 |
| Усяго буд. работ . . | 20848 | 100 | 33872,5 | 100 |
| У тым ліку скончана і здана ў эксплёат. . . . . . | 11906,8 | 57,1 | 12934,3 | 38,2 |
| Застаецца няскончан. і пераносіцца на будучы год . . . . | 8941,2 | 42,9 | 20938,2 | 61,8 |

Хаця за 1929-30 г. агульных справаздачных лічбаў яшчэ ня маецца, але даныя па асобных галінах вытворчасьці паказваюць, што пералому ў гэтай справе яшчэ няма.

Прыведзеная табліца наглядна паказвае амярцьвеньне капіталаўкладаньняў: разьмер няскончаных работ ад агульнага разьмеру будаўнічых работ у 1927-28 г. складаў 42,2%, а ў 1928-29 г. павялічыўся да 61,8%. ВСНГ і Дзяржплян бралі ўстаноўку на расьцяжку будаўніцтва на 2-3 гады нават нязначных па каштоўнасьці об'ектаў—цагляных, крухмальных тарфяных і інш. заводаў. Часта зацьвярджалі пляны капітальных работ без прадстаўленьня проектаў і экономічных абгрунтаваньняў, а толькі па тытульных сьпісках.

Прывядзем некалькі прыкладаў установак і „абгрунтаваньняў", якія даваліся Дзяржплянам і ВСНГ аб тэрмінах будаўніцтва:

а) пры зацьверджаньні пляну капітальнага будаўніцтва па прамысловасьці ВСНГ на 1928-29 г. Прамсэкцыяй Дзяржпляну (протокол ад 17.V-29 г.) з агульнага кошту пабудоў, пачатых у 1928-29 г. на суму 27.317 тыс. руб., у гэтым годзе намечана было затраціць толькі 5.173 т. р., ці 18,9% агульнага кошту, і далей, па заводах, пачатых будаўніцтвам у мінулыя гады, намечана затраціць у 1928-29 г. 7.709 т. р., а 5.459 т. р. перанесьці на будучы год;

б) ВСНГ пры зацьверджаньні контрольных лічбаў па Лесбелу на 1929-30 г. (пр. Прампляну ад 15 і 20/VII-29 г.) падкрэсьлівае наступнае: „дело ускорения строительства отдельных об'ектов в большей степени зависит от ускорения поставки оборудования, как производственного, так и силового, т. к. принимаемые заводами СССР сроки выполнения оборудования никогда не бывают менее 18—24 мес. и следовательно, строительство затягивается на 2-3 года". Паўстае пытаньне: для чаго тады пачынаць будаўніцтва, калі ня высьветлена пытаньне тэрмінаў атрыманьня абсталяваньня.

Пры фактычным правядзеньні капітальнага будаўніцтва, дзякуючы шэрагу „няўвязак", тэрміны сканчэньня будаўніцтва паасобных об'ектаў яшчэ больш зацягваліся. Асабліва гэта мела месца па харчовай прамысловасьці: будаўніцтва ўсіх 4-х крухмальных заводаў і ма-

кароннай ф-кі зацягнулася на год больш тэрміну. Буда ўніцтва Віцебскага маслабойнага заводу, распачатае ў 1927 г., ня скончана і да гэтага часу. У зьвязку з гэтым сума няскончанага будаўніцтва да асноўнага капіталу па харчаб'яднаньню з году ў год павялічваецца і складае на 1.X-28 г. 10,3%, на 1.X-29 г.—19,2%, на 1.X-30 г.—25,2%.

ВСНГ зацьвярджаў нерэальныя об'екты, што таксама прыводзіла да шэрагу нерацыянальных затрат. Так, контрольныя лічбы па Белмэталёаб'яднаньню на 1929-30 г. затрыманы на суму 4966 т. р. бяз праектаў (пр. Прампляну ад 16.VII-29 г.); па контрольных лічбах, прадстаўленых Белдзяржбудам, ВСНГ констатаваў, што ўсе новыя аб'екты пабудоў і пункты прадстаўлены без экономічных абгрунтаваньняў (пр. ад 9.VII-29 г.).

Абыякія адносіны да скарыстаньня дзяржаўнай маемасьці, голая констатацыя фактаў з боку Дзяржпляну пацьвярджаецца протоколам сумеснага пасяджэньня прам. і сел.-гасп. сэкцыі Дзяржпляну ад 1 і 4/III-29 г. па тарфяной прамысловасьці, дзе зафіксавана наступнае: „адзначыць, што ўжо на працягу некалькіх год маецца імпортнае абсталяваньне для торфападсьцілачнага заводу, якое да гэтага часу не скарыстована“. Прапаноў ніякіх ня вынесена.

Пастанова XII Зьезду КП(б)Б аб тым, што разьвіцьцё прамысловасьці БССР павінна ісьці ў першую чаргу па лініі ўсё большага выкарыстаньня мясцовай сел.-гасп., лясной і мінэральнай сыравіны, паколькі сыравінныя рэсурсы БССР не забясьпечваюць патрэбных тэмпаў разьвіцьця прамысловасьці, павінна быць зьвернута больш увагі на будаўніцтва прадпрыемстваў, якія працуюць на прывознай сыравіне і паўфабрыкатах,—гэта пастанова як пры складаньні пяцігадовага пляну, так яшчэ ў большай ступені на практыцы ажыцьцяўлялася ў адваротным парадку. У першую чаргу разьвіцьцё ішло па лініі разгортваньня прадпрыемстваў, якія працуюць на прывознай сыравіне (швэйнай, панчошна-трыкатажнай). Значныя ўкладаньні па пяцігодцы былі прадугледжаны па баваўнянай прамысловасьці, а так сама па скураной прамысловасьці, дзе бралася ўстаноўка на павялічэньне вытворчасьці за лік прывознага сырцу (меркавалася ў канцы 5-годкі завазіць ў БССР да 850 тысяч аўчын з сярэдняй Азіі і вывозіць за межы БССР да 400 тысяч штук аўчын горшай якасьці), а таксама павялічыць завоз буйных скур да 80 тысяч штук.

Разьвіцьцю такіх галін прамысловасьці, якія ў дастатковай ступені забясьпечаны мясцовай сыравіннай базай, альбо для якіх маюцца спрыяючыя прыродна-экономічныя абставіны,—з боку ВСНГ і Дзяржпляну прыдавалася другараднае значэньне (тарфяная, хэмічная, ільнопяньковая прамысловасьць і прамысловасьць па выпрацоўцы дэфіцытных будаўнічых матар'ялаў: вапны, чарапіцы, цэманту, торфа-ізоляцыйных матар'ялаў). Шэраг намечаных прадпрыемстваў гэтых галін прамысловасьці альбо пачаты будаўніцтвам з значным спазьненьнем, альбо зусім не распачаты, у той час як форсаваным тэмпам ішло будаўніцтва швэйнай, панчошна-трыкатажнай і скураной прамысловасьці, куды ўкладаліся значныя сродкі.

Не бяз цікавасьці будзе прывесьці пры гэтым табліцу, якая наглядна ілюструе разьмер капітальных укладаньняў па асобных галінах прамысловасьці за мінулыя два гады 5-годкі.

**Напрамак капіталаўкладаньняў на 1928-29 і 1929-30 па асобных галінах прамысловасьці ВСНГ у тыс. руб.**

| Віды прамысловасьці | Намечана па пяцігодцы | Намечана па прамфінпляну | % адхіленьня ад пяцігодкі | Фактычна выканана | % адхіленьня ад пяцігодкі | % адхіленьня ад прамфінпляну |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Тарфяная . . . | 1870 | 3710 | + 98,4 | 2856,1 | + 52,7 | — 23,0 |
| Керамічная . . . | 5888 | 4583,5 | — 22,2 | 3452 | — 41,2 | — 24,7 |
| Шкляная . . . | 3106 | 3705,7 | + 19,3 | 3072,2 | — 1,9 | — 17,1 |
| Мэталяапрацоўчая . . | 6157 | 8139 | + 32,2 | 7886,7 | + 28,1 | — 3,1 |
| Дзеравaапрацоўчая . | 8283 | 10621,7 | + 28,2 | 11119,5 | + 34,2 | + 4,6 |
| Сернікавая . . . | 4074 | 4113 | + 0,7 | 4257,1 | + 4,2 | + 2,5 |
| Скураная . . . | 6359 | 5745,8 | — 9,6 | 5758,2 | — 9,5 | + 0,2 |
| Тэкстыльная . . . | 6986 | 6175,5 | — 11,6 | 5769,6 | — 17,4 | — 6,6 |
| Швэйная . . . | 3154 | 3655 | + 15,9 | 3836,2 | + 21,6 | + 5 |
| Папяровая . . . | 6705 | 6975,8 | + 4 | 6508,2 | — 3,1 | — 6,7 |
| Харчовая . . . | 4705 | 5549,5 | + 17,9 | 4688,1 | — 0,3 | — 11,9 |
| Хэмічная гр. „А“ . . | 1885 | 2340 | + 24,1 | 2102 | + 11,5 | — 11,1 |
| Усяго . . | 59.182 | 65.314,5 | + 11,1 | 61.305,9 | + 3,6 | — 6,1 |
| Панчошна-трыкатажная . | 4.438 | — | — | — | — | — |

Пры разглядзе прыведзенай табліцы зварачаюць на сябе ўвагу надзвычайна мізэрныя сродкі, намечаныя па 5-годцы на тарфяную і хэмічную прамысловасьць групы „А“, якія разам нават значна ніжэй затрат, намечаных на панчошна-трыкатажную прамысловасьць: 3763 тыс. руб. і 4438 тыс. руб. Трэба адзначыць, што некаторыя выпраўленьні гэтай нясуразнасьці як-быццам рабіліся пры складаньні гадавых прамфінплянаў, але-ж побач з гэтым фактычнае выкананьне гэтых плянаў амаль што было зьведзена на нішто, бо гэтыя пляны ў значнай ступені ня выконваліся. Невыкананьне пляну капітальнага будаўніцтва наглядаецца галоўным чынам па тарфяной прамысловасьці (23%), керамічнай (24,7%), шкляной (17,1%), хэмічнай групы „А“ (11,1%) і харчовай (11,9%), гэта значыць па тых галінах прамысловасьці, якія базуюцца на мясцовай сыравіне. Асабліва значнае зьніжэньне выдаткаў маецца супроць чаметкі па пяцігодцы па керамічнай прамысловасьці, у той час як сырцовыя магчымасьці дазваляюць цалкам забясьпечыць мясцовымі рэсурсамі патрэбнасьць будаўніцтва для належнага разгортваньня гэтай прамысловасьці (вапна, цэмант, чарапіца і інш.)

Надзвычайна марудна і таксама з значнымі перашкодамі праводзіцца будаўніцтва прадпрыемстваў па пераапрацоўцы прадуктаў сельскай гаспадаркі: харчовай і льнопяньковай. Пабудаваныя прадпрыемствы гэтай галіны не забясьпечаны сырцом, што паказвае на тое, што плянуючыя і рэгулюючыя органы адначасова з намечанымі плянамі

будаўніцтва прадпрыемстваў у тым ці іншым пункце не зварочвалі ўвагі на сырцовую базу ў гэтым пункце, а пасыўна прыстасоўвалі будаўніцтва да дынамікі разьвіцьця таварнасьці дробна-сялянскай гаспадаркі па статыстычных даных.

Асабліва недапушчальным зьяўляецца плянаваньне ў разьвіцьці тарфяной прамысловасьці, якая павінна стаць асноўнай энэргетычнай базай у індустрыялізацыі народнай гаспадаркі БССР. Ня гледзячы на тое, што БССР мае колёсальныя тарфяныя багацьці (плошча, прыгодная пад тарфяныя распрацоўкі, па орыентовачных даных складае 470 тыс. га з наяўнасьцю звыш 1,2 мільярду паветрана-сухога торфу), у канцы пяцігодкі была намечана здабыча толькі каля 2 міл. тон, у той час, калі штогодны прырост торфу на плошчы, прыгоднай пад распрацоўку, складае 2,3 міл. тон, г. зн., што распрацоўкі ня будуць дасягаць нават штогоднага прыросту.

Недастатковае разьвіцьцё тарфяной прамысловасьці і слабая мэханізацыя здабычы торфу—з аднаго боку, і адносная таннасьць прывознага Данецкага вугалю, чаму спрыяў штучна паніжаны чыгуначны тарыф на перавозку вугалю—з другога боку, а таксама коснасьць некаторых гаспадарнікаў прыводзілі да таго, што сілавая гаспадарка новых прадпрыемстваў прыстасоўвалася да Данецкага вугалю і, як вынік гэтага, мы маем зараз апалавыя цяжкасьці. К канцу пяцігодкі (1932-33 год) намечана спажываньне па БССР каменнага вугалю 513,2 тыс. тон умоўнага апалу, ці 40,2⁰/₀ усяго апалавага балянсу, у той час як торфу ўсяго 336 тыс. тон, ці 26,3⁰/₀ і дроў 346,8 тыс. тон, ці 27,1⁰/₀.

Надзвычайна слаба разгорнута геолёга-разьведачныя і вышукальныя работы прыродных багацьцяў БССР, ад якіх залежыць правільнае географічнае разьмяшчэньне хэмічнай, тарфяной і шкляной прамысловасьці і прадпрыемстваў па вытвару будаўнічых матар'ялаў. Намечаныя па пляну некаторыя об'екты пабудоў ня былі экономічна абгрунтаваны. Асабліва гэта вызначаецца па будаўніцтву цагляных заводаў, дзе адсутнічае неабходная ўвязка з плянамі разгортваньня будаўніцтва наогул (Ворша, Горкі, Віцебск). Адсутнасьць паказаных абгрунтаваньняў у канчатковым разрахунку прымушае здалёк прывозіць цэглу (да 10%), што выклікае, акрамя загрузкі чыгуначных шляхоў, значнае падаражэньне апошняй (да 70—100 р. за 1000 шт.).

Плянавая ўвязка пабудоў цагляных заводаў па лініі рэспубліканскай, мясцовай і саматужнай прамысловасьці да гэтага часу зусім адсутнічала. Так, напрыклад, плян, складзены па саматужнай прамысловасьці на 1931 г., прадугледжвае пабудову 55 напольных печаў без указаньня раёнаў, дзе яны будуць пабудаваны.

Нарэшце, трэба адзначыць, што шэраг пабудаваных прадпрыемстваў да гэтага часу не даюць належнай эфэктыўнасьці альбо з-за няўвязкі паміж абсталяваньнем і сілавой гаспадаркай, альбо ў сувязі з неатрыманьнем сваечасова належнага абсталяваньня. Як напрыклад, неабходна указаць на наступныя прадпрыемствы:

а) Бабруйскі лесапільны камбінат: сабекошт расьпілоўкі 1 кб. мтр драўніны складае 4 р. 43 к. супроць сярэдняга па ўсяму Лесбелу ў 4 р. 58 к., ці зьніжэньне ўсяго на 3,3%;

б) сабекошт цэглы (за 28-29 г. па Будаб'яднаньню) за 1000 шт. складае 27 р. 41 к., а ў 1929-30 г. 28 р. 14 к.—падаражэньне на 2,7%, прычым гэта падаражэньне ідзе за лік новых заводаў; так, сабекошт цэглы ў 1929-30 г. па старых заводах складае 27 р. 12 к., а па новых

28 р. 43 к., ці даражэй на 4,8%, дзякуючы недастатковай мэханізацыі выпрацоўкі, бо ў некаторых выпадках мэханізацыю новых заводаў немагчыма наладзіць. Па заводах №№ 7, 8 і 9 мэханізацыя не праводзіцца з прычыны таго, што была ўстаноўлена неадпаведнасьць гліны для машыннай апрацоўкі;

в) Кандытэрскую ф-ку ў Менску меркавалі пабудаваць на вышэйшай ступені мэханізацыі, аднак зараз-жа, з прычыны адмовы ў імпортным абсталяваньні, ф-ка фактычна будзе абсталявана прымітыўна; адсюль значна памяншаецца эфэктыўнасьць капіталаўкладаньняў: выходзіць лішняя трата грошай на пабудову павялічанага аб'ему будынкаў, якія былі разьлічаны на імпортнае абсталяваньне і зараз не скарыстоўваюцца.

З усяго вышэйадзначанага трэба прыйсьці да вывадаў, што пяцігадовы плян разьвіцьця прамысловасьці БССР і практычнае яго ажыцьцяўленьне не адпавядае дырэктывам партыі і ўраду як па тэмпу будаўніцтва і павялічэньня эфэктыўнасьці капіталаўкладаньняў, так і па напрамку капіталаўкладаньняў па асобных галінах прамысловасьці, і не стварае ўмоў для больш пасьпяховай індустрыялізацыі народнае гаспадаркі БССР. Патрэбен тэрміновы перагляд 5-цігодкі будаўніцтва і выпраўленьне „тых памылак“ з боку ВСНГ і Дзяржпляну, якія тармазілі разьвіцьцё вытворчых сіл народнае гаспадаркі БССР па шляху яе соцыялістычнага будаўніцтва. Патрэбна суровае пакараньне конкрэтных носьбітаў зла, „Рамзіных“ у ВСНГ і ў Дзяржпляне БССР, якія заведамым шкодніцтвам у прамысловасьці імкнуліся павярнуць назад кола гісторыі.

В. М—оў.

# Гісторыя N Стаўрапальскага кавалерыйскага палка.

*(Успаміны ўдзельніка).*

## Як формаваўся полк.

З частак коньніцы, што адступіла з Паўночнага Каўказу разам з XI Паўночна-Каўкаскай арміяй, загадам ад 9 красавіка 1919 г. за № 52 па 1-й асобнай кавалерыйскай дывізіі даручана камандзіру палка т. Лятуненка і камбрыгу т. Савельнікаву сформаваць наш N кавал. полк. Формаваньне палка пачалося ў с. Лагань, Астраханскай губ. і павету. Час быў цяжкі, эскадронам адначасова трэба было і комплектавацца і займаць позыцыі. Формаваньне ішло прысьпешаным тэмпам, але вельмі затрымоўвалася з-за нястачы конскага складу, абмундыраваньня, амуніцыі. Коні даваліся палку стэпавыя, дзікія, нявымуштраваныя, шмат працы вымагалі ад байцоў, каб хоць трохі прывучыць іх да баявых умоў. Харчаваньне коняй было дрэннае — задавальняліся толькі падножным кормам. З харчаваньнем людзей, ня гледзячы на вялікую напружанасьць працы, было ня лепей. Былі выпадкі, што байцы тыднямі мелі толькі па $^1/_4$ ф. хлеба без якога-небудзь прыварку. У такіх умовах пад непасрэдным кіраўніцтвам сапраўдных камандзіраў, камісараў і політпрацаўнікоў, якіх ня шмат было ў палку, давялося формавацца палку. Полк з гонарам скончыў формаваньне, увайшоў у склад слаўнай 7 дывізіі і 11 чэрвеня 1919 г., маючы 800 сабляў, 16 кулямётаў, стаў на позыцыю за 15—20 клм к захаду ад с. Лагань. 17 чэрвеня полк меў першую самастойную стычку з войскам Дзянікіна ў раёне с. Алабухі за 12 клм на паўночны захад ад с. Лагань. Праўда, стычка была няўдачнаю, палку давялося адысьці да с. Басінскага ў 25 клм ад г. Астрахані. Адыходзячы да с. Басінскага, полк атрымаў падмацаваньне ад пяхотных часьцей, падышоўшых з Астрахані, і перайшоў у наступ. Адважна біліся байцы. Цэлых пяць дзён полк змагаўся пад с. Алянічава з большымі сіламі ворага, і пад умелым кіраўніцтвам палкавой парторганізацыі і сваіх па клясе камадзіраў, якія ведалі, куды і за што вялі масу, перамога была за палком. Вораг меў вялізныя страты і быў адкінуты зноў да Чорнага Рынку. У гэтым баі быў узят цалкам Апшаронскі полк ворага з 16 афіцэрамі і палкоўнікам Паповым, 5 кулямётаў, 400 вінтовак і шмат іншых трофэяў. Гэты бой ня зьнікне з памяці старых байцоў. Рэввоенсавет рэспублікі даў палку ганаровы рэволюцыйны чырвоны сьцяг. Вось грамата аб узнагародзе ганаровым рэволюцыйным чырвоным сьцягам.

„Па даручэньню Ўсерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Савету рабочых, сялянскіх, чырвонаармейскіх і казачых дэпутатаў Рэволюцыйны Ваённы Савет Расійскай Савецкай Фэдэрацыйнай Соцыялістычнай Рэспублікі пастанавіў: даць ганаровы рэволюцыйны чырвоны сьцяг N кавал. палку 7 кавал. дывізіі...

... 25 чэрвеня 1919 г. вораг, наступаючы галоўнымі сіламі па шляху Стаўка—Эркетнееўскі ўлус—Яндыкі—Басінскае, кінуў на правы флянг левай групы заходняга баявога вучастку ў раёне хут. Собалеў—Башмачагоўскае тры кавал. палкі з дзьвюма гарматамі. Мэтаю сваёю ён ставіў зьбіць нашы часьці — 2 эскадроны N кавал. палка — і заняць шлях з Басінскага на Лінейнае — Астрахань, адрэзаўшы ад Астрахані нашы галоўныя сілы, сконцэнтраваныя ў раёне Басінскага, і прыціснуўшы іх да Ільменяў. Пад націскам пераважных сіл ворага памянёны 2-гі эскадрон N кавал. палка пачаў адступаць, і белагвардзейцы ледзь не занялі самы шлях, які ўжо быў пад іх артылерыйскім і вінтовачным агнём. У гэты час наш N кавал. полк, які быў у Басінскім, каб выканаць загад аб затрыманьні ворага, перайшоў мост каля с. Міхайлаўкі і зьбіў ворага з позыцыі, адкінуўшы яго да Яндыкаў. Урэшце, пры нашым наступе на в. Яндыкі 1 ліпня 1919 г., калі вораг трыма палкамі кінуўся на нашы тры правафлангавыя эскадроны, зьбіў іх і пачаў гнаць у напрамку в. Зензелі, — наш N кавал. полк, кінуты з левага флангу на пагрозны вучастак, разам з прышоўшымі да парадку трыма эскадронамі 37 кавал. палка, хутка перайшоў у контратаку, прымусіў яго панічна бегчы і заняў в. Яндыкі і Прамыслоўку, дзе захапіў адну гармату і 4 кулямёты...

У засьведчаньне памянёнага і выдадзена гэтая грамата.

Орыгінал падпісаў

Нам. старшыні Рэв. Воен. Савету Рэспублікі Э. Склянскі № 36. 15 лістапада 1919 г. г. Масква.

На працягу верасьня 1919 г. і да лютага 1920 г. полк вядзе баі на правым і левым беразе р. Волгі, не даючы ворагу прабрацца ў раён г. Астрахані, у раёне с. Вязаўкі, Баранаўкі, Чорны Яр, Старынкава, Зубаўка, адначасна рыхтаваўся да значнай опэрацыі—паходу на Стаўрапаль. З лютага 1920 г. пачалося агульнае наступленьне Царыцынскай групы, у якую ўваходзіў наш полк. Наступ пачаўся ў напрамку Рамонтная — Цаса, а агульны кірунак быў на Стаўрапаль. 28 лютага полк у складзе кавалерыйскай групы сярэдняга атраду пад камандай т. Памятуна зноў пачаў наступаць на г. Стаўрапаль і да ночы гэтага дня заняў с. Міхайлаўку за 7 клм ад Стаўрапалю. 29 лютага горад Стаўрапаль быў атакаваны часьцямі кавал. групы і а 16 гадзіне заняты. Першым у горад уступіў на плячох ворага дывізыён нашага палка, захапіўшы гарматы, знарады, абозы, лічбу якіх ня ўлічылі, бо вельмі шмат было трофэяў. За ўзяцьце Стаўрапалю полк атрымаў назву „Стаўропальскі." Ачысьціўшы Кубань ад белых, полк уступіў у Церскую обласьць. Тут прабыў нядоўга. З гораду Пятроўску, сеўшы на судно і сьледуючы праз Дэрбэнт, высадзіўся на ст. Беледжы, дзе стаў на пагранічную варту Азэрбайджана па р. Самуру. Нядоўга полк нёс гэту варту. Патрэбна было ачысьціць рад гарадоў Азэрбайджана: Кусры, Куба, Шыескі, Нуха, Сакаталы — ад паўстаўшых бэкаў і ханаў, што полк удала выканаў. 27 чэрвеня 1920 г. полк стаў на мяжы Грузіі на р. Алазань. Шырокую працу разгарнула тут парторганізацыя палка. Адбывалася братаньне з Грузінскімі салдатамі (тады Грузія ня была Савецкай, іх армія

называлася Грузінскай Нацыянальнай арміяй) і распаўсюджвалася наша літаратура. Шмат грузінскіх салдат перайшло ў наш полк, калі толькі даведаліся, за каго яны змагаюцца. Ініцыятывай парторганізацыі палка была організавана дапамога бядняцкаму мясцоваму насельніцтву пры ўборцы ўраджаю, а таксама пабудаваны культурныя цэнтры — клюбы, чытальні, тэатры і г. д. Байцы зразумелі задачы комуністаў, з кожным



Баец на вучобе—бярэ перашкоду.

днём іх давар'е да парторганізацыі расло, і за час стаяньня на граніцы Грузіі организацыя вырасла на некалькі сот чалавек. Полк адпачываў нядоўга і быў перакінуты для барацьбы з Урангелем. Ударам у фланг часьцям Урангеля, якія займалі Марыўпаль — Кутанінкава — ст. Долю, полк адцягнуў гэтыя часьці ад раёну Юзаўкі і ня даў заняць Донбас.

25 кастрычніка полк у напрамку Багданава — Троіцкае, ст. Хвёдараўка адважнай атакай прарывае фронт ворага і бярэ ў палон цалкам партызанскі полк імя ген. Аляксеева. А далей ідзе наступ на Перакоп, узяцьце Юшунскіх умацаваньняў, заняцьце Крыму і зьнішчэньне Урангеля. Пасьля гэтага наш полк доўга яшчэ змагаўся з бандамі на палёх Украіны. Полк бязупынна змагаўся з бандамі Махно, Шчуца, Залатога Зуба, Цюцюніка і іншых. Паміж баямі палкавая парторганізацыя разгортвала вялікую працу. Убіралі ўраджай з палёў, вялі культасьветную працу, дапамагалі галадаючым Паваложжа. Партыйцы па вёсках зьбіралі сотні пудоў хлеба для галадаючых.

Бой пад Мікалаеўкай—апошні бой, жалкая жменька 25—30 чалавек уцякла ў Румынію і разам з ёю ўцёк бацька Махно і больш на Украіне не зьяўляўся. У 1925 г. у лістападзе полк з дывізіяй пераходзіць на мірную вучобу, каб і ўдалейшым пільна абараняць межы СССР. У 1925 г. узвод палка заняў першае месца ў спаборніцтвах

паміж палкамі дывізіі, паміж дывізіямі ў акрузе і паміж акругамі на Ўсесаюзных контрольных спортыўных спаборніцтвах у Маскве. За гэта мае прызы: 1. Бунчук—пераходны прыз у дывізіі. 2. Бронзавы гадзіньнік — за ўладаньне халодным аружжам і стральбу. 3. Крышталёвую вазу ў сярэбранай аправе. 4. Шаўковы флюгер эскадрона — знак пяршынства на ўсесаюзных спаборніцтвах. 5. Статуэтку масянжовых



Групавая вучоба байцоў.

коняй. Летам 1927 г. полк заняў першае месца і ў дывізіі, і ў акрузе, і ў СССР. У 1929 г. у часе агляду чырвонай казармы полк атрымаў акруговае і ўсесаюзнае 2-ое і 3-яе месцы. У 1930 г. полк працаваў як ударны. Сапраўды бальшавіцкае кіраўніцтва парторганізацыі дае такія вынікі:

1. Дэмобілізаваныя ўсе паехалі ўдарнікамі 3-га году пяцігодкі.

2. Полк падрыхтаваў:

трактарыстаў — 68

жывёлаводаў — 24.

Колгасьнікаў і організатараў — 88.

Кіно і радыё-мэханікаў — 28.

3. Усе дэмобілізаваныя паехалі ў колгасны сэктар.

4. Парторганізацыя вырасла з 1930 г. на 98 чалавек.

5. Комсамол вырас на 214 ч.

6. Шырока разгорнута соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

7. Полк мае цесную сувязь з падшэфным 2 Дзяржаўным Беларускім Тэатрам, актораў гэтага тэатру навучае вайсковай справе, акторы вядуць культасьветную працу.

Наш сьцяг ня схіліцца ў баі.

Л. Бабровіч і Ів. Шпілеўскі.

# Супроць контр-рэволюцыйных нацдэмаўскіх тэорый у этнографіі.

*(Працяг).*

Сярод сабранага ў некалькіх тысячах запісаў і выданага катэдраю этнографіі БАН у некалькіх паасобных зборніках і кніжках фольклёрнага матар'ялу пераважнае месца займае матар'ял рознага пахабнага і антысэміцкага характару. Нацдэмократы асабліва смакуюць антысэміцкі і пахабны матар'ял, якім часта розныя пісакі ўпрыгажаюць платы і прыбіральні. Слоўнік Некрашэвіча і Байкова „ўпрыгожаны" і самай агіднай пахабшчынай. Такім матар'ялам перасыпаны і ўсе зборнікі і паасобныя артыкулы, выданыя катэдраю этнографіі БАН. Напрыклад, надрукаваны працы М. Нікіфароўскага, якія былі ня скончаны друкам у „Записках северо-западного отдела императорского русского географического общества" і ў „Крывічы"! а таксама і працы нацдэма Шлюбскага. У гэтых працах катэдра этнографіі захапілася такой бессаромнай парнографіяй, якой ніяк нельга паўтарыць на старонках гэтага часопісу.

Цікава яшчэ адзначыць, што гэты нацдэм Шлюбскі даваў сваечасова матар'ялы сваёй „навуковай" працы [1]) і за межы ў часопіс Ластоўскага „Крывіч", толькі з тэй розьніцай, што тут ён гаворыць аб зьбіраньні вуснай народнай творчасьці на Беларусі, а ў часопісу „Крывіч" ён ужо гаворыць у „Крывіі". Там ён піша: „Гэты нарыс стаўляе сабе заданьнем выявіць пройдзены шлях папярэднімі беларускімі (крывічанскімі) этнографамі, што да зьбіраньня вуснай народнай творчасьці на паўночна-ўсходняй частцы Беларусі (Крывічыне, якая складаецца з быўшых паветаў Аршанскага (да мяжы з Горацкім), Вітабскага... Веліскага... Гарадоцкага, Дзісьненскага, Дрысенскага, Дзьвінскага" [2]) і г. д. Для Шлюбскага ня існуе Савецкай Беларусі, ня існуе адміністрацыйнага падзелу гэтай Беларусі на акругі, а для яго як і для ўсіх нацдэмаў гэта была і ёсьць іх нацдэмаўская „Крывія".

Варта яшчэ хоць коратка спыніцца на працах „камісіі вывучэньня матар'яльнай культуры Беларусі". Усёй працай і гэтай камісіі кіраваў таксама Ластоўскі. Апрача яго, у гэтай каміссіі працавалі яшчэ Шлюбскі, Касьпяровіч, Мялешка, Сербаў. Ужо адно пералічваньне тэм, над

---

[1]) А. Шлюбскі. Год зьбіраньня фольклёрнага матар'ялу „Наш Край", № 1 (16), 1927 г., стар. 31.

[2]) Шлюбскі. Вынікі зьбіраньня вуснай народнай творчасьці на паўночна-заходняй Беларусі (Крывічыне). „Крывіч", Коўна, 1927 г., № 12, стар. 38.

якімі працавала камісія матар'яльнай культуры на працягу 1927-28 г., паказвае, што ўся праца была накіравана па аднаму рэчышчу—шукаць „чыстага, самабытнага, беларускага мастацтва". Вось што мы бачым у апублікаванай у бюлетэні Інбелкульту № 2 за 1927/28 г. справаздачы катэдры этнографіі: Ластоўскі падрыхтоўвае да друку: „альбом беларускага народнага орнамэнту", „альбом беларускіх ткацкіх узораў Віцебшчыны Астрэйкі", „альбом беларускіх народных паясоў", „монографію аб беларускім драўляным будаўніцтве". Сербаў падрыхтаваў „прычоскі і галаўныя ўборы беларускага народу старажытнага часу"[1]). Апрача гэтага, Ластоўскі зрабіў у 1928 г. дзьве экспэдыцыі, аб якіх справаздача гаворыць: „У выніках сабрана 600 экспонатаў з народнага мастацтва і матар'яльнай культуры, сярод якіх ёсьць экзэмпляры зьнікаючых тыпаў беларускай народнай вопраткі; зроблена звыш 400 фотографічных здымкаў"[2]) і г. д. З гэтых здымкаў Ластоўскі зрабіў дарагія аграмадныя альбомы. Сярод усіх гэтых 400 здымкаў (для фотографаваньня іх у экспэдыцыю браўся спэцыялісты мастак-фотограф) абсолютную большасьць займаюць: цэрквы, касьцёлы, келіхі, крыжы і потым здымкі „самабытных вясковых жанчын і дзяўчат, апранутых у „зьнікаючыя тыпы" беларускай народнай вопраткі. Сярод гэтых здымкаў у альбомах „красуецца" у самабытнай вопратцы і сам Ластоўскі з сваёю „самабытнай" жонкай, якую браў з сабою ў экспэдыцыю. Апрача гэтага, Ластоўскі працаваў і над такімі монографіямі, як: „яда і піта Беларуса", „Вянок—дзявочы галаўны ўбор" ды іншыя.

Сярод збору матар'ялаў па матар'яльнай культуры асаблівай увагі заслугоўваюць у Ластоўскага камені ці каменныя бабы. Ён, носячыся са сваёй „крыўскай тэорыяй", хоча бачыць і ў камянёх пацьверджаньне апошняй. На гэту тэму ён шмат сьпісаў паперы і вось мы бачым яго загад-устаноўку для этнографаў. Ён кажа, што: „з усёй праўдападобнасьцю трэба бачыць у цяперашніх камянях-краўцах, магутаў крыўцоў ці—Крыўда, мітычнага нацыянальнага героя нашага крыўскага племя. Дзеля гэтага на абавязку беларускіх этнографаў, якія маюць магчымасьць працаваць у краі, ляжыць сабраць народныя легенды аб гэтых каменях. З абрыўкаў, з аддзельных эпізодаў можа з часам зложыцца цэлае, якое будзе адным з найцаньнейшых укладаў у нацыянальную нашу скарбніцу"[3]). І вось на гэту ўстаноўку-загад таксама адклікаюцца тут у БССР нацдэмы.

Каб зрабіць „найцаньнейшы ўклад у нацыянальную нашу скарбніцу", М. Мялешка, на працягу некалькіх гадоў зьбірае здымкі розных каменных баб; зьбірае і запісвае легенды і паданьні аб іх (вядома ад „старых і няпісьменных") і ў зборніку прац катэдры этнографіі БАН друкуе „навуковую" падагуленую працу аб гэтых камянёх пад назваю: „Камень у вераньнях і паданьнях беларуса". У гэтай сваёй працы ён падае цэлы рад розных забабонаў аб камянёх, якія зьвязаны толькі з рэлігійнымі поглядамі чалавека, пачынаючы аж ад кнігі „Ісуса Навіна" і канчаючы апошнімі байкамі старых бабулек. У вывадах сваёй працы аб камянёх ён зазначае, што камяні: „зьяўляюцца цікаўнымі помнікамі мінулага... аб жыцьці душы чалавека на „тым сьвеце". Пры вывучэньні старажытнай культуры беларуса, дасьледчык прымушаны будзе зьвярнуцца ня раз да гэтых помнікаў, якія цяпер застаюцца бяз уся-

[1]) І. Б. К. Бюлетэнь № 2, 1927-28 г., ст. 75.
[2]) Там-сама, стар. 74.
[3]) В. Ластоўскі. „Крывіч", Коўна, 1923 г., № 6. Аб камянях-краўцах, стар. 47.

кай увагі"[1]). Яму, як і ўсім нацдэмам, надзвычайна балюча, што ўся гэта старасьветчына зьнішчаецца, дзякуючы рэволюцыйным падзеям, і што яна „застаецца бяз усякай увагі". Перамогшаму пролетарыяту непатрэбны розныя каменныя бабы, яму патрэбны энтузыязм і спосабы найлепшай барацьбы за новы рэволюцыйны соцыялістычны быт, для пабудовы і замацаваньня сваёй улады, а не для падтрыманьня байкі Ластоўскіх, Мялешак аб „крывічох", „краўцох" і г. д.

Сучасныя погляды Ластоўскага на Беларусь і „яе народ", як ён кажа, абсолютна не зьмяніліся з часоў „Нашай Нівы". Так у 1910 г. у сваёй „Кароткай гісторыі Беларусі" Ластоўскі пісаў: „На пінскіх недаступных балотах больш захавалася беларускай старасьветчыны, як у мове, так і ў опратках. Край гэта маркотны, але надта цікавы, бо яшчэ многа мае ў сабе старога, што другімі ваколіцамі даўно ўжо забыта"[2]). Нездарма і ўсе свае экспэдыцыі катэдра этнографіі БАН рабіла згодна з гэтай устаноўкай Ластоўскага часоў „нашаніўшчыны". Пад яго кіраўніцтвам і ў часы дыктатуры пролетарыяту, экспэдыцыі катэдры этнографіі рабіліся ў найбольш адсталыя куткі Савецкай Беларусі, як, напр., Мазыршчына і Полаччына. Бо там яны шукалі таго старога, „што другімі ваколіцамі забыта".

Мы ўжо казалі вышэй, што беларускай нацыянальнай культурай і беларускім нацыянальным мастацтвам Ластоўскі лічыць толькі царквы, касьцёлы, бажніцы, старыя драўляныя вырабы, старую вопратку ды яшчэ каменныя крыжы, каменныя бабы, набойку, крашаніну. Нацдэмократы як, напр., Ластоўскі, Шлюбскі, Шчакаціхін ды іншыя вельмі баяцца, што ўсё гэта вельмі хутка зьнікае ў „гэту страшную" для іх эпоху і яны стараюцца, як мы бачым, як-мага хутчэй усё гэта „самабытнае", старасьвецкае занатаваць, апісаць, зрабіць фотоздымкі, каб ужо ў „лепшыя" часы займацца вывучэньнем апраўданьня сваіх нацдэмаўскіх доказаў і падвядзеньня пад іх „навуковага" абгрунтаваньня. І, як мы бачым, гэта падвядзеньне „навуковай базы" контр-рэволюцыянэрамі нацдэмократамі адкладаліся да „іх" лепшых часоў таму, што „пры цяперашнім стане вывучэньня беларускага народнага мастацтва прыходзіцца думаць пакуль што ня гэтулькі аб навуковай клясыфікацыі беларускага народнага орнамэнту, як аб простым зьбіраньні і фіксаваньні ў друку сабранага"[3]).

Працуючы ў Савецкай Беларусі, усімі сіламі ненавідзячы дыктатуру рабочае клясы, яны ўсё-ж такі не маглі так яскрава і сьмела праводзіць сваю тэорыю аб „волатах", „Крывіі", пераважнасьці „крыўскай культуры" над іншымі, у савецкім друку як гэта мы бачым, яны рабілі ў сваім „Крывічы". Тут у БССР, яны зьбіралі матар'ял, падрыхтоўвалі яго і выдавалі ў больш-менш завуаляваным выглядзе. Вялі работу супроць улады Саветаў і чакалі таго часу, калі, зьнішчыўшы дыктатуру пролетарыяту і адбудаваўшы сваю „крыўскую дзяржаву", яны будуць разам з замежнымі капіталістымі і памешчыкамі на сьпінах рабочых і сялян Беларусі „вывучаць" сабраны матар'ял.

Не праходзіць міма нацдэмаў ніводнае зьявішча ў жыцьці народу, каб яны не ўхапіліся за яго і ня сталі даводзіць, што гэта абавязкова „самабытнае" беларускае, а ня чыё-небудзь другое, ня другой якой-небудзь нацыі. Так і з так званай „крашанінай" і „набойкай".

[1]) Мялешка. Камень у вераньнях і паданьнях беларуса. Працы катэдры этнографіі, т. І, стар. 181-182.

[2]) Власт. Кароткая гісторыя Беларусі, Вільня, 1910 г., стар. 104.

[3]) Ластоўскі. Працы катэдры этнографіі, т. ІІ, стар. 179.

Першая праца, якая зьявілася на гэту тэму ў выданьні Віцебскага акруговага таварыства краязнаўства пад рэдакцыяй нацдэма М. І. Касьпяровіча, гэта „І. П. Фурман. Крашаніна. Матэрыялы да гісторыі яе ў Віцебшчыне". Гэта праца, відаць, не падабалася, ці ня была ўзгоднена з контр-рэволюцыянэрам Ластоўскім, і вось ён у сваім „Крывічы" дае такую крытыку і ўстаноўку. Ён кажа, што: „нам не зразумела, чаму аўтар, хочучы давесьці аб даўнасьці набойкавага ўмецтва, шукае прыкладаў не краёвых, а сягае да маскальскіх крыніц. Што гэта? Намёк на тое, што набойкавае ўмецтва прышло да нас з Масковіі? Ці гэта сьвядомае мяшаньне маскоўскай этнографіі з крыўскай? І ў першым і ў другім здарэньні пастаноўка няправільная, бо эміграцыя на ўсход ішла з крыўскіх зямель, а не наадварот, а знача мастацтва і этнографія былі пераношаны з крыўскіх зямель, а не наадварот. Тым часам такой агаворкі ў кніжцы няма, і атрымліваецца прыкры недасказ, які можна так ці іначай тлумачыць"[1]). І вось мы бачым, як толькі „крыўскі" бацька Ластоўскі прыкрыкнуў на зарваўшыхся тутэйшых „развучоных" нацдэмаў, дык апошнія пачалі выпраўляць свае памылкі і пачалі ва ўсіх сваіх працах аб крашаніне і набойцы крычаць і даводзіць, што апошняя—гэта чыстая беларуская нацыянальная гордасьць. Так Шлюбскі ў 1926 г. праз год пасьля наганяя Ластоўскага піша кніжку пад назваю: „Крашаніна (набіванка)", у якой поўнасьцю становіцца на шлях „бацькі" Ластоўскага і даводзіць, што: „...старадаўнія гандлёвыя шляхі бдларускіх продкаў (а не маскоўцаў) з Усходам праходзілі праз Беларусь, і, што ў XII ст. друкаваная тканіна была ўжо ў беларускіх колёнізатараў сучаснай Наўгародзкай зямлі—можна беспамылкова лічыць, што справа друкаваньня тканіны... існавала на тэрыторыі тагочаснай палітычнай Беларусі"[2]). Далей ён кажа: „што друкаваньне тканіны ў усходніх славянаў перш за ўсё ўзьнікла ў беларускіх плямёнах, а потым перайшло і да сваіх суседзяў—маскоўцаў... Тут мы бачым звычайную рэч: маскоўская навука „непадзельнай Расіі" вельмі любіла далучаць да агульна-маскоўскай культуры ўсе старадаўнія помнікі беларускай культуры"[3]). Бачыце, чым не Ластоўскі № 2 і як хутка „ўспрыняў" урок і „культуру" і г. д. Ёсьць нават і „колёніі" і межы распаўсюджаньня крашаніны. Так ён даводзіць, што „друкаваньне тканіны на Беларусі з XII ст. ішло неперарыўна... а ў XIX ст. ... ужо паміраючае, бачым распаўсюджаным па ўсёй этнографічнай Беларусі ад Віцебшчыны і да *беларускай Чарнігаўшчыны* ўключна"[4]). І далей ужо амаль словамі самога Ластоўскага ён сьцьвярджае, што „з пэўнасьцю можна сказаць, што мастацтва друкаваньня тканіны перш зьявілася не ў маскоўцаў (як гэта сьведчаць маскоўскія вучоныя), а на Беларусі, што вельмі важна для выяўленьня культурнага беларускага ўплыву на разьвіцьцё этнографічнай Расіі"[5]). Выпраўляе сваю ранейшую памылку і другі нацдэм, Касьпяровіч, які таксама атрымаў „галавамойку" ад Ластоўскага, ва ўступе да вышэйпаданай кніжкі Шлюбскага таксама даводзіць, што: „беларускае дэкорацыйнае мастацтва, да якога належыць і крашаніна, зусім справядлова павінна спыняць нашу ўвагу як най-

[1]) „Крывіч", Коўна, 1925 г. № 10(2). Кнігасьпіс і крытыка, стар. 119.
[2]) А. Шлюбскі. Крашаніна (набіванка). Віцебск, 1926 г., стар. 9-10.
[3]) Там-жа стар. 10.
[4]) Шлюбскі. Крашаніна (набіванка), Віцебск, 1926 г., стар. 12.
[5]) Там-сама, стар. 13.

больш самабытнае"[1]). Нядарма за гэта ў наступным нумары свайго „Крывіча“ Ластоўскі хваліць Шлюбскага за яго „цэнны ўклад у крывічанскую гісторапісь“. Так разьбіраючы ў „кнігасьпісу“ працу Шлюбскага „Крашаніна (набіванка)“, Ластоўскі кажа: „Пасьля кніжкі І. П. Фурмана „Крашаніна“ вышла ў сьвет другая кніжыца *ўважнага дасьледчыка крывічанскай мінуўшчыны* А. Шлюбскага... Праца А. Шлюбскага ёсьць ужо досьлед гэтай галіны мастацтва на краёвым крывічанскім грунце... у параўнаньні з першай, яна заслугоўвае бязьмерна большай увагі, зьяўляецца сапраўды цэнным укладам у крывічанскую гісторапісь. Астаецца пажадаць, каб паважаны аўтар больш пасьвяціў сваей увагі данаму пытаньню“[2]). Якая цесная „навуковая“ сувязь існуе паміж контр-рэволюцыянэрамі нацдэмократамі, што жывуць тут у БССР і што знаходзіліся тады па-за межамі БССР. Як хутка атрымліваюцца заданьні, устаноўкі; праводзіцца іх выкананьне і атрымліваецца своечасовая пахвальба за выкананую працу. Фурман апісваў крашаніну, спасылаючыся на маскоўскія крыніцы — прэч яго. Загад нацдэму Шлюбскаму давесьці, што крашаніна толькі „крыўскае“ (беларускае) мастацтва, выконваецца ў савецкім друку і з-за меж за гэта „бацька Крывіі“ выдае яму, як „уважнаму дасьледчыку крывічанскай мінуўшчыны“, свой ганаровы „дзякуй“, бо Шлюбскі, ня гледзячы на тое, што ён працаваў ва ўмовах БССР, выканаў загад Ластоўскага, як мы бачым, дасканала. Так вуснамі „вучоных“ Касьпяровіча, Шлюбскага, даводзіцца, што і набойку-крашаніну таксама „укралі праклятыя маскоўцы“ ад няшчаснай „крывічанскай зямлі“.

Але-ж нацдэмократы ня спыніліся на сваіх доказах 1926 г. Яны, атрымаўшы падтрыманьне ўжо тут на тэрыторыі Савецкай Беларусі ад свайго правадыра Ластоўскага, ідуць далей у сваіх „навуковых“ вывадах і доказах. Ужо ў працах катэдры этнографіі БАН той-жа самы Шлюбскі яшчэ раз сьцьвярджае, што: „ня можа быць аніякага сумненьня ў тым, што набойка занесена ў старадаўныя крывічанскія землі з усходу і што з старадаўных крывічанскіх... зямель яна пашыралася па ўсходняй Эўропе адначасна з колёнізацыяй яе крывічанскімі... плямёнамі“[3]) і „навукова“ даводзіць, што разьвіцьцё набойкі на Беларусі ішло па двух шляхох. Ён кажа, што першы шлях гэтага разьвіцьця набойкі адбываўся ў „старыдаўныя часы пад непасрэдным уплывам беларускіх нацыянальных форм, якое вядзе свой пачатак з XII ст. і скончваецца... у канцы XVIII ст., другі шлях... у XIX ст. пад непасрэдным уплывам саматужнікаў Цьвярской губэрні“[4]). Вось вам „часьцейшыя“ нацдэмаўскія, нават не якія-небудзь, а „навуковыя“ доказы, што „Крывія“ і „крывічы“ гэта ўсё, а ўсе іншыя нацыі нічога ня варты, бо яны ўсё займалі ад „крывічоў“ і толькі адны крывічы былі разумныя і здольныя да ўсяго.

Варта яшчэ спыніцца на адным „старым вучоным“—беларускім этнографе, працаўніку катэдры этнографіі БАН І. Сербаве. Гэта сапраўдны хамелеон ад навукі. І. Сербаў у сваіх працах па этнографіі Беларусі да часоў Кастрычнікавай рэволюцыі ўвесь час пеў ва ўнісон з самымі махровымі чорнасоценнымі царскімі чыноўнікамі і вучонымі прадстаўнікамі „единой, неделимой матушки России“. Вывучаючы

[1]) Касьпяровіч. А. Шлюбскі. Крашаніна (набіванка). Віцебск, 1926, Уступ. ст. 3.

[2]) „Крывіч“, Коўна, 1926 г., № 1 (11), Кнігасьпіс. А. Шлюбскі. „Крашаніна (набіванка)“ пад рэдакцыяй М. Касьпяровіча, стар. 115.

[3]) Шлюбскі. Працы катэдры этнографіі, т. І. Аб беларускай набойцы, стар. 187-188.

[4]) Там-сама, стар. 191.

Беларусь, ён ніколі ня бачыў тут беларуса з беларускай мовай. Так, вывучаючы Палесьсе ў 1914 г., ён заўсёды чуе толькі рускую мову. Ён піша: „всюду слышится его старорусская речь—народная песня“, „говорят на местном наречии по-русски“ [1]) і г. д. Далей ён даводзіць, што „на всем Полесье... народ издавна отличается или своей грубостью и склонностью к воровству или же хитростью и развращенностью“ [2]). Ён даводзіць у сваіх творах, што беларускі народ нічым не займаецца акрамя „грубасьці“, бачыце, да царскіх чыноўнікаў і „зладзействам“, больш нічым. Ён, апрача гэтай нянавісьці да беларусоў, ненавідзіць таксама і яўрэйскае насельніцтва Беларусі. У тагочасных працах Сербава заўсёды праглядае гэта яго нянавісьць да яўрэяў, яго антысэмітызм. Аб яўрэях ён гаворыць з пагардаю: „пришлось согласиться на все условия, лишь бы как-нибудь выбраться из еврейского постоялого двора“ [3]). Абараняючы ўсё старое і расійскую старасьветчыну, ён шкадуе, што „старинная обстановка народного быта уступает свое место новому... но древне-русское наречие еще довольно упорно отстаивает свои позиции“ [4]). І далей: „все наше древне-русское пока хранится еще старым поколением, но умрет оно и унесет с собой в вечность родную старину“ [5]). Вось за што змагаецца „навуковы этнограф“ Сербаў да Кастрычнікавай рэволюцыі. Ён, разам з рэакцыянэрамі, царскімі чыноўнікамі „навукова“ даводзіць, што гэта край „ісконі рускі“, што няма ніякіх там беларусоў, што яны ўсе гавораць толькі „по-русски“. Значыць, няма чаго даводзіць, што беларусы могуць мець сваю нацыянальную культуру.

Пасьля таго, як адбылася Кастрычнікавая рэволюцыя, пасьля таго, як гэтыя „грубыя“ і „развращенные“ рабочыя і сяляне ўзялі ўладу ў свае рукі, Сербаў пачынае пераафарбоўвацца і бярэ ўжо ў сваіх „навуковых“ доказах другую ноту, пачынаючы падпяваць ва ўнісон з беларускімі „незалежнікамі“ нацдэмократамі. У 1918 г. ў Віленскай беларускай газэце „Гоман“ ён пачынае рассыпацца перад беларусамі і пачынае пець дыфірамбы беларускай песьні і беларускаму народу. Так, ён піша, што „песьню (беларускую народную) прынята зваць чым хочаце—выцьцём і г. д., мала гэтага, падымаецца нават пытаньне, ці ёсьць сапраўды беларуская народная песьня, як штось самабытнае... Гэта некарыснае прадстаўленьне аб беларускай народнай песьні складалася пад уплывам... вельмі благіх варункаў... праз многія вякі быў дый цяпер яшчэ ёсьць наш родны край—Беларусь. Гаротнік беларус усё жыцьцё сваё правёў у заўзятай барацьбе... бараніў сваю незалежнасьць і нацыянальнасьць. Народы, што былі ў гэтых варунках загінулі... але беларус не памёр... Праўда ён пагалеў і пагрубеў, але ў народнай барацьбе ўзяў верх... Беларус адзін захаваў свой нацыянальны характар. Зразумела, што беларусы захавалі зусім чыстай і старавечную сваю песьню“ [6]). З гэтай выняткі мы ўжо бачым, што беларусы існавалі спрадвеку і захавалі нават „старавечную сваю песьню“. Далей, ужо ў газэце „Савецкая Беларусь“ у артыкуле „Гістарычна даўні пэрыод Беларусі“ Сербаў кажа: „на

[1]) Сербов И. А. Поездки по Полесью. Вильно. Изд. С.-З. отд. ИРГО. 1914 г. §§ 22—28.
[2]) І. А. Сербаў. Беларусы-сакуны. ИТГР, 1915 г., X.
[3]) Сербов И. А. Поездки по Полесью. Вильно. Изд. С-5 отд. ИРГО, 1914 г. § 30.
[4]) І. А. Сербаў. Беларусы-сакуны. ИТГР, 1915, § XV.
[5]) Сербаў. Беларусы-сакуны. ИТГР. 1915, § XVII.
[6]) І. Сербаў. „Аб беларускай народнай песьні“. Гоман, газ. Вільна, 1918 г. № 82.

ўсім гэтым абшары чутна жывая, беларуская мова і ўсюды відаць беларуская культура“ [1]).

І вось на працягу гэтага часу беларус у яго перавярнуўся з „злодзея“ і „грубіяна“ ў „моцнага і стройнага целаскладу“, „беларус уладае багатымі духоўнымі здольнасьцямі“ [2]). І калі раней, як мы бачылі, па Сербаву, ніякай Беларусі, ні беларускай мовы, ні песьняў, нічога ня было, дык цяпер ён, падобна да ўсіх нацдэмократаў, падобна да Ластоўскага, адводзіць межы старой Беларусі, амаль, аж да Волгі і Акі. Вось як з падтрыманьніка чорнасоценных царскіх вучоных „вучоны этнограф“ Сербаў перафарбоўваецца ў заядлага, „шчырага“ беларускага этнографа на працягу досыць нязначнага часу, у падтрыманьніка беларускіх контр-рэволюцыйных нацыянал-дэмократаў тыпу Лёсіка, Ластоўскага, Некрашэвіча, Шлюбскага і іншых.

Такую-ж двурушніцкую навуковую дзейнасьць, як вучоны этнограф Сербаў, праводзіў і вучоны лінгвісты, профэсар БАН Бузук. На паседжаньні былога аддзелу мовы і літаратуры ў 1927 годзе разглядалася вядомая творчасьць контр-рэволюцыянэра нацдэмократа Шлюбскага, якая вышла потым у выданьнях Інбелкульту двума тамамі пад назвай „Матар'ялы да вывучэньня фольклёру і мовы Віцебшчыны“. Раней, да надрукаваньня яе, яна мела назву „Творчасьць крывічоў“. Вось аб гэтай працы Бузук дае наступны водзыў: „Праца... здавальняюча навуковым вымогам з розных бакоў... асабліва карыснымі будуць зборнікі А. Шлюбскага для беларускай этнографіі і дыялектолёгіі... Усё гэтае дае нам падставу вызнаць „Творчасьць крывічоў“ А. Шлюбскага заслугоўваючай таго, каб яна была надрукавана ў першую чаргу з ліку тых этнографічных матар'ялаў, якія ёсьць у распараджэньні фольклёрна-дыялектолёгічнай камісіі“. [3]) Вось як гаворыць лінгвісты аб шкодніцкай працы нацдэма, свайго сабрата Шлюбскага. Мы бачылі ўжо вышэй, што мае ў сабе гэта праца Шлюбскага, дзе акрамя пахабшчыны, зьнішчэньня клясавасьці, выхваленьня кулацтва, больш нічога няма. Усе, і вялікадзяржаўныя шовіністыя і беларускія нацдэмы, змыкаліся тут у адным і ішлі аднэй дарогай, да ўтварэньня сваёй „незалежнай“ панскай беларускай рэспублікі.

У канцы мы адзначаем, што тут намі разгледжана толькі частка этнографічных прац і галоўным чынам такіх ярых контр-рэволюцыянэраў нацыянал-дэмократаў, як Ластоўскі, Шлюбскі, Касьпяровіч, Мялешка і іншыя. Разглядаючы этнографічную, этнолёгічную і культурна-гістарычную літаратуру, што выдавалася як галоўным правадыром і кіраўніком усіх гэтых галін навукі нацдэмам Ластоўскім, так і ўсёй яго школай як у ковенскім „Крывічы“, так і катэдрай этнографіі БАН, мы ў гэтым разборы абмежаваліся толькі нэгатыўнымі выкрыцьцямі рэакцыйнай сутнасьці і мэтодолёгіі ў працах нацдэмократаў па этнографіі.

Контр-рэволюцыянэры нацдэмократы, ставячы перад сабой галоўнай задачай адбудаваць пры дапамозе польскага фашызму сваю, так званую „незалежную беларускую дэмократычную рэспубліку“, выкарысталі поўнасьцю этнографічную навуку. Уся этнографічная продукцыя нацдэмократаў зьяўляецца палітычна варожай для дыктатуры

[1]) І. А. Сербаў. проф. „Гістарычна-даўні пэрыод Беларусі, „Савецкая Беларусь“ газ. № 5.

[2]) Там-сама, № 6.

[3]) Архіў БАН. Дадатак да протоколу аддзелу мовы і літаратуры, № 10 ад 20/I-1927 году.

пролетарыяту, шкоднай пры практычным правядзеньні культурнай рэволюцыі сярод працоўных розных нацыянальнасьцяй БССР, бо ў ёй затушоўваецца і скрыўляецца клясавая лінія. Нацдэмократы ў сваіх працах „вывучалі“ толькі гісторыю і культуру беларускай нацыянальнасьці ізолявана і без разгляду і вывучэньня ўзаемнага ўплыву культур розных нацыянальнасьцяй. Яны імкнуліся паказаць беларускую нацыянальнасьць як нешта аднароднае, бясклясавае цэлае. У пытаньнях паходжаньня беларускай (паводле тэрмінолёгіі нацдэмократаў „крыўскай“) нацыі і разьвіцьця яе культуры, нацдэмократы тэндэнцыйна скрыўляючы і падтасоўваючы факты гістарычных крыніц, пры дапамозе галаслоўных сьцьверджаньняў і самавольных тлумачэньняў гістарычных і этнографічных зьяў, пры дапамозе рэакцыйнай ідэалістычнай мэтодолёгіі, стваралі „навуковую“ базу для асоб зацікаўленых у пашырэньні контр-рэволюцыйнага беларускага нацыянал-дэмократызму як у БССР, так і па-за яе межамі.

У абставінах абвостранай клясавай барацьбы, такія „навуковыя“ тэорыі ў этнографіі з контр-рэволюцыйнымі мэтамі даводзіць наперакор усім фактам жыцьця „чыстую, самабытную беларускую культуру“, павінны спаткаць з боку марксыцкай навукі і з боку ўсёй грамадзкасьці самы бязьлітасны адпор і поўнае выкрыцьцё ўсёй контр-рэволюцыйнай сутнасьці і рэакцыйнай мэтодолёгіі нацдэмократаў.

Неадкладнымі задачамі павінны стаць задачы: дабіць клясавага ворага—нацдэмаў, ачысьціць ад іх усю Акадэмію Навук і катэдру этнографіі БАН, узмацніць навуковы фронт наогул і фронт этнографіі маладымі марксыцкімі кадрамі, павесьці рашучую барацьбу супроць ідэалістычнага мэтоду пры вывучэньні рэлігійных вераньняў, мовы, фольклёру, матар‘яльнай культуры і мастацтва, навучыць маладыя навуковыя кадры выстарчальна карыстацца дыялектычным марксыцка-ленінскім мэтодам вывучэньня і аналізу чалавечага грамадзтва.

Толькі пры дапамозе марксыцкага мэтоду з складаным сваім комплексным падыходам можна правільна клясыфікаваць, тлумачыць і зьвязваць этнографічныя зьявы ў адно непарыўнае цэлае.

Перад намі стаіць вялікая задача, па-новаму, з марксыцкім мэтодам падыйсьці да этнографічнага матар‘ялу і даць сапраўды навуковыя вывады, якія павінны быць адказам на тыя нацыянал-дэмократычныя, контр-рэволюцыйныя „тэорыі“, што пашыралі антысэмітызм, беларускі нацыянал-дэмократызм і цесна перапляталіся з галоўнай небясьпекай у даны момант—вялікадзяржаўным шовінізмам, пашыралі рэлігійныя і розныя рэакцыйныя старыя забабоны. Усе гэтыя нацдэмаўскія „тэорыі“ былі накіраваны супроць дыктатуры пролетарыяту, усе яны спрыялі ворагам соцыялістычнага будаўніцтва.

Этнографія Савецкай Беларусі ў руках марксыцкіх сіл павінна стацца зброяй у барацьбе з найгоршым ворагам соцыялістычнага будаўніцтва—рэлігіяй, клерыкалізмам і рознымі старымі забабонамі. Катэдра этнографіі БАН асноўнай сваёй задачай павінна паставіць—гэта навукова-дасьледчыя працы ў сэнсе вывучэньня мэтодаў антырэлігійнасьці ў БССР, вывучэньня карэньняў рэлігіі і яе клясавай сутнасьці, увязваючы сваю навуковую працу з практычным правядзеньнем антырэлігійнай працы. Гэтым самым этнографія, якая была дагэтуль у руках нацдэмократаў зброяй у барацьбе супроць дыктатуры пролетарыяту, павінна стацца ў руках марксыстых дапаможнікам нашага пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва.

Б. Л.

# Супроць буржуазнай мэтодолёгіі ў вывучэньні гісторыі Беларусі.

Няшчадна выкрываючы варожы контр-рэволюцыйны нацдэмократызм, які зьвіў сабе гняздо ў культурным будаўніцтве БССР, нельга прайсьці і міма іншых буржуазных плыняў і тэорый, якія раздаваліся з катэдраў пролетарскіх ВНУ і якія так ці інакш папалі на старонкі пролетарскага друку. Я маю на ўвазе гісторыю Беларусі „часоў“ профэсароў Пічэты і Дружчыца (апошні яшчэ, напэўне, і зараз працуе ў БДУ і калечыць сваёй буржуазнай мэтодолёгіяй пролетарскую моладзь). Перада мной ляжыць часопіс „Працы БДУ“ № 6-7 за 1925 г., дзе проф. Дружчыц зьмясьціў свой „славуты“ артыкул пад загалоўкам: „Палажэньне Літоўска-Беларускай Дзяржавы пасьля Люблінскай вуніі“. У гэтым артыкуле проф. Пічэта ўбачыў нешта надзвычай вялікае—пераварот у вывучэньні гісторыі Беларусі. Вядома, нас цікавіць зараз не пахвальнае слова Пічэты. Нас цікавіць, як проф. Дружчыц расцэньвае падзеі да Люблінскай і пасьля Люблінскай вуніі і з якой мэтодолёгіяй падыходзіць да разгляду важнейшага гістарычнага моманту ў жыцьці Літоўскага княства. Аўтар ужо з першых радкоў свайго артыкулу робіць „вучоную“ ацэнку акту Люблінскай вуніі. Па яго гэта: „хутчэй вымушаная згода праціўніка, які здаўся на ласку пераможцы“ [1]). Бо, бачыце, „з аднаго боку існаваньню вялікага княжаства Літоўскага пагражала Маскоўшчына... з другога боку Польшча анэксавала Палесьсе і Украіну, грунтуючыся на фікцыйных падставах, што гэтыя землі спакон вякоў належалі да Польшчы“ [2]). Да гэтага шляхта польская чамусьці мела апэтыты на ВКЛітоўскае і ў прыватнасьці на Украіну. „Свае апэтыты, кажа далей проф. Дружчыц, яна здаволіла, далучыўшы абшары Украіны“ [3]). Адсюль, пасьля здавальненьня шляхецкіх апэтытаў Польшчы з далучэньнем Украіны „злучэньне сэрца—цэнтру ВКЛітоўскага (тэрыторыі Беларусі—заўвагі аўт.) пашло больш нормальна“ [4]). Стала быць, па Дружчыцу, Люблінская вунія 1569 г. адбылася дзякуючы, з аднаго боку, пагрозе Маскоўшчыны ВКЛітоўскаму, з другога боку—дзякуючы апэтыту польскай шляхты да ВКЛітоўскага.

Даўшы ў пачатку артыкулу гэткі „вучоны“ аналіз мотываў, якія прывялі абедзьве дзяржавы да Люблінскай вуніі, Дружчыц пераходзіць да разгляду поглядаў паасобных гісторыкаў на Люблінскую

---

[1]) Працы БДУ № 6-7 1925, арт. Дружчыца.

[2]) Тамжа.

[3]) Тамжа.

[4]) Тамжа.

вунію і на яе вынікі. Пасьля чаго, як-бы ў абгрунтаваньне свайго погляду на Люблінскую вунію і на яе вынікі Дружчыц затрымліваецца падрабязна на аналізе акту вуніі; на разборы статуту трэцяй рэдакцыі 1588 г.; на разборы Вялікага Вальнага сойму; і ўрэшце прыходзіць да такога вываду: „палітычнага адзінства, нават фармальнага, у Рэчы Паспалітай (Вялікае Княжаства Літоўскае плюс Польшча), як відавочна, не існавала. Усе элемэнты дуалізму на фэдэрацыйных асновах выразна выяўлены на пабудове Рэчы Паспалітай“ [1]). Мы ня будзем тут затрымлівацца на самым вывадзе адносна Люблінскай вуніі, зробленым Дружчыцам, ня будзем затрымлівацца на правільнасьці гэтага вываду, так сказаць, на юрыдычным баку гэтага вываду: ці там быў дуалізм на фэдэрацыйных асновах, ці там была чыстая фэдэрацыя дзяржаў і г. д. Нас цікавіць самы падыход да справы: ацэнка гістарычнага факту і гістарычных падзей. Нас цікавіць, у прыватнасьці, які падыход робіць проф. Дружчыц і як ацэньвае падзеі до і пасьля Люблінскай вуніі. Кожнаму з нас вядома неабвержнаяісьціна Карла Маркса (Дружчыц, як гісторык, яе павінен быў ведаць), што: „история всего предшествующего общества есть история борьбы классов“ [2]). Адсюль, Люблінскую вунію трэба разглядаць не як „ласку парамо́жцы“, не як „вынік апэтытаў Польскай шляхты“, не як імкненьні палякаў „заўладаць землямі ВКЛітоўскага, якія спакон вякоў належаць да Польшчы, не як „эгоізм палякоў да Літвы, які актам анэксый Падлесься і Украіны высьветліла Люблінская вунія“ [3]), а як продукт клясавай барацьбы і продукт клясавых інтарэсаў і супярэчнасьцяй.

Каб было ясьней, інтарэсы якіх клясаў іменна адбіваліся на Люблінскім сойме, затрымаемся кароценька на экономічным і соцыяльным аглядзе Польшчы і ВКЛітоўскага напярэдадні Люблінскай вуніі.

У Польшчы ў першай палове XVI стагодзьдзя фэўдальныя адносіны аджывалі свой век, і ўжо к канцу першай паловы гэтага стагодзьдзя гандлёвы капітал меў яўную перамогу над фэўдалізмам. Далей, у гэты час у Польшчы адбываюцца значныя экономічныя і соцыяльныя падзеі. Іменна шляхта ў пагоні за прыбыткам, у барацьбе за экономічную незалежнасьць ад магнацтва і гарадзкіх мяшчан-купцоў пачынае сыстэматычна займацца гандлем. Пачынае свае сельска-гаспадарчыя продукты (збожжа, лес, жывёлу, пушніну і г. д.) збываць на ўнутраны і замежны рынак не праз пасрэднікаў-купцоў, а сама, для чаго сыстэматычна перакачоўвае з сваіх уладаньняў у гарады. Вядома, што ў сваіх маёнтках для кіраўніцтва сваёй гаспадаркай шляхта пакідала намесьнікаў. З ростам гандлю, з ростам таваразвароту павялічылася і патрэбнасьць у большай продукцыйнасьці маёнткаў і фольваркаў, пакінутых пад нагляд і гаспадараньне намесьнікаў. Вядома, што гэты апэтыт на большую прыбытковасьць, на большую здабычу сельска-гаспадарчых продуктаў для рынкаў цалкам лёг на плечы працоўнага сялянства. Апошняе ў гэты час цяжка стагнала пад шляхецкім ботам, стараючыся хоць бегствам з шляхецкай зямлі ў іншыя вольныя мясцовасьці палегчыць сваё палажэньне. Але ўрэшце, у 1533 г. шляхта дамаглася канчатковага закабаленьня селяніна, якога прывязала да зямлі; і польскі селянін становіцца па тагочаснай тэрмінолёгіі „халопам“, нявольнікам. Такім чынам, шляхта мела об'ект, з якога можна было па-

[1]) Працы БДУ № 6-7, арт. Дружчыца.
[2]) Комманіфэст.
[3]) Працы БДУ № 6-7, арт. Дружчыца.

цягнуць продукт на міжнародны рынак,—і об'ект, можна сказаць, пэўны, бо ён быў нявольны, ім шляхта распараджалася цалкам. Адсюль становіцца ясным, чаму Польшча ў XVI стагодзьдзі была аднэй з першых краін, якія пастаўлялі на эўропейскі рынак сырэц (лес, мех, воск, мёд і г. д.), а таксама хлеб і жывёлу. Гандаль свой Польшча вяла пераважна па рацэ Вісьле, яе прытоках і на Балтыцкім моры. З ростам гандлёвых зваротаў шлях па Вісьле станавіўся недастатковым. Да гэтага трэба дадаць, што гандаль праз Віслу і Балтыцкае мора з дзяржавамі сяродземнаморскімі, як Гішпанія і Італія, затрудняўся значнай адлегласьцю. Зразумела, што Польшчы патрэбны сталі іншыя гандлёвыя шляхі, бліжэйшыя і выгаднейшыя. Гэтымі шляхамі былі Днестар праз Чорнае мора і Дняпро з сваімі прытокамі. Патрэбна было толькі зрабіць іх дзяржаўнай уласнасьцю Польшчы. Да гэтага яшчэ багацьце ВКЛітоўскага, як мех, лес, воск і г. д., якое дорага расцэньвалася на эўропейскім рынку пацягнула апэтыты шляхты Польшчы да княства. Гэтыя прычыны ляглі ў аснову імкненьняў польскай шляхты: да анэксыі Падлясься і Украіны і далучэньня ВКЛітоўскага да Польшчы шляхам вуніі.

У ВКЛітоўскім у гэты час фэўдалізм быў у поўным росквіце. Гаспадарамі становішча былі феўдалы-магнаты. Вось чаму феўдалы ВКЛітоўскага і слухаць не хацелі аб вуніі з Польшчай, і польская шляхта са сваімі інтарэсамі ўпёрлася ў сьцяну інтарэсаў фэўдалаў ВКЛітоўскага. Вось чаму самы ход Люблінскай вуніі быў незамірнай клясавай барацьбой гандлёвага капіталу і фэўдалізму. Проф. Дружчыц ня ведае ці, хутчэй не жадае ведаць, сутнасьці клясавай барацьбы ў гэтых дзяржавах. Аўтар, як і іншыя буржуазныя дасьледчыкі гісторыі Беларусі—Пічэта, Каяловіч, Любаўскі і іншыя, ацэньвае па-буржуазнаму падзеі Люблінскай і пасьля Люблінскай вуніі, як вынік эгоізму і жаднасьці палякаў.

Па Дружчыцу анэксія Падлесься і Украіны адбылася не таму, што польскі гандлёвы капітал шукаў новых гандлёвых шляхоў, доступу да Чорнага мора; не таму, што праз Падлесьсе працякаюць добрыя гандлёва-водныя шляхі, як прытокі Дняпра, а праз Украіну Дняпро, Днестар, а таму што моў, палякі мелі „эгоізм“ у адносінах да Літвы, і таму, што гэтыя землі спакон вякоў належалі да Польшчы. Гэтымі „вучонымі“ архаічнымі буржуазнымі тэорыямі проф. Пічэта і проф. Дружчыц на працягу некалькіх год кармілі нашу пролетарскую моладзь. Гэтыя-ж тэорыі, па віне Дзяржвыдавецтва, папалі і на старонкі пролетарскага друку. Гэта—паміж іншым, а зараз далей. Ход самай вуніі і пасьля анэксыі Падлесься і Украіны не пайшоў „больш нормальна“, як гэта кажа Дружчыц. Сама вунія не магла праходзіць у нормальных умовах, бо на ёй быў стык інтарэсаў дзьвюх процілеглых клясаў. Яна была незамірнай клясавай барацьбой. Сапраўды, калі-б проф. Дружчыц хоць трохі быў знаёмы з марксыцка-ленінскай мэтодолёгіяй, калі-б сумленна прапрацаваў усе гістарычныя докумэнты аб Люблінскай вуніі, то нявольна павінен быў убачыць усё глупства буржуазных дасьледчыкаў і глупства сваіх буржуазных тэорый і поглядаў. Вывучаючы дзеньнік Люблінскага сойму, можна пераканацца, што сойм—гэта жорсткая барацьба шляхты з магнацтвам, фэўдаламі, барацьба нават ў дробных пытаньнях, напрыклад, з якога пытаньня распачаць сойм, аб месцах нарады і г. д., ужо не гаворачы аб важнейшых пытаньнях, якія абгаворваліся на сойме і барацьба каля якіх прымала вялізарныя размахі, як, напрыклад, дэмонстрацыйны ўход сойму, бай-

кот нарад і іншыя. Вельмі характэрна, што шляхта ВК Літоўскага заўсёды знаходзіла супольны язык з шляхтай Польшчы, і на Люблінскім сойме яны гаварылі аднэй мовай супроць сваёй клясы—фэўдалаў-магнатаў. Досыць толькі прасачыць па матар'ялах, як адбываўся самы процэс падпісаньня акту вуніі, як распачынаўся сойм, з якімі прамовамі выступалі на сойме і г. д. Наадварот, польская шляхта на Люблінскім сойме заўсёды была ў опозыцыі да свайго польскага магнацтва. Як прыклад, можна прывесьці адзін з выкрыкаў на сойме па адрасу паслоў шляхты: „Няхай-жа ўсё ўцьвярджаецца ў вашых галовах і ў вашай упартасьці. Досыць! Вы шэсьць год кіруеце справамі замест сэнату, горка нам ад вашага панаваньня і г. д." [1]). Далей нават сам аўтар констатуе, што: „польскія магнаты на сойме былі больш уступнымі да магнатаў ВКЛітоўскага" [2]). Але чаму гэта так? Проф. Дружчыц не дае адказу. Ён і ня можа даць яго, бо ён ня хоча зразумець, што клясавыя інтарэсы вышэй за ўсё, і польскае магнацтва бачыла, што з Люблінскай вуніяй клясавы вораг (шляхта) яшчэ больш узмацніцца, атрымаўшы гандлёвыя шляхі і саюз з шляхтай ВКЛітоўскага. Урэшце, вывад з свайго артыкулу проф. Дружчыц робіць такі. Раз пасьля вуніі ВКЛітоўскае мела сваё войска, урад, мову, законы (статут 3-яй рэдакцыі), тэрыторыю, значыць княства існавала незалежна і пасьля вуніі, значыць вунія была праведзена формальна. Мы ня будзем тут спрачацца аб формальнасьці праведзенай вуніі. Нас цікавіць другое; нас цікавіць, чаму гэта здарылася, што ВКЛітоўскае пасьля вуніі мела свой закон, урад, мову і г. д. Проф. Дружчыц зноў на гэта адказу не дае. Буржуазны гісторык на гэта адказу даць ня можа. Не зразумеўшы клясавай сутнасьці гісторыі, не зразумеўшы, што акт Люблінскай вуніі—вынік суадносін клясавых сіл—сам па сабе ня можа вырашыць клясавай барацьбы, ня можа ўсунуць клясавых супярэчнасьцяй; ня можа зразумець і вытлумачыць далейшага становішча ВКЛітоўскага пасьля вуніі. А вось калі-б проф. Дружчыц зразумеў, што фэўдалізм у княстве пасьля вуніі заставаўся некаторы час яшчэ моцным і што барацьба паміж гандлёвым капіталам і фэўдалізмам працягвалася яшчэ з большай жорсткасьцю, стане ясным, чаму ў ВКЛітоўскага было сваё войска, свой урад, свой закон, свая мова і тэрыторыя. Бо толькі марксыцка-ленінскае разуменьне разьвіцьця гісторыі можа праўдзіва вырашыць усе гістарычныя падзеі, якія адбываліся ў сусьветнай гісторыі, і ў прыватнасьці ў гісторыі ВКЛітоўскага. Адсюль наша неадкладная задача: выкрываючы контррэволюцыйныя нацдэмаўскія плыні ў навуцы БССР, мы павінны неаслабна праводзіць рашучую барацьбу з усякімі буржуазнымі плынямі і з буржуазнай мэтодолёгіяй ува ўсіх галінах пролетарскай навукі, у прыватнасьці гісторыі Беларусі. Мы павінны пераглядзець усю навуковую продукцыю па гісторыі Беларусі, таксама мэтодолёгію выкладаньня гісторыі Беларусі ў нашых пролетарскіх навучальных установах. Мы павінны ўскрыць усю буржуазную гніль у вывучэньні гісторыі з тым, каб гісторыя Беларусі мела моцную марксыцка-ленінскую мэтодолёгію, каб туды нават не пасьмела пралезьці ніякая буржуазная плынь.

---

[1]) Дняўнік Люблінск. Сойму.
[2]) Працы БДУ № 6-7 1925 г., арт. Дружчыца.

**В. С.**

# Колгас Пабядзіцель.

*(Капланецкі с/с., Бярэзінскага раёну).*

У 10 клм на паўднёвы ўсход ад м. Бярэзынь і ў 6 клм на паўдн.-паўдн. захад ад м. Пагост расьце і разьвіваецца адзін з асяродкаў пролетарскай культуры—колгас Пабядзіцель. Колгас яшчэ малады, організаваўся толькі ў студзені месяцы 1930 году, але ён мае ўжо пэўныя дасягненьні і належную матар'яльную базу, каб шпаркімі крокамі разьвівацца далей і стаць прыкладам для ваколічных вёсак, як трэба і як можна будаваць буйную колектыўную гаспадарку.

Цэнтар колгасу знаходзіцца ў былым маёнтку (памешчыка-генэрала Сахарава) на левым высокім і прыгожым беразе рэчкі *Клевы*, якая ўцякае ў р. Бярозу з левай яе стараны (10 клм ніжэй м. Бярэзынь). Па правым беразе ўдоўж ракі раней цягнулася на 2,5 клм вёска Капланцы. У 1909 г. пад напорам кулакоў і заможнай серадняцкай часткі вёска расьсялілася на хутары. На вялікай прасторы па абодвух берагох ракі Клевы раскінуліся сталыпінскія хутары. Але хутарская сыстэма аказалася выгоднай толькі для кулацкіх гаспадарак, якія яшчэ больш, чым раней, сталі эксплёатаваць беднату. Да часоў Кастрычнікавай рэволюцыі адбывалася бязупынная дыфэрэнцыяцыя вёскі: павялічваўся лік кулацкіх гаспадарак, значная частка серадняцкіх гаспадарак з прычыны цяжару падаткаў, памешчыцкай і кулацкай эксплёатацыі пераходзіла ў разрад бядняцкіх, павялічваўся лік батракоў. Пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі становішча рэзка зьмянілася. Уся памешчыцкая і значная частка кулацкіх гаспадарак перайшлі ў карыстаньне бяднейшай часткі насельніцтва.

Савецкая ўлада дапамагала бядняцкім ды серадняцкім гаспадаркам узмацніцца, але беднякі і серадняки адчувалі, што дробныя індывідуальныя гаспадаркі паставіць на належную вышыню нельга, што яны ніколі ня могуць стаць прыбыткоўнымі таварнымі гаспадаркамі. Вось чаму палітыка партыі, накіраваная на аб'яднаньне дробных сялянскіх гаспадарак у колгасы, знайшла поўнае сваё падтрыманьне з боку беднякоў і серадняков капланецкіх хутароў. Па прапанове рабочай брыгады больш паловы бядняцка-серадняцкіх гаспадарак (107 з 205 гаспадарак) у студзені месяцы 1930 г. запісалася ў колгас. У штыхі сустрэлі кулакі такую пастанову. Пушчаны былі ў ход агітацыя, подкупы, пагрозы супроць колгасу, але і гэта мала дапамагло. Моцнае бядняцка-серадняцкае ядро ў 70 двароў вясной дружна і бадзёра пачало працу ў полі. Прапалі ўсе кулацкія надзеі на развал колгасу. Беднякі і серадняки капланецкіх хутароў пачалі з посьпехам будаваць колектыўную гаспадарку.

На 15/XI ў колгасе было 70 гаспадарак, з іх: батрацкіх—8, бядняцкіх—18 і серадняцкіх 44 гаспадаркі.

Зямельная плошча колгасу—1000 *га*. Гэта агульная плошча разьмяркоўваецца наступным чынам: ворнай зямлі—каля 700 *га*, пад сенажацямі — 200 *га*, пад сядзібамі, садамі і гародамі — каля 80 *га*, інш. 20 *га*.

Колгас спачатку ўзяўбыло насеннаводны ўхіл, але цяпер, паводле цьвёрдага заданьня райколгассаюзу, ён (колгас) будзе спэцыялізавацца ў галіне сьвінагадоўлі.

У часе веснавой пасеўнай кампаніі, якая была праведзена досыць дружна, у колгасе было засеяна: аўсу—133 *га*, пшаніцы яравой—2,5 *га*, ячменю—9 *га*, грэчкі—27 *га*, лубіну—30 *га*, лёну—10 *га*, бульбы—20 *га*, гароху — 20 *га*. Валавая продукцыя палявых культур вылічана ў 35.064 руб., а ўся продукцыя—у суме 39.672 руб. (орыентовачна); у сярэднім на 1 гаспадарку—566 р. 68 к.

Гэта сума (валавая продукцыя) разьмяркована наступным чынам:

| | |
|---|---|
| на выдаткі па гаспадарцы 1931 г. . . | 1983 руб. |
| „ насенны фонд 1931 г. . . . . . | 5346 „ |
| „ фуражны „ „ „ . . . . . | 10.656 „ |
| страхоўка і падатак . . . . . . . | 1464 „ |
| культфонд . . . . . . . . . . . | 1000 „ |
| розныя выдаткі па гаспадарцы (1930 г.). | 3173 „ |
| Разам . . | 23.612 руб. |

Чысты прыбытак гаспадарка колгасу (толькі па яравому кліну) дала на суму 16060 руб. (на 1 гаспадарку ў сярэднім 229 р. 43 к.), ня ўлічваючы, зразумела, прыбыткаў ад неабагуленай яшчэ часткі гаспадарак і досыць значных заробкаў на старане.

Азімых пасеваў на 1931 г. засеяна: жыта 170 *га*, пшаніцы 8 *га*.

Колгас мае 18 агульных жылых будынкаў і розных хлявоў і халодных будынкаў—276, хаця трэба адзначыць, што будынкі гэтыя вельмі раскіданы і малых разьмераў. Нядаўна пабудаваны новы і прасторны сьвінарнік і прыстасоўваецца шэраг розных дробных будынкаў для больш рацыянальнага іх скарыстаньня ў колгасе (хлявы для кароў, коняй, цялят і інш.). Разгортваньне будаўніцтва, адпаведнага запатрабаваньням буйнае колектыўнае гаспадаркі, зьяўляецца аднэй з чарговых і неадкладных задач колгасу. Пры вырашэньні гэтага вельмі важнага пытаньня ў колгасе неабходна ўлічыць усе магчымасьці перабудовы дробных будынкаў у буйныя, што ў значнай меры паменшыць выдаткі на будаўніцтва і дасьць магчымасьць вырашыць пытаньне будаўніцтва больш хутка, а ад гэтага залежыць рост і разьвіцьцё гаспадаркі.

У колгасе ў сучасны момант маецца наступны с.-г. інвэнтар:

| | | | |
|---|---|---|---|
| саламарэзак . . . . . | 6 | веялак . . . . . . . . | 7 |
| сеялак . . . . . . . | 1 | барон дыскавых . . . | 1 |
| сартыровак . . . . . | 1 | „ „Зіг-заг“ . . . . | 8 |
| жняярак конных . . . | 3 | плугоў параконных . . | 32 |
| малатарань . . . . . | 5 | барон звычайных . . . | 42 |

Як відаць з паданай табліцы, колгас у значнай меры ўжо забясьпечаны простымі с.-г. машынамі, колькасьць якіх па пляну колгасу

павялічыцца ўжо ў гэтым годзе. Колгас ужо ставіць перад сабой пытаньне аб хутчэйшым набыцьці трактару.

Транспортнымі сродкамі (гужавой цягі) колгас забясьпечан у дастатковай меры.

Колгас мае досыць вялікую колькасьць абагуленай жывёлы:

| | | | |
|---|---|---|---|
| коняй рабочых . . . . | 71 | сьвіней звыш 1 г. . . | 39 |
| жарабят . . . . . . | 30 | подсьвінкаў . . . . . | 27 |
| кароў . . . . . . . | 33 | парасят . . . . . . | 14 |
| нецеляў . . . . . . | 30 | авечак . . . . . . . | 85 |
| цялят . . . . . . . | 24 | | |

Жывёла звычайнай мясцовай пароды ў значнай меры з раскулачаных кулацкіх гаспадарак, якіх у гэтым раёне было досыць многа. З прычыны адсутнасьці абсталяваных хлявоў і раскіданасьці гаспадарак, увайшоўшых у колгас, значная частка кароў (больш 20) колгасьнікаў яшчэ не абагулена, хаця ў некаторых колгасьнікаў ёсьць яшчэ па 2-3 каровы.

Утрыманьне жывёлы пакуль што яшчэ не на належнай вышыні: сьвіньні і асабліва авечкі ўвосень стаялі ў гразі, цяляты цесна былі зьбіты ў загарадкі. Корм (салома, сена) каровам кідаўся проста пад ногі, у той час калі ёсьць небясьпека, што кармоў для кароў да вясны можа і не хапіць. На адзначаныя вышэй недахопы сваечасова была зьвернута належная ўвага і яны, трэба спадзявацца, ужо зьліквідаваны. Але ў колгасе ёсьць і пэўныя дасягненьні: сьвіньні ў большасьці трымаюцца ў асобных спэцыяльных адгародках, маюць асобныя высоўныя карытцы, кормяцца лепш чым у індывідуальных гаспадарках. Зразумела, што гэта толькі першыя крокі ў справе рацыянальнага вядзеньня буйнае гаспадаркі. У колгасе ўжо намячаецца цэлы шэраг мерапрыемстваў для палепшаньня жывёлагадоўлі: пабудова, абсталяваньне і ўцяпленьне хлявоў, палепшаньне дагляду за жывёлай, больш рацыянальнае скарыстоўваньне кармоў, перагляд укомплектаваньня статку колгасу ў мэтах адбору больш продукцыйнае жывёлы і г. д. Некаторыя з гэтых мерапрыемстваў будуць праведзены ў жыцьцё ў самым хуткім часе.

Трэба адзначыць, што колгасьнікі патрабуюць значна большай практычнай дапамогі з боку агронома, які, паводле слоў працаўнікоў колгасу і сельсавету, усё-ж рэдка бывае ў колгасе.

У 1930 г. колгас атрымаў 8255 руб. крэдыту і доўгатэрміновае пазыкі—5750 руб. Крэдыты скарыстаны і скарыстоўваюцца наступным чынам:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| на насенны матар'ял . . . | 5183 р. | 73 к. | батрацкі фонд . . | 100 р. | „ |
| на с.-г. машыны | 936 „ | „ | зваротны „ . . | 500 „ | „ |
| „ с.-г. інвэнтар | 979 „ | „ | на набыцьцё і рамонт збруі . . . . . . | 1195 „ | „ |
| „ штучнае ўгнаеньне . . | 400 „ | „ | на транспортны інвэнтар . . . . . | 850 „ | „ |
| на загатоўку сіласу . . . . | 600 „ | „ | на сэпаратар . . . | 250 „ | „ |
| | | | на рамонт млыну . | 3000 „ | „ |

Як відаць з прыведзеных лічбаў, найбольш вялікія сумы вызначаны на насеньне і рамонт млыну.

Рамонт млыну, напалову разбуранага прыватным арандатарам і пераданага ў такім становішчы колгасу, вымагае затраты вялікіх

сродкаў і вялікай колькасьці рабочай сілы, што ў значнай меры адбіваецца на вядзеньні іншых галін гаспадаркі—паляводзтва і жывёлагадоўлі, у якія можна было-б улажыць большыя сродкі. Але заканчэньне рамонту і абсталяваньня млыну для колгасу мае вялікае значэньне ў сэнсе задавальненьня сваіх патрэб на апрацоўку зярна і ў сэнсе набыцьця колгасам невялікага прамысловага прадпрыемства, якое можа даваць і некаторы прыбытак гаспадарцы. Цяпер, пасьля заканчэньня асноўных палявых работ, значная частка рабочых рук у колгасе занята працай па рамонту млыну.

У сэнсе організацыі працы ўсе колгасьнікі былі падзелены на 4 брыгады. Склад брыгад залежаў ад тэрыторыяльнага распалажэньня двароў колгасьнікаў (група тэрыторыяльна блізкіх двароў уваходзіла ў адну брыгаду). Усе асноўныя віды работ былі падзелены на паасобныя опэрацыі, якія патрабавалі пэўнай кваліфікацыі і фізычнай сілы колгасьнікаў. Напр., *жніво*, як складаны від працы, падзялялася на такія опэрацыі: жніво жняяркай, жніво сярпом і вязаньне снапоў, вязаньне снапоў з-пад жняяркі, накладаньне вазоў снапамі, возка снапоў і інш. Для аплаты працы колгасьнікаў у залежнасьці ад выконваемых імі опэрацый была ўстаноўлена пяціразрадная тарыфная сетка з суадносінамі I : II : III : IV : V=1 : 1, 4 : 1, 8 : 2, 2 : 2,5.

Да I разраду былі аднесены: падлеткі, баранавальнікі, прыбіральшчыцы памяшканьняў, падпаскі, перапісчыкі.

Да II разр.: стопнік, судамойкі, даяркі, возчыкі, падавальнікі, ношчыкі і складальнікі снапоў і саломы.

Да III разр.: начныя вартаўнікі, канюхі, складальнікі сена ў копы, возчыкі цяжараў, сіласавальнікі, жнеі (сярпом) і інш.

Да IV разр.: шаўцы, краўцы, рымары, сяўцы, малатарнікі, стальмахі, старшы сьвінар, сакратар, скарбнік;

Да V разр.: старшы кравец, рахункавод, загадчык колгасу.

Для кожнай з паасобных опэрацый вызначана была і норма выпрацоўкі. Ніжэй мы падаем табліцу нормы выпрацоўкі па асобных опэрацыях працы і аплаты гэтае працы:

| Назва опэрацыі працы | Норма выпрацоўкі ў 8 гадз. | Разрад па тарыфн. сетцы | Аплата | Увага |
|---|---|---|---|---|
| Ворыва двухлямешным плугам . . . . | 0,4 *га* | IV | 2 р. 20 к. | 1. Некоторыя работы аплачваліся зьдзельна, напр.: |
| Ворыва аднaлямешным плугам . . . . | 0,25 *га* | IV | 2 р. 20 к. | Зрабіць раму ў барану . . 1 р. 50 к. |
| Жніво сярпом з вязаньнем снапоў . . . | — | III | 1 р. 80 к. | Зрабіць новую драбіну . . 5 р. — к. |
| Вязаньне снапоў з-пад жяркі . . . | 0,3 *га* | III | 1 р. 80 к. | Зрабіць цэбар 1 р. 25 к. і г. д. |
| Касьба канюшыны . . | 0,2 *га* | II | 1 р. 40 к. | |
| „ сенажаці . . | 0,25 *га* | IV | 2 р. 20 к. | 2. Трэба лічыць няправільным вылічэньне аплаты ў руб., а не ў працаднёх. |
| Даеньне кароў. . . | 2 разы ў дзень па 10—12 кароў | II | 1 р. 40 к. | |
| Капаньне гною. . . | 18 вазоў | па 10 кап. | за воз. | |

Зразумела, што прыведзеныя вышэй нормы выпрацоўкі не зьяўляюцца ўжо канчаткова ўстаноўленымі ў колгасе. Яны былі толькі першай спробай нормаваньня працы і ў процэсе далейшай працы і практыкі яны будуць пераглядацца і выпраўляцца, прычым будзе ўлічаны вопыт як свайго колгасу, так і лепшых колгасаў БССР і СССР. Само сабой зразумела, што ўстаноўленая цьвёрдая норма аплаты працы ў колгасе павінна адпасьці ў далейшым, бо разьмер аплаты працы ў колгасах павінен залежаць ад велічыні агульнага прыбытку ў кожным паасобным колгасе, які (прыбытак) у сваю чаргу залежыць ад організацыі і якасьці працы колгасьнікаў.

Устанаўленьне норм выпрацоўкі з самага амаль пачатку організацыі колектыўнае працы мела вялікае значэньне ў сэнсе забясьпечаньня дысцыпліны працы і пэўнай яе продукцыйнасьці, чаго нельга сказаць адносна іншых колгасаў, дзе з гэтае прычыны была слабая працоўная дысцыпліна і больш нізкая продукцыйнасьць працы.

Досыць стала організаваная праца ў колгасе дала зусім здавальняючыя вынікі пры падліку і разьмеркаваньні ўраджаю.

Прывядзем два прыклады атрыманага прыбытку паасобнымі гаспадаркамі (паводле справаздачы старшыні колгасу):

Батрак К р ы в е ц І в а н з сям'ёй у 3 чал., з якіх 2 працаздольных, атрымаў: 2,1 тоны бульбы, 11,5 цэнтнэраў аўсу, 5 цэнтн. грэчкі, 0,83 цэнтн. ячменю, 1 тону сена, 1,58 тоны саломы і 170 руб. грашмі.

Серадняк П а д д у б с к і Ц і х а н на 10 чал. сям'і пры 5 працаздольных атрымаў: 3,33 тоны бульбы, 15 цэнтнэраў аўса, 7,17 цэнт. грэчкі, 1,17 цэнт. ячменю, 1,37 тоны сена, 2 тоны саломы і 238 руб. грашмі. (Ураджай ад азімых ня ўлічваўся, паколькі азімыя пасевы рабіліся колгасьнікамі да аб'яднаньня ў колгас). Калі нават ня лічыць таго, што плошча засеву ў колгасе на кожную гаспадарку павялічылася за кошт распашак і раскулачаных гаспадарак, дык і то прыбытак колгасьнікаў аказаўся значна большым, чым ён быў у мінулыя гады і вышэйшым, чым у аднаасобнікаў, якія яшчэ ў колгас не ўвайшлі.

Досыць сталая організацыя працы ў колгасе і дасягнутыя посьпехі ў гаспадарцы, выяўленыя ў часе падліку і разьмеркаваньня ўраджаю, зрабілі прыметны пералом у адносінах да колгасу і колгасьнікаў у тых аднаасобнікаў, якія раней недаверліва адносіліся да колгасу, адмаўляліся ад усякай дапамогі колгасьнікам і нават выступалі супроць колектыўнае гаспадаркі. Цяпер, пасьля справаздачы колгасу аб выніках гаспадарчага году і непасрэднага пераконаньня ў выгодзе колектыўнае працы, бядняцкія і серадняцкія гаспадаркі пачалі ўжо падаваць заявы аб прыняцьці іх у колгас. За кастрычнік месяц падана ўжо 7 заяў. Бязумоўна, лік гэты значна павялічыцца ў бліжэйшыя месяцы.

Найбольш „вузкім" месцам у гаспадарцы колгасу зьяўляецца адбор і набыцьцё продукцыйнае жывёлы, абсталяваньне і пабудова новых будынкаў (хлявоў) для жывёлы і забясьпечаньне яе кармамі належнай якасьці. Вырашэньне кармавой базы — зьяўляецца аднэй з неадкладных задач колгасу. Павялічэньне засеву кармовых траў і караньплодаў, сіласаваньне корму—асноўныя шляхі для падвядзеньня моцнай кармовай базы пад жывёлаводную гаспадарку колгасу. Колгас адчувае патрэбу і ў с.-г. машынах.

У колгасе ёсьць аднакомплектавая школа, працуе лікпункт (організуецца другі). Палітычнае выхаваньне і палітасьветная праца наогул у колгасе яшчэ належным чынам не разгорнуты. На гэты бок працы ў колгасе трэба зьвярнуць вялікую ўвагу. Шляхам організацыі попу-

лярных дакладаў, правядзеньня гутарак на гаспадарча-політычныя тэмы, праз організацыю спэцыяльных політычных гурткоў і гурткоў па самаадукацыі, праз лікпункты і школы для малапісьменных трэба павялічыць політычную сьвядомасьць колгасьнікаў і выклікаць імкненьне да набыцьця агульных і спэцыяльных ведаў у сельскай гаспадарцы.

У колгасе расьце ўжо партыйная і комсамольская праслойка: ёсьць 3 партыйцы і 3 комсамольцы. Цяга ў комсамол сярод моладзі расьце і павялічваецца. Колгасьнікі адчуваюць і разумеюць вялікую ролю партыі ў соцыялістычным будаўніцтве і ў організацыі новага жыцьця і ідуць насустрач усім яе мерапрыемствам, бліжэй згуртоўваюцца навокал партыйнае організацыі ў барацьбе з кулацтвам і іншымі ворагамі соцыялістычнага будаўніцтва. Колгасьнікі ўжо зьяўляюцца моцнай апорай партыі і савецкай улады на вёсцы.

Першы цяжкі організацыйны момант у жыцьці колгасу ўжо перажыты. Колгас мае ўжо пэўную матар'яльную базу для свайго далейшага разьвіцьця. Вынікі першага няпоўнага году колектыўнага вядзеньня гаспадаркі ўпэўнілі як саміх колгасьнікаў, так і неўвайшоўшых яшчэ ў колгас беднякоў і серадня коў у тым, што шлях колгаснага будаўніцтва, вызначаны комуністычнай партыяй, зьяўляецца адзіным правільным шляхам разьвіцьця нашай сельскай гаспадаркі.

На сваім уласным цяжкім вопыце бедня кі і серадня кі былой вёскі Капланцы пераканаліся, што не сталыпінскія і прышчэпаўскія хутары, а буйныя колектыўныя гаспадаркі зьяўляюцца сапраўдным шляхам палепшаньня становішча бядняцкіх і серадняцкіх мас вёскі.

---

В. Ф. Купрэвіч.

# Шкодныя, атрутныя і страўныя грыбы, адшуканыя ў Смалявіцкім раёне.

Грыбы, сьпіс якіх падаецца ніжэй, знойдзены мной улетку 1930 г. ў розных месцах Смалявіцкага раёну (пераважна ў Смалявіцкім і Жажэлкаўскім сельсаветах). У сьпісе прыводзяцца толькі найбольш пашыраныя віды, якія маюць тое ці іншае гаспадарчае значэньне [1]. У мэтах практычнага скарыстаньня сьпісу—у ім падаюцца кароткія даныя аб гаспадарчым значэньні і выкарыстаньні паасобных відаў, а ў некаторых выпадках і спосабы змаганьня з найбольш шкоднымі іх прадстаўнікамі.

Пры ўсім жаданьні даць у сьпісе толькі мясцовыя назвы грыбоў (побач з навуковымі)—зрабіць гэтага не ўдалося, бо далёка не заўсёды маюцца такія назвы. У некаторых выпадках (у адносінах шкодных грыбоў) пасьля навуковай назвы грыба даецца назва хваробы, якую выклікае грыб. Можа гэта будзе і ня зусім правільна, але, думаю, больш зразумела для масавага чытача.

Назвы падклясаў, парадкаў, а часамі—сямействаў, да якіх належаць тыя ці іншыя грыбы, паказаны не заўсёды, што выклікана меркаваньнямі эканоміі месца, а таксама—непатрэбнасьцю гэтага (напр., прасьцейшыя грыбы).

### Сьлізіста-хітрыдыевыя грыбы.

1. Plasmodiophora brassicae Woron. Капусная кіла. Грыбок выклікае хваробу капусты, вядомую пад назвай „капусная кіла“. Апрача капусты, грыбок пашкоджвае рэпу, бручку і рад іншых расьлін сямейства крыжацьветных. Хвароба вельмі распаўсюджана ў раёне.

Спосабы змаганьня з хваробай зводзяцца, галоўным чынам, да профіляктычных сродкаў, як напрыклад: 1) дэзынфэкцыя глебы вапнай; 2) акуратнае выбіраньне расады, каб да здаровых экзэмпляраў не папала хворых; 3) штогодная перамена месца пасадкі капусты, 4) зьнішчэньне на гародзе ўсіх дзікіх крыжацьветных расьлін, якія часам зьяўляюцца рассаднікамі хваробы.

2. Olpidium brassicae Woron. Чорная ножка. Грыбок нападае на капусную расаду і іншыя маладыя расьлінкі сямейства крыжацьветных, у выніку чаго карнявая шыйка чарнее, і расьлінкі гінуць. Грыбок знойдзены (у канцы мая і пачатку чэрвеня) у расадніках саўгасу „Леніна“, дзе ім было пашкоджана да 80% расады.

[1] Поўнасьцю сьпіс грыбоў будзе надрукаваны ў зборніку „Матар'ялы да вывучэньня флёры і фауны Беларусі“, т. VI.

Сродкі змаганьня: 1) не дапушчаць вялікай вільгаці ў расадніках, 2) дэзынфэктаваць расаднікі (спальваньнем пасьцеленай туды саломы і інш.), 3) захварэўшыя расьлінкі карысна акучыць, дзякуючы чаму ў іх вырастаюць карэнчыкі вышэй за пашкоджанае месца.

**Прасьцейшыя грыбы.**

3. Phytophthora infestans De-Bary. Бульбяная гніль. Грыбок выклікае хваробу бульбы; пры гэтым спачатку зьяўляюцца жоўтыя плямкі на лістох бульбоўніку, потым хвароба перадаецца на сьцябло і бульбу.

Грыбок заўважан у вёсцы Кальнікі, 25/VIII.

Сродкі змаганьня: 1) Не садзіць хворай або пашкоджанай бульбы. Перад пасадкай прасушыць бульбу, а калі яна парэзана, дык правяліць на працягу 2-3 дзён. 2) Пры першых адзнаках хваробы—апырскаць бульбу бардоскай жыдкасьцю. 3) Перад капаньнем бульбы сабраць бульбоўнік; выбіраць для капаньня сухія дні. 4) Ссыпаць у скляпы і капцы сухую і здаровую бульбу. Сачыць, каб у скляпох тэмпэратура не падымалася вышэй $+5^0$.

4. Emgusa muscae Cohn. Паразытуе на хатніх мухах; знойдзены ля м-ка Смалявічы ў апошнія дні жніўня.

5. Mucor racemosus Fries. Водзіцца на скарынках хлеба ў вільготных мясцох; сустракаецца даволі часта і ўсюды.

**Вышэйшыя грыбы.**

6. Exoascus Cerasi Sadeb. Грыбніца гэтага грыбка пасяляецца ў гальлі вішань і чарэшань і выклікае хваробу, вядомую пад назвай „ведзьміна мятла“, або „раешня“. Хвароба зьнясіляе дрэва, што кепска адбіваецца на яго ўраджайнасьці; в. Кальнікі; ліпень.

У якасьці сродкаў змаганьня раіцца адразаць пашкоджаныя галінкі або ўсё дрэва і зьнішчаць іх.

7. Eu-Aspergillus glaucus Link. Плесьня галоўчатая. На рознастайных органічных матэрыях; усюды; ліпень.

8. Sphaeroteka Humili Burr. Грыб выклікае хваробу хмеля і іншых расьлін (зьяўляюцца белыя пляшкі на лістох). Знойдзен на розных расьлінах сямейства гераніевых; ур. Барсучына; ліпень.

9. Sphaeroteca Mors uvae Berk. Мучністая раса агрэсту. Грыбок нападае на лісьці, маладыя гучкі і ягады агрэсту; хвароба настолькі распаўсюджана ў раёне, што ёю зьнішчаецца кожны год увесь ураджай агрэсту.

Сродкаў змаганьня маецца шмат, як напрыклад,—апырскваньне жалезным купарвасам (рошчынай яго); абразаньне і зьнішчэньне захварэўшых частак; перасадка расьліны на новае месца; выдаленьне верхняга пласту зямлі і інш. Аднак, усе гэтыя сродкі часам не даюць належных вынікаў. Самае лепшае гэта—разводзіць амэрыканскія сарты агрэсту, якія не баяцца паказанага грыбка.

10. Erysiphe cichoriacearum D. C. Грыбок пашкоджвае розныя расьліны, пераважна сямействаў складанацьветных, бурачнікавых і інш.; ур. Барсучына; ліпень.

11. Erysiphe graminis D. C. Грыбок выклікае мучністую расу на збожжавых расьлінах (пераважна на пшаніцы). Заўважаны 13/VII на жыце, у заценены месцы, каля лесу; в. Кальнікі.

Способы змаганьня з мучністай расой распрацаваны далёка недастаткова. Раіцца апыляць захварэўшыя расьліны „серкавым цьветам“, пасыпаць попелам і інш.

12. Claviceps purpurea Tul.—„ражкі“. Грыбок пасяляецца на розных збожжавых расьлінах (пераважна на жыце) і выклікае хваробу, вядомую пад назвай „ражкі“ ў коласе, заместа зерняці, вырастае „зуб фіялетавага або шаравата-чорнага колеру (значна большых памераў, чым зерне). Мука, у якой маецца $1^1/_2\%$ і больш дамешкі „зуба“, лічыцца атрутнай і для ўжываньня ня годна. Атрутнасьць такой мукі тлумачыцца тым, што „зубы“ зьмяшчаюць у сабе шкодныя матэрыі—корнуцін і кіслоты—сэрацэлінавую і эргацінавую, якія выклікаюць у людзей і жывёл сударгі, моцныя болі ў жываце, корчы і інш. Дамешку „зубоў“ у муцэ можна выкрыць наступнымі спосабамі: 1) пад дзеяньнем шчолачнай вады такая мука прымае фіялетавую афарбоўку, 2) пры награваньні яе з едкім каліем выдзяляецца селядцовы пах. „Зубы“ скарыстоўваюцца ў мэдыцыне.

Для змаганьня з хваробай раіцца акуратна ачышчаць насеньне ад „зубоў“ і зьнішчаць пустазельныя збожжавыя расьліны на полі, якія часам зьяўляюцца рассаднікамі хваробы.

### Смарчкі і страчкі.

13. Смарчок стажкаваты. Morchella conika Pers. Знойдзены каля в. Смольніца, на палянцы сярод хваёвага лесу; 13/V.

14. Смарчок-сподачак. Helvella pezizoides Afzel. Знойдзен у яловым лесе на сугліністай глебе, сярод моху (ур. Крывая Бяроза); 27/IV. Шапачка ў яго плоская, круглая з вольнымі, крыху паднятымі брыжкамі.

15. Смарчок віхрасты (рагаты). Helvella elastica Bull. Знойдзен у хваёвым лесе, на пяшчанай глебе, каля дарогі. Ур. Корамша, 14/VIII. Шапачка ў большасьці грыбкоў трохкутная або з трыма лапкамі.



Мал. 1. Смаршчок белы.

16. Смарчок белы. Helvella crispa Fries. У цяністым мяшаным лесе, на сугліністай глебе; сустракаецца даволі часта; в. Кальнікі, 23/VIII. Шапачка грыба мае шаравата-белы колер.

17. Смарчок звычайны (Страчок). Gyromitra esculenta Fries. Знойдзен у яловым лесе, на сугліністай глебе; 22/IV; ур. Крывая-Бяроза. Сустракаецца даволі часта.

18. Смарчок хваляваты (Страчок). Gyromitra infula Quélet. У яловым лесе, на сугліністай глебе; сустракаецца параўнальна рэдка; ур. Крывая-Бяроза; 22/IV. Шапачка няправільная, з двума або чатырма выступамі.

Смарчкі, паказаныя вышэй, лічацца досыць каштоўнымі страўнымі грыбамі. Пры гатаваньні ці смажаньні смарчкоў старыя іх паасобнікі раіцца адкладаць, бо яны могуць быць некалькі атрутнымі і пры ўжываньні іншы раз выклікаюць разладжанасьць страваваньня. Страчкі (асабліва Gyromitra esculenta) зьмяшчаюць у сабе атрутную матэрыю,

якую перад гатаваньнем або смажаньнем патрэбна выдаліць. Дзеля гэтага падгатаваныя (абчышчаныя і пакрышаныя) страчкі абліваюцца варам. Ваду са страчкоў потым трэба зьліць, бо ў ёй знаходзіцца атрутная матэрыя. Атрутная матэрыя страчка раскладаецца і зьнішчаецца таксама ад звычайнай солі і пры сушэньні іх.

Даволі каштоўны продукт даюць сушаныя смарчкі і страчкі. Сушаць іх на сонцы, звычайна парэзанымі на часткі. Годны таксама і для саленьня.

**Галаўнёвыя і іржаўчынныя грыбы.**

19. Ustilago Avenae Jens. Пыльная галаўня аўсу. Грыбок выклікае хваробу аўсу, вядомую пад назвай „пыльная галаўня", прычым грыбня пранікае ў тканкі расьліны. Пашкоджаны авёс знойдзены сярод пасеваў у в. Кальнікі, Тачылішча і інш.; 7/VII.

20. Ustilago Hordei Brefeld. Пыльная галаўня ячменю. Грыбок пашкоджвае ячмень такім-жа спосабам, як папярэдні грыбок—авёс. Знойдзены сярод пасеваў ячменю ў в. Кальнікі; 2/VII.

21. Ustilago triciti Jens. Пыльная галаўня пшаніцы. Знойдзены сярод пасеваў яравой пшаніцы; вёска Кальнікі; 27/VII.

**Спосабы змаганьня з галаўнёй.**

З прычыны таго, што грыбня галаўнёвых пасяляецца ў тканках расьліны, змаганьне з ёю вельмі ўскладняецца. З гэтае-ж прычыны лячыць пашкоджаныя расьліны не даводзіцца. Усю ўвагу зьвяртаюць на ачыстку пасеўнага матар'ялу ад зародкаў (і грыбні) грыба. Ачыстка робіцца шляхам пратручваньня насеньня такімі вадкасьцямі, якія значна не пашкоджваюць насеньня, але забіваюць зародкі грыба. Раяцца наступныя спосабы пратручваньня: 1) Прыгатаўляюць у якой-небудзь пасудзіне 1% роствору. меднага купарвасу („сіняга каменю"), насеньне насыпаюць у кошык і апускаюць у раствор, увесь час перамешваючы насеньне рукамі. Сьмецьце, якое ўсплывае, выкідаюць. Потым кошык з насеньнем палошчуць у чыстай вадзе. Пратручанае насеньне рассыпаюць тонкім пластом для прасыханьня. 2) Абліваюць пшаніцу слабым растворам (0,4%) формаліну; добра перамешваюць, зьліваюць ваду, а насеньне ссыпаюць у кучу і накрываюць палатном, змочаным растворам формаліну. Праз 5-6 гадзін кучу рассыпаюць тонкім пластом і прасушваюць. 3) Забіваюць зародкі грыба высокай тэмпэратурай, дзеля чаго трымаюць насеньне хвілін 5 у вадзе, нагрэтай да $+56^0$ [1]).

22. Puccinia graminis Pers. Чорная (лінейная) іржавіна. Грыбок пашкоджвае рознастайныя збожжавыя расьліны. Яго грыбня пранікае ў тканкі расьліны, у выніку чаго ўтвараюцца прадоўжныя цёмныя пасачкі (шчылінкі) на лістох і сьцябле. Грыб зьнясіляе расьліну і тым самым паніжае ўраджайнасьць. Заўважаны ў в. Кальнікі на лістох жыта; 27/VI.

23. Puccinia dispersa Er. Бурая іржавіна жыта. Грыбок пашкоджвае жыта, прычым на яго лістох зьяўляюцца дробненькія бурыя плямкі. Грыбок, як і папярэдні, зьнясіляе расьліну. Заўважаны на лістках жыта, каля лесу; в. Кальнікі; 13/VII.

---

[1]) Паводле Ростаўцава.

24. Puccinia coronifera Kleb. Карончатая іржавіна. Пашкоджвае авёс (на лістох апошняга зьяўляецца мноства круглых памяранцавых плямачак). Хвароба заўважана 14/VII; в. Кальнікі.

Змаганьне з іржавінай. З прычыны таго, што аграмадныя плошчы засеву збожжавых лячыць апырскваньнем showнымі „атрутамі“ немагчыма, даводзіцца ў змаганьні з іржавінай абмяжоўвацца ахоўнымі мерапрыемствамі. Да такіх мерапрыемстваў трэба аднесьці: 1) Спальваньне жнеўніку для знішчэньня зародкаў грыба. 2) Пратручваньне насеньня медным купарвасам або формалінам. 3) Належнае ўгнаеньне глебы і радковы пасеў. 4) Разьвядзеньне такіх сартоў збожжа, якія не баяцца гэтай хваробы.

## Грыбы-махрачы (Рагацікі).

25. Махрач пнёвы. Clavaria pixidata Pers.. Знойдзены на гнілым бярозавым пні; сустракаецца рэдка; ур. Галае, 31/VII. Грыб даволі жорсткі і для ўжываньня ў страве мала прыгодны.

26. Рагацік маленькі. Clavaria gracilis Pers.. Знойдзены (шматлікімі групамі) сярод апаўшайігліцы хвоі ў іглястым лесе; в. Кальнікі; 30/VII. Грыб некаторымі мясцовымі зьбіральнікамі грыбоў ужываецца ў страве, пераважна ў смажаным выглядзе.

27. Clavaria ligula Schaeffer. Знойдзены ў мяшаным лесе, сярод апаўшай ігліцы, на супяшчанай глебе; ур. Каменка; 1/VIII. Маленькі, даволі жорсткі грыбок; у страве ўжываецца вельмі рэдка.

28. Махрач цынамонавы. Clavaria abientina Pers. Знойдзены на зямлі ў цяністым яловым лесе; 28/VII; в. Кальнікі. У страве ўжываецца ў рэдкіх выпадках. Мае горкі смак.

29. Рагацік шафранавы. Clavaria crocea Pers. Вельмі прыгожы, невялічкі грыбок; з-за сваёй жорсткасьці для ўжываньня ў страве бадай-што ня прыгодны. Знойдзен у хваёвым лесе, на зямлі; ур. Корамша; 14/VIII.

30. Махрач складны. Clavaria formosa Pers. Мясісты, чырванаватага колеру грыбок; годны для ўжываньня ў страве, але не выкарыстоўваецца насельніцтвам. Знойдзен у іглястым лесе, на зямлі; в. Кальнікі; 23/VIII.

31. Махрач залацісты. Clavaria aurea Schäffer. Знойдзен у іглястым лесе на зямлі; в. Кальнікі; 23/VIII. Грыб выкарыстоўваецца ў страве. У Аршаншчыне яго вараць на салодкім малацэ і лічаць даволі смачным.

32. Махрач жоўты. Clavaria flava Schäffer. Грыб мае выгляд кусьціка. Знойдзены ў мяшаным лесе, на супяшчанай глебе; ур. Каменка; 4/IX. Грыб скарыстоўваецца ў страве.

33. Махрач чырвоны. Clavaria botrytis Pers. Мае чырвоную афарбоўку кончыкаў галінак; урэшце падобен да махрача жоўтага. Знойдзен у мяшаным лесе на супяшчанай глебе; ур. Каменка; 4/IX. Мясцовым насельніцтвам скарыстоўваецца ў страву.

Сярод махрачоў невядома ніводнай атрутнай „пароды“, дзякуючы чаму ўсе яны лічацца страўнымі. Мякаць іх досыць шчытная, мясістая, з слабым пахам. Маладыя махрачы ідуць у страву пераважна ў смажаным выглядзе, але прыгодны для варыва і марынаваньня. Старыя іх паасобнікі досыць жорсткія, дрэнна ператраўляюцца ў страўніку і для ўжываньня не гадзяцца. Найчасьцей махрачы гатуюць на салодкім малацэ. Для сушэньня, з-за сваёй жорсткасьці, яны няпрыгодны.

## Калчакі.

34. Калчак звычайны. Hydnum ferrugineus Fries. Знойдзен у хваёвым лесе, на чыстым месцы; глеба пяшчаная; ур. Бабі-Лес; 30/VII. Мякаць мае пах сьвежай мукі; крыху гаркаваты смак. Грыб зьяўляецца страўным. У страву ідуць маладыя сакавітыя грыбы, прычым карысна выдаляць сысочкі, зьмешчаныя на ніжняй старане шапачкі, а таксама пянёк і скурку з паверхні грыба.

35. Калчак фіялетавы. Hydnum violascens Alb. et Schw. Знойдзен у хваёвым лесе, на пяшчанай глебе, сярод верасу і моху; ур. Сухі-Востраў; 30/VII. Страўны грыб; мясцовым насельніцтвам не выкарыстоўваецца.

36. Калчак цынамонавы. Hydnum laewigatum Swartz. Знойдзен у хваёвым лесе, на зямлі, глеба пяшчаная; даволі часта сустракаецца каля лясных дарог; ур. Корамша; 14/VIII. Страўны грыб, з саладкаватым смакам мякаці. Мясцовым насельніцтвам не выкарыстоўваецца.

37. Калчак лускаваты. Hydnum imbricatum Linné. На паверхні грыбка прыкметны цёмныя лусачкі, разьмеркаваныя падобна чарапіцы. Знойдзен у хваёвым лесе, на пяшчанай глебе; сустракаецца даволі часта, звычайна раскіданымі шматлікімі групамі. Ур. Корамша; 14/VIII.

Грыб мае горкі смак; зьяўляецца страўным. Перад гатаваньнем трэба саскрэбці лусачкі, а таксама—сысочкі з ніжняй старонкі шапачкі і адрэзаць пянёк, асабліва ніжнюю яго частку.



Мал. 2. Калчак лускаваты.

38. Калчак жоўты. Hydnum repandum Linné. Знойдзен у іглястым лесе; ур. Крывая-Бяроза. Мякаць грыба мае гаркаваты смак. Зьяўляецца страўным; мясцовым насельніцтвам не спажываецца.

Калчакі мясцовым насельніцтвам, як правіла, не спажываюцца. Тым часам яны сваёй якасьцю мала ўступаюць шмат якім іншым грыбом. Калчакі можна ўжываць гатаванымі, смажанымі і соленымі або марынаванымі. Перад гатаваньнем карысна выдаляць сысочкі з ніжняй стараны шапачкі, а таксама—пянёк. Для сушэньня калчакі няпрыгодны, бо робяцца занадта цьвярдымі.

## Губкаватыя грыбы.

39. Казьляк звычайны. Boletus luteus L. Знойдзен у хваёвым лесе сярод моху і верасу; некалькі экзэмпляраў; 17/V. Масавае зьяўленьне 12/VII. Выкарыстоўваецца ў страву; улюбёны грыб.

40. Казьляк жоўты. Boletus flavidus Fries. У мяшаным лесе, на супяшчанай глебе; ур. Каменка, 4/VIII. Страўны грыб; насельніцтвам спажываецца.

41. Казьляк жаўтаваты. Boletus flavus With. Падобен да казьляка жоўтага; знойдзен у хваёвым лесе, на супяшчанай глебе; ур. Тачылішча; 13/VIII. Страўны грыб; спажываецца.

42. Масьляк каровi. Boletus bovinus L. Сустракаецца даволі часта ў хваёвым лесе на пяшчанай глебе. Ур. Бабі-Лес; 12/VII.

43. Масьляк, Казьляк. Boletus granulatus L. Знойдзен у хваёвым лесе, на супяшчанай глебе; ур. Тачылішча; 18/VII. Страўны грыб; мясцовым насельніцтвам спажываецца, як страва.

44. Масьляк цынамонавы. Boletus badius Fries. Знойдзен у хваёвым лесе сярод моху і верасу. Тачылішча; 13/VIII. Грыб спажываецца жыхарствам.

45. Масьляк перачны. Boletus piperatus Bull. Мякаць гэтага масьляка мае востры, перачны смак. У яду ня ўжываецца. Ур. Каменка; 4/VIII.

Масьлякі лічацца трэцьцяраднымі грыбамі, бо сваёй якасьцю ўступаюць казьлякам. Але ўсё-ж яны могуць з карысьцю ўжывацца як у смажаным, так і ў сушаным выглядах.

45. Бабка чорная. Boletus scaber Bull. Расьце ў лісцяных, пераважна бярозавых, а таксама і мяшаных лясох. Ур. Тачылішча; 12/VII. Масавае зьяўленьне 25/VII. Апрача „бабкі чорнай“, даволі часта сустракаецца бабка белая з белаватай або зеленаватай шапачкай. У страву зьбіраюцца маладыя шчыльныя грыбы. Старыя, асабліва папсаваныя шасьціножкамі, з мяккім мясам лічацца мала годнымі для ўжываньня і звычайна ня зьбіраюцца. На яду ўжываецца найчасьцей у смажаным, або ў вараным у выглядах. Смажаная бабка па свайму смаку лічыцца лепшай ад усіх грыбоў. Часта загатаўляецца ў марынаваным і соленым выглядзе.



Мал. 3. Бабка чорная.

47. Падасінавік. Boletus versipellis Fr. Знойдзен 17/VII; ур. Тачылішча. Сустракаецца даволі часта. Падасінавік спажываецца ў тых-жа выглядах, як і бабка чорная.

48. Рашэтнік пнёвы. Boletus spadiceus Sch. Знойдзена некалькі экзэмпляраў у іглястым лесе, сярод моху; пераважна каля хваёвых пнёў. Ужываецца, як страва. Тачылішча. 15/VII.

49. Рашэтнік звычайны. Boletus subtomentosus Fries. Знойдзен у мяшаным лесе, на супяшчанай глебе; 17/VII. Ужываецца на яду.

50. Рашэтнік зялёны. Boletus chrysenteron Bull. Сустракаецца даволі часта; Каменка; 25/VII. Ужываецца, як страва.

51. Рашэтнік стракаты. Boletus variegatus Swartz. Знойдзен у хваёвым лесе, на супяшчанай глебе; ур. Тачылішча, 27/VII. Страўны грыб.

Рашэтнікі ўжываюцца пераважна ў смажаным, салоным і марынаваным выглядах. Сушаныя рашэтнікі даволі жорсткія, кепска разварваюцца і карыстаюцца малым попытам.

52. Баравік звычайны. Boletus edulis Bull. Вельмі распаўсюджаны страўны грыб. Першы паасобнік знойдзен 21/V (ур. Ліпкі). Масавае зьяўленьне баравікоў наглядалася 10/VII, потым—23/VIII і ўрэшце—1-2/IX.

53. Баравік вішнёвы. Boletus regius Krombh. Знойдзен у хваёвым лесе на пяшчанай глебе. Ур. Каменка; 22/VII. Выкарыстоўваецца, як страва.

54. Баравік-бярозавік. Boletus aereus Bull. Сустракаецца пераважна ў лісьцяных лясох. Выкарыстоўваецца, як і папярэднія. Знойдзены 18/VIII.

55. Баравік малы. Boletus absonium Fr. Знойдзен у мяшаным цяністым лесе, на сугліністай глебе. Крывая-Бяроза, 14/VIII. Ужываецца на яду.

Баравікі лічацца самымі каштоўнымі грыбамі. Спажываюць іх у самых рознастайных выглядах, як, напрыклад, у смажаным, вараным, марынаварым, салоным, сушаным, зьмельчаным у парашок; часам ужываюць іх і сырымі, абсыпаўшы сольлю [1]).

56. Хатні трутавік. Merulius lacrymans Schum. Гэты бязьлітасны шкоднік усялякай драўніны надзвычайна шырока распаўсюджан у раёне. Бадай-што ня знойдзеш такога насельнага пункту, дзе не знайшлося-б у жылых памяшканьнях або „істопках“ хатняга трутавіка. Наколькі шкодны гэты трутавік можна бачыць з таго, што, асталяваўшыся ў аднэй з новых хат у м-ку Смалявічы, ён за 6 месяцаў ушчэнт зруйнаваў усе падваліны, падлогу, ніжнія бярвеньні сьцяны і нават ніжнія часткі перагародак у хаце. Распаўсюджваецца грыб пераважна сваімі зародкамі (таксама і грыбнёй). Грыбня пранікае ў драўніну, разрастаецца там, прычым грыб выпрацоўвае фэрмэнты (гідролазу і цытазу), пад узьдзеяньнем якіх паступова распушчаюцца элемэнты драўніны (напрыклад, сьценкі трахэід). Пашкоджаная драўніна набывае чырванавата-бурую афарбоўку, губляе да 50% сваёй вагі і да 40% аб'ёму,—пакрываецца дробнымі шчылінкамі. У сырым стане такая драўніна робіцца настолькі мяккай, што мнецца, як гліна, а ў сухім—пераціраецца пальцамі ў пыл. Неабходнай умовай для жыцьця і разьвіцьця гэтага шкодніка зьяўляецца сырасьць. Між іншым, асталяваўшыся ў памяшканьні, грыб сам пачынае пакрысе павялічваць колькасьць вільгаці ў драўніне, а разам з гэтым—і ў паветры. Сухая драўніна ў сухім паветры зусім недаступна ўзьдзейнічаньню грыба. Другой умовай для жыцьця грыба зьяўляецца тэмпэратура. Устаноўлена, што грыбня гіне пры—5°C, пры +4°C пачынае расьці, прычым найлепшай для грыба зьяўляецца t° жылых памяшканьняў (+16—20°C).

Змаганьне. У сувязі з вышэйпаказанымі асаблівасьцямі грыба, трэба імкнуцца да таго, каб не стварыць у памяшканьнях умоў (сырасьць), якія спрыяюць яго разьвіцьцю. Неабходна асьцерагацца заражэньня здаровых будынкаў зародкамі грыба і грыбнёй пры руйнаваньні старых хат і „істопак“, пашкоджаных грыбам. Нельга таксама ў жылыя памяшканьні заносіць рознае гнільлё. Пашкоджаную драўніну

[1]) Правілы зьбіраньня баравікоў (і другіх грыбоў), спосабы іх сушэньня, марынаваньня і інш, апісаны ў кніжцы: „Страўныя, атрутныя і падазроныя грыбы“, выд. 1930 г., Менск. Там-жа маецца сьпіс літаратуры аб страўных грыбох.

(у мэтах зьнішчэньня грыбні) раіцца змачваць гарачай 5—10% рошчынай меднага купарвасу.

57. Трутавік хваёвы. Trametes Pini Fries. Грыб пашкоджвае пераважна старыя хвоі, нападае і на іншыя іглястыя дрэвы. Сустракаецца даволі часта, асабліва ў мясцох вырубак. Зародкі грыба пападаюць у ранкі, утвораныя на дрэве (напрыклад, пасьля паломкі гальля, царапіны і т. п.), прарастаюць, і грыбня пранікае ў драўніну (ядро яе), прычым пашкоджаная драўніна спачатку чырванее, а потым у ёй зьяўляюцца маленькія пустоты, разьмеркаваныя концэнтрычнымі дугамі або колцамі. Такая драўніна робіцца крохкай і зусім нягоднай для пабудовы. Смалістыя часткі драўніны (напр., забалань) не пашкоджваюцца грыбам.

У мэтах змаганьня з грыбам высякаюць старыя пашкоджаныя дрэвы, а таксама праводзяць мерапрыемствы па абароне лесу ад абламваньня, адпілаваньня і сьсяканьня жывога гальля (асабліва ў мясцох вырубак).

58. Трутавік сапраўдны. Polyporus fomentarius Fries. Грыб паразытуе на бярозе і дубе, выклікаючы „белую гніль“ іх драўніны. З пладовага цела грыба раней выраблялі „трут“, які ужываўся пры здабываньні агня з „вогніва“. Грыб сустракаецца параўнаўча рэдка. Знойдзен на бярозе; ур. Крывая-Бяроза.

59. Трутавік несапраўдны. Polyporus igniarius Fries. Нападае на розныя лісьцяныя дрэвы. Выклікае „белую гніль“ драўніны. Знойдзены на алешыне і бярозе; сустракаецца часьцей, чым папярэдні трутавік. Ужываўся для здабываньня „труту“.

60. Губа звычайная. Polyporus betulinus Fries. Паразытуе на бярозах. Заражэньне дрэва адбываецца праз выпадковыя ранкі. Пашкоджаная драўніна набывае чырванаваты колер, робіцца надзвычайна крохкай і зусім нягоднай для апрацоўкі. Дрэва з такой крохкай драўнінай пры першай навальніцы можа зламацца. Грыб сустракаецца ў раёне даволі часта.

Змаганьне з гэтым шкоднікам, як і іншымі трутавікамі, заключаецца пераважна ў профіляктычных мерапрыемствах. Раіцца, між іншым, зьбіраць і зьнішчаць мёртвае гальлё і пні бярозы, якія распаўсюджваюць губу.

### Пластковыя грыбы.

61. Лісіца, лісічка сапраўдная. Cantharellus cibarius Fries. Знойдзена 15/VII у мяшаным лесе; ур. Кальнікі. Лісічкі зьяўляюцца страўнымі грыбамі; іх вараць, смажаць, соляць і марынуюць. Сушаныя лісічкі кепска разварваюцца, з прычыны чаго іх бадай-што не загатаўляюць у такім выглядзе.

62. Лісічка атрутная. Cantharellus aurantiacus Fries. Знойдзена 15/IX у мяшаным лесе; ур. Тачылішча. Сустракаецца параўнаўча рэдка. Лічыцца падазронай; у страву ня ўжываецца.

63. Сьвінарка. Paxillus involutus Fr. Знойдзена 20/VII у іглястым і мяшаным лесе; сустракаецца пераважна каля спаленых муравейнікаў. Грыб зьяўляецца страўным. Мясцовым насельніцтвам бадай-што не выкарыстоўваецца.

64. Гнаявік лахматы; навозьнік, благушка, Coprinus porcellanus Schäff. Знойдзена некалькі экзэмпляраў 13/IX у мястэчку Смалявічы каля хлявоў і жылых будынкаў.

65. Гнаявік шэры. Coprinus atramentarius Fries. Знойдзена некалькі экзэмпляраў 19/IX каля дарогі, на добра ўгноенай глебе, сярод травы. Мясцовым насельніцтвам не скарыстоўваюцца.

Маладыя гнаявікі з белымі пласткамі і шапачкай, якая яшчэ моцна не разгарнулася і не патрэскалася, можна ўжываць у страву, пераважна ў смажаным і вараным выглядах. Грыбы даволі смачныя і заслугоўваюць асаблівай увагі таму, што пачынаюць расьці досыць рана і ў вялікай колькасьці, калі іншых грыбоў яшчэ зусім мала. Пры зьбіраньні гнаявікоў трэба мець на ўвазе, што яны растуць вельмі хутка і ўжо праз адны суткі маладыя грыбкі пасьпяваюць скончыць сваё разьвіцьцё і пачарнець.

66. Валовік; Валавянка; Валнушка. Lactarius torminosus Fries. Знойдзены 15/VII у цяністым мяшаным лесе. Масавае зьяўленьне наглядалася ў другой палове жніўня. Грыб выкарыстоўваецца мясцовым насельніцтвам для саленьня і марынаваньня разам з іншымі грыбамі.

67. Валовік белы. Lactarius resimus Fries. Часамі грыб завуць „груздом“, або „хрушчом“. Знойдзен 5/VIII у мяшаным лесе. Мясцовым насельніцтвам скарыстоўваецца для саленьня.

68. Lactarius scrobiculatus Fries. Грузд; Хрушч. Карыстаецца сярод мясцовага насельніцтва шырокай популярнасьцю. Выкарыстоўваецца бадай-што выключна для саленьня і марынаваньня, і ў такім выглядзе лічыцца лепшым ад усіх (за выключэньнем рыжыкаў) грыбоў. Першы экзэмпляр знойдзены 5/VIII у мяшаным лесе (ур. Тачылішча).



Мал. 4. Хрушч; Грузд.

69. Чарнуха; конскі грыб. Lactarius turpis Fries. Сустракаецца пераважна каля спаленых муравейнікаў. У страву бадай-што не выкарыстоўваецца. 28/VII; ур. Кальнікі.

70. Рыжок; Рыжык. Lactarius deliciosus Fries. Першае зьяўленьне рыжыкаў наглядалася 22/VII у цяністым мяшаным лесе (ур. Крывая-Бяроза). Улюбёны страўны грыб; скарыстоўваецца на саленьне і марынаваньне.

71. Гаркушка шэрая. Lactarius pyrogalus Fries. Мясцовым насельніцтвам скарыстоўваецца для саленьня. 4/VIII; мяшаны лес, супяшчаная глеба; Каменка.

72. Гаркуха; Гаркушка звычайная. Lactarius rufus Fries. Выкарыстоўваецца для саленьня і марынаваньня. 31/VII; у іглястым лесе, сустракаецца параўнаўча рэдка; ур. Сухі-Востраў.

73. Хрушч балотны. Lactarius helvus Fries. Грыб мясцовым насельніцтвам не скарыстоўваецца; аб яго карыснасьці нічога не вядома. Знойдзены 9/VIII сярод моху высахшага сфагнавага балота; ур. Кальнікі.

74. Малачай (Груздь). Lactarius piperatus Fries. Знойдзены 5/VIII у мяшаным лесе; сустракаецца досыць часта. Мясцовым насельніцтвам чамусьці лічыцца атрутным і ў страву не выкарыстоўваецца. У РСФСР гэты грыб лічыцца адным з лепшых і пасьпяхова конкуруе з рыжком; загатаўляюць яго пераважна ў салоным або марынаваным выгля-

дах. Востры смак грузда зьнікае пры саленьні або марынаваньні. Перад саленьнем малачаі (грузды) вымочваюцца ў вадзе на працягу 2-3-х дзён; Ваду трэба часта зьмяняць. Такім-жа спосабам прыгатаўляюцца для саленьня і марынаваньня і другія „горкія“ грыбы.

75. Падмалочнік; малачай. Lactarius pargamenus Fr. Адрозьніваецца ад папярэдняга меншай колькасьцю „малака“ і больш рэдкімі пласткамі. Страўны грыб; мясцовым насельніцтвам не скарыстоўваецца. Знойдзены 7/VIII у мяшаным лесе; сустракаецца разам з малачаем.

76. Падалешнік. Lactarius serifluus Fries. Знойдзены 9/VIII у сырым мяшаным лесе, каля балота (Кальнікі). Часткова выкарыстоўваецца для саленьня.

77. Сыраежка чорная. Russula nigricans Fries. Знойдзена 11/VII у мяшаным цяністым лесе; сустракаецца досыць часта Мясцовым насельніцтвам спажываецца на яду.

78. Валуй. Russula foetens Pers. 11/VII, у цяністым лесе; мясцовым насельніцтвам бадай-што не скарыстоўваецца; аднак, зьяўляецца страўным.

79. Сыраежка зеленаватая. Prussula virescens Fr. 13/VII; у лісьцяным лесе; даволі часта сустракаецца.

80. Сыраежка пякучая. Russula acris St. 15/VII у хваёвым лесе; даволі рэдка.

81. Сыраежка смуглая. Russula adusta Fr. Часам назаваюць гэты від „сьвінушкай“, як і Russ, nigricans. 17/VII у мяшаным лесе; параўнаўча рэдка.

82. Сыраежка пяшчаная. Russula sardonia Fr. Часта сустракаецца па лясных дарогах, блізка каляін; 25/VII; у мяшаным лесе, на пяшчанай глебе.

83. Сыраежка крывяная. Russula sanguinea Bull. 10/VIII, на супяшчанай глебе, сустракаецца параўнаўча рэдка.

84. Сыраежка пярцовая. Russula Quéletii Fries. 11/VIII, у цяністым мяшаным лесе, на суглiністай глебе. Мякаць гэтай сыраежкі вельмі пякучая. Лічыцца атрутнай (у літаратуры), але ўжываецца мясцовым насельніцтвам у страву і, як відаць, бяз ніякай шкоды.

85. Сыраежка атрутная. Russula emetica Fr. 11/VIII; у цяністым мяшаным лесе, на суглiністай глебе сярод травы. Мякаць вельмі пякучая; у літаратуры лічыцца атрутнай. Мясцовым насельніцтвам ужываецца ў страву.

86. Сыраежка блакітная. Russula livida Schr. 11/VIII, у цяністым мяшаным лесе, сярод травы. Мякаць мае саладкаваты смак.

87. Сыраежка белая; бялянка. Russula deliciosa Fr. 19/IX, у мяшаным сырым лесе, на суглiністай глебе. Сустракаецца вельмі рэдка.

88. Сыраежка добрая. Russula integra Schr. 11/VII, у цяністым мяшаным лесе; сустракаецца параўнаўча рэдка.

89. Сыраежка цьмяная. Russula ochracea Fr. 13/VII, у мяшаным лесе, на пяшчанай глебе; сустракаецца даволі часта.

90. Сыраежка крохкая. Russula lutea Fr. 15/VII у мяшаным лесе, на супяшчанай глебе; сустракаецца часта.

91. Сыраежка ружовая. Russula pulchella Borszczow. 17/VII, у ігластым лесе, на пяшчанай глебе.

92. Сыраежка-масьлёнка. Russula aurata Fr. 25/VII, у мяшаным лесе, на супяшчанай глебе. Мясцовым насельніцтвам гэта сыраежка лічыцца лепшай ад усіх іншых.

93. Сыраежка стракатая. Russula chamaeleontina Fr. 11/VIII, у сырым мяшаным лесе на сугліністай глебе; сустракаецца параўнаўча рэдка.

З прычыны вялікай крохкасьці сыраежак, іх неахвотна зьбіраюць, бо пакрышыўшыся ў кошыку, яны пэцкаюць іншыя, больш каштоўныя грыбы. Пры ўжываньні сыраежак раіцца асьцерагацца тых, якія маюць надта пякучы смак. Карысна бывае, асабліва пры варыве невядомых парод, зьліваць са скаварады сок, які выпушчаюць сыраежкі, а потым ужо прыпраўляць іх чым-колечы.

94. Lentinus squammosus Schr. Нападае пераважна на мёртвую (таварную) драўніну хвоі. Пладовыя целы інагды дасягаюць вялізных памераў; мякаць іх мае смалісты пах. Пладовыя целы грыба знойдзены на гнілым „шуле" (хваёвым) і ў балоце на валежніку. 7/VII.

95. Panus stipticus Schr. Сустракаецца на пнёх лісьцяных парод, а таксама і на мёртвых галінках, 23/VIII, на гнілых галінках бярозы; сустракаецца часта.

96. Часначок. Marasmius scorodonius. Невялічкі грыбок (шапачка да 2-х см. шырыні); мае моцны пах часнаку; ужываецца ў страву ў якасьці прыправы. Знойдзены 27/VII у мяшаным лесе. Вельмі ўраджайны грыбок; расьце да глыбокай восені. Мясцовым насельніцтвам не скарыстоўваецца.

97. Суханожка пахучая. Marasmius caryophylleus Schr. 22/V, на лясной палянцы, сярод маладых елачак, у вялікай колькасьці. Невялічкі жаўтаваты грыбок з даволі моцным пахам гвазьдзікі. Зьяўляецца страўным, але мясцовым насельніцтвам не скарыстоўваецца.

98. Сьвінушка пнёвая. Pleurotus insignior Fries. 16/VII, на пнёх бярозы; параўнаўча рэдка. Грыб зьяўляецца страўным, але нявысокай якасьці. Мясцовым насельніцтвам не скарыстоўваецца.

99. Сьвінушка пахучая. Pleurotus lignatilis Fr. 30/VII, у іглястым лесе на гнілой хваёвай калодзе. Сустракаецца вялікімі групамі. Грыб мае пах мукі; зьяўляецца страўным. Мясцовым насельніцтвам скарыстоўваецца вельмі рэдка.

100. Сьвінушка жоўтая. Pleurotus salignus Pers. 3/IX; на пнёх Salix Caprea. Зьяўляецца страўнай; мясцовым насельніцтвам скарыстоўваецца ў рэдкіх выпадках.

101. Сьвінушка распластаная. Pleurotus porrigens Gill. 3/IX, на пнёх асіны.

Сьвінушкі зьяўляюцца страўнымі грыбамі, асабліва смачныя маладзенькія грыбкі. Ужываюць іх варанымі або смажанымі; патрабуюць даволі працяжнага гатаваньня. Старыя сьвінушкі робяцца вельмі жорсткімі, не разварваюцца, і для ўжываньня няпрыгодны.

102. Гэбэлёма. Hebeloma crustiliniformis Karst. 15/VII у мяшаным лесе, на зямлі. Мякаць грыбы мае пах хрэна або рэдзькі і няпрыемны смак. Лічыцца атрутным.

103. Сьвінушка аленевая. Pluteus cervinus Quélet. 30/VI, у лісьцяным лесе, на зямлі, каля старога пня бярозы. Мясцовым насельніцтвам інагды скарыстоўваецца, як страўны грыб.

104. Сьвінушка белая. Pluteus pellitus Quélet. 14/VII, у мяшаным лесе, на зямлі і на бярозавых пнёх. Не скарыстоўваецца.

105. Радоўка белая. Clitopilus prunulis Quélet. 12/VII; сустракаецца шматлікімі групамі ў іглястым лесе. Масавае зьяўленьне радоўкі белай наглядалася 3/IX (ур. Крывая-Бяроза). Мякаць яе шапачкі на зломе белая мяккая, з прыемным, даволі моцным пахам сьвежай мукі. Гры-

бок вызначаецца вялікай ураджайнасьцю і, між іншым, пазбаўлены „чарвівасьці“. Радоўка белая карыстаецца ў раёне шырокай вядомасьцю, як добры страўны грыб. Яе вараць, смажаць, соляць і марынуюць.

106. Радоўка пахучая. Clitocybe infundibuliformis Quélet. 18/VIII, у мяшаным лесе, групамі. Грыб мае прыемны пах; зьяўляецца страўным; мясцовым насельніцтвам не скарыстоўваецца.

107. Clitocybe catinus Fr. 17/VII, у мяшаным лесе. Грыб вельмі падобен да папярэдняга. Таксама зьяўляецца страўным; не выкарыстоўваецца.

108. Радоўка (задымлёная). Clitocybe fumosa Quélet. 18/VII, у мяшаным лесе, групамі. Добры страўны грыб з вельмі слабым пахам сьвежай мукі. Не скарыстоўваецца.

109. Радоўка шэрая. Clitocybe neburalis Quélet. 25/VII; у мяшаным лесе; сустракаецца часта. Грыб скарыстоўваецца насельніцтвам, прычым лічыцца адным з самым лепшых пластковых грыбоў. Ужываецца ў страву пераважна ў сьвежым выглядзе; годзен для саленьня і марынаваньня.

110. Радоўка рудая. Clitocybe laccata Quèl. 27/VII, у цяністым мяшаным лесе, сустракаецца параўнаўча часта. Грыб зьяўляецца страўным; мясцовым насельніцтвам не скарыстоўваецца.

111. Радоўка анісавая. Clitocyle odora Quélet. 5/VIII; у мяшаным сырым лесе, на супяшчанай глебе; групамі. Грыб мае вельмі моцны анісавы пах; зьяўляецца страўным. Мясцовым насельніцтвам не скарыстоўваецца.

112. Радоўка цынамонавая. Clitocybe clavipes Quélet. 11/VII, у цяністым мяшаным лесе, сярод травы. Грыб скарыстоўваецца ў страву.

113. Трыхолёма звычайная. Tricholoma, equestre Quél. 25/VIII; у мяшаным лесе (ур. Каменка). Страўны грыб; не скарыстоўваецца.

114. Апёнка чырвоная. Tricholoma rutilans Quélet. Вельмі прыгожы мясісты грыбок; расьце шматлікімі групамі на пнёх іглястых дрэў. Знойдзен 27/VIII на пнёх хвоі (ур. Сухі-Востраў). Мясцовым насельніцтвам выкарыстоўваецца ў страву, пераважна ў вараным смажаным выглядах.

115. Зялёнка. Hypholoma fasciculare Pacc. Сустракаецца вялікімі групамі на пнёх. Знойдзены 6/VIII на гнілых альховых пнёх (ур. Вялікая-Гара). У літаратуры лічыцца атрутнай, аднак, мясцовым насельніцтвам маладыя грыбкі інагды ўжываюцца ў страву (у вараным выглядзе). Мае горкі смак.

116. Зялёнка чырванаватая. Hypholoma lateriteum Schr. 3/IX, на старых хваёвых пнёх, цесна скучанымі групамі. Ур. Крывая-Бяроза. Лічыцца атрутнай.

117. Благушка фіялетавая. Cortinarius violaceus Fries. Знойдзена 19/IX у мяшаным лесе; сустракаецца вельмі часта. Грыб зьяўляецца страўным. Мясцовым насельніцтвам грыб лічыцца брыдкім і ў страву ня ўжываецца.

118. Апёнка жыдкая. Pholiota mutabilis Quél. 23/VIII, на старым пні бярозы, групамі. Зьяўляецца страўным; мясцовым насельніцтвам не скарыстоўваецца.

119. Пячурыца палявая. Psalliota campestris Fr. Знойдзена 30/VII каля дарогі ў хваёвым лесе, пры муравейніку. Вельмі каштоўны

страўны грыб. Мясцовае насельніцтва чамусьці лічыць яго атрутным і ў страву ня ўжывае.

120. Пячурыца лугавая. Psalliota arvensis Fries. 9/VII, на сырым выгане, па 2-3 паасобнікі разам. Каштоўны страўны грыб; мясцовым насельніцтвам скарыстоўваецца, але рэдка.

121. Пячурыца роўнядзьная. Psalliota pratensis Fries. 13/IX, у мяшаным лесе, на суглiністай глебе; сустракаецца даволі часта. Страўная; не скарыстоўваецца.

122. Пячурыца сьлізкая. Psalliota aeruginosa Curt. 19/IX, у густым яловым лесе, на суглiністай глебе. Мясцовым насельніцтвам лічыцца атрутнай. Падазроны грыб.

Пячурыцы (за выключэньнем „сьлізкай“) лічацца самымі лепшымі грыбамі сярод „пластковых“. Ужываюцца ў вараным, смажаным і марынаваным выглядах; ідуць на прыгатаваньне грыбных консэрваў. З сушаных пячурыц гатуюць пахучы вельмі каштоўны грыбны парашок.

123. Апёнка. Armillaria mellea Quél. Улюбёны страўны грыб. Масавае зьяўленьне наглядалася з другой паловы верасьня. Зьяўляецца даволі небясьпечным шкоднікам лесу — яго грыбня пранікае ў карэньне розных дрэў, руйнуе іх, пранікае потым у ствол і выклікае працяжную хваробу і сьмерць дрэва.



Мал. 5. Грыб-парасон.

124. Грыб-парасон. Lepiota procera Quél. Вельмі прыгожы вялікі грыб (шапачка да 25 см шырыні). 14/VII, у iглястым рэдкім лесе, сустракаецца параўнаўча рэдка. Добры страўны грыб.

125. Грыб-парасон садовы. Lepiota rhacodes Quél. 25/VII. у мяшаным лесе (ур. Каменка). Адрозьніваецца ад папярэдняга меншымі памерамі шапачкі і гладкім пяньком. Зьяўляецца страўным.

126. Грыб-парасон палявы. Lepiota excoriata Quél. Вызначаецца параўнаўча невялічкімі памерамі (шырыня шапачкі ад 4-х да 13 см). 27/VI на полі сярод пасаджанай бульбы. Страўны.

„Парасоны“, паказаныя вышэй, вельмі смачныя каштоўныя грыбы. Маладыя экзэмпляры ўжываюцца пераважна смажанымі іваранымі; старыя робяцца жорсткімі і для стравы мала прыгодны. Мясцовае насельніцтва чамусьці залічыла гэтыя грыбы да мухamораў, і некаторыя зьбіральнікі грыбоў нават „труцяць“ імі мух, зразумела, бяз ніякіх вынікаў.

127. Таўкачык. Amanitopsis plumbea Schr. Знойдзен 12/VII у мяшаным лесе. Масавае зьяўленьне 28/VII. Грыб лічыцца страўным. Насельніцтвам не скарыстоўваецца.

128. Мухамора ружовая Amanita roseola Steinhaus. 17/VII, у іглястым лесе; масавае зьяўленьне наглядалася ў канцы жніўня і пачатку верасьня. Мясцовым насельніцтвам лічыцца атрутным. Падазроны грыб.



Мал. 6. Першыя стадыі разьвіцьця пладовага цела мухамора чырвонага (зьлева) і таўкачыка — справа.

129. Мухамора шэрая Amanita pustulata Schr. Масавае зьяўленьне наглядалася ў другой палове ліпня і пачатку жніўня. Грыб лічыцца страўным. Не скарыстоўваецца.

130. Мухамора чырвоная. Amanita muscaria Pers. Масавае зьяўленьне 24/VII. Атрутны грыб. Мясцовым насельніцтвам выкарыстоўваецца для атручваньня мух.

131. Мухамора шурпатая. Amanita aspera Gill. Масавае зьяўленьне пачынаючы з 5/VIII. Атрутны грыб.

132. Мухамора зеленаватая. Паганка атрутная. Amanita bulbosa Bull. Знойдаена 3/IX у яловым лесе. Сустракаецца параўнаўча рэдка. Вельмі атрутны грыб.

**Порхаўкі.**

133. Порхаўка высокая. Globaria saccata Morg. 3/IX, у мяшаным лесе, сярод травы. Сустракаецца параўнаўча рэдка.

134. Порхаўка палявая. Lycoperdon hyemale Viit. Знойдзена 7/VII на полі па жытным жніўі.

135. Порхаўка страўная. Lycoperdon gemmatum Batcsh. Масавае зьяўленьне ў другой палове верасьня. Знойдзена на сенажаці.

136. Порхаўка-куля. Bovista nigrescens Pers. Знойдзена на сенажаці 27/VIII (м-ка Смалявічы).

Сярод значнай колькасьці відаў порхавак пакуль-што нявядома ніводнага атрутнага. Падазронымі лічацца толькі паасобнікі, якія маюць надта цьвярдую і тоўстую скуру. Наогул-жа ўсе порхаўкі лічацца страўнымі грыбамі, прычым ужываюцца ў страву толькі маладыя грыбы, мякаць якіх мае сьнежна-белы колер і прыемны пах. Порхаўкі зьяўляюцца вельмі смачнымі грыбамі; апрача таго, яны куды лепш, чым іншыя грыбы,ператраўляюцца ў страўніку і па сваёй спажыўнасьці стаяць вышэй, чым нават славутыя баравікі. Мясцовае насельніцтва адносіць порхаўкі да „паганак“ і ў страву ня ўжывае.

---

Заканчваючы сьпіс грыбоў, лічу патрэбным заўважыць, што як выкарастаньне страўных грыбоў, так і змаганьне са шкоднымі іх прадстаўнікамі ў нас пастаўлены кепска. Праца па вывучэньню грыбной флёры у нас, у БССР, калі не памыляюся, ніяк не пастаўлена. А між тым у пэрыод шырока разгорнутай соцыялістычнай рэконструкцыі, пры наяўнасьці буйнай соцыялістычнай гаспадаркі зусім магчыма і патрэбна паставіць „грыбную справу“ на належную вышыню. Напрыклад, ужо адна рацыянальная пастаноўка выкарастаньня страўных грыбоў, якія літаральна сотнямі мільёнаў кілё гінуць бяз ніякай карысьці ў нашых лясох, можа даць дзяржаве аграмадныя запасы бялкоў (у сухіх грыбох да 55% азоцістых матэрый!), у якіх адчуваецца недахоп.

Станіслаў Іва.

# Факты жыцьця.

*(Нарыс).*

Мы стаім на крутым, абрывістым беразе возера...

Стары колгасьнік глянуў на возера, уздыхнуў і зьвярнуўся да мяне:

— Я вам не расказаў пра бедняка Івана і яго жыцьцё — слухайце.

— У рэволюцыю Іван першым узьняў батракоў і беднату супроць пана. Ён прышоў да пана і загадаў здаць усё багацьце савету. Гаспадарамі маёнтку сталі батракі і беднякі.

Час ішоў. Белапольскія банды груганамі наляцелі на вольную краіну саветаў. Іван, хворы на сухоты, першы выступіў з атрадам супроць белабандыцкай зграі і... выпадкова папаў ім у рукі... Яго расстралялі... яго жонку павесілі, а дзяцей зьвязалі, заперлі ў хаце і падпалілі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Арэхаўка — гэта маёнтак лютага пана-абшарніка, які няшчадна эксплёатаваў дзесяткі батракоў і сотні вакольных беднякоў. Люты вораг батрацтва і беднаты—абшарнік Грабніцкі выціскаў апошнія сілы з беднякоў і батрацтва. Кастрычніцкая рэволюцыя падарвала ўстоі абшарніцтва. Хваля рэволюцыі зьнесла з твару зямлі лютага эксплёататара Грабніцкага, а разам з імі дзесяткі - сотні такіх, як ён. Год - другі, і ад яго засталіся толькі ўспаміны сярод батракоў, якіх ён трымаў пад бізуном.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Белапольская окупацыя. Зноў уціск панскага бота, які кладзе крывавы сьлед. Зноў няшчадная эксплёатацыя, сьвіст белапанскага бізуна над сьпінамі батракоў.

Прагналі белапалякаў. Батракі і вакольная бедната яшчэ доўга не маглі апамятацца, што рабіць. Ці варта брацца аднаўляць па-новаму, па-соцыялістычнаму сваё жыцьцё ў абшарніцкім маёнтку, багацьце якога набыта іхнімі крывавымі мазалямі? Ці зьвернецца былы люты пан? І, упэўніўшыся, што Савецкая Беларусь канчаткова вызвалілася ад няволі капіталістых і абшарнікаў, былыя батракі Грабніцкага, разам з вакольнай беднатой, бяруцца цьвёрда за будаўніцтва новага соцыялістычнага жыцьця.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

1922 год! Год, які Арэхаўцы азначыні гэроічным уздымам. У 1922 годзе ў абшаріцкім маёнтку нарадзілася таварыства па супольнай апрацоўцы зямлі.

— Цяжка жылося спачатку, але ўпарта перамагаючы ўсе цяжкасьці, мы пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі ішлі наперад. Мы

не паддаваліся кулацкаму ўплыву — дамагаліся аднаго — перамагчы цяжкасьці, палепшыць жыцьцё былых батракоў сваёй дружнай працай, — так расказваюць пра сваё жыцьцё колгасьнікі, былыя батракі.

У 1927 годзе таварыства па супольнай апрацоўцы зямлі перарастае ў сельска-гаспадарчую арцель пад назвай „Сельска-гаспадарчая арцель Арэхаўка".

У 1929 годзе на агульным сходзе колгасьнікаў, якіх налічваецца да 30 сем'яў, робіцца справаздача колгасу. На сходзе прысутнічае больш як 300 адзінаасобнікаў. І на гэтым-жа сходзе даецца назва колгасу „Чырвоны Кастрычнік".

Колгасьнікі пастанавілі даць гэтую назву колгасу таму, што іх, ранейшых спрадвечных батракоў і беднякоў, вызваліў ад нячуванага прыгнёту абшарніка Чырвоны Кастрычнік 1917 году. Яны далі абяцаньне — змагацца за гэту назву, апраўдаць яе перад працоўнымі масамі Савецкага Саюзу.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ішлі дні, міналі месяцы. Кіпела напружаная праца ў колектыўнай гаспадарцы. Змагары ўсё вышэй і вышэй уздымалі вытворчасьць працы, паляпшалі ўмовы жыцьця, дапамагалі пролетарыяту ў напружаным будаўніцтве чым маглі.

І вось 1930 год — 13 гадавіна Кастрычніцкае рэволюцыі. Падагулілі колгасьнікі вынікі працы.

У калгасе ёсьць:

— 114 сямей, з іх: 48 батрацкіх, 43 бядняцкіх, 12 серадняцкіх астатнія — служчыя.

— 1.500 гэктараў зямлі, з гэтай плошчы: 700 га пахаці, 400 га. сенажаці, астатнія — лес і азёры.

— 170 кароў, з іх: 140 дойных, астатнія — маладняк да 2-х год і 85 цялят. Сьвіней — 220 штук, 60 рабочых коняй.

У колгасе ёсьць:

— Добры сельска-гаспадарчы інвэнтар і здавальняючыя будынкі для жывёлы.

У колгасе ёсьць:

— 4 га старога саду. Летась сваімі сіламі засаджана — 3 га, а сёлета—4 га, на 2000 прышчэпаў заложан гадавальнік.

У колгасе ёсьць:

— двухкомплектная школа, клюб, дзіцячыя ясьлі, дзіцячы сад і агульная сталоўка.

Сёлета колгас зьняў ураджай:

— З 120 га — жыта, з 65 га — авёс, з 35 га—ячмень, з 35 га — бульбу, з 10 га—буракі, з 5 га—пшаніцу і з 32 га—лён. Ураджаі былі па ўсіх культурах вышэйсярэднія.

Колгас мае за 1930 год:

— 80.087 рублёў валавога прыбытку. На разьмеркаваньне сярод членаў колгасу заработку за год вызначана 52.200 рублёў.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Гэты вялізарны рост колгасу замацаваў колгасныя рады „Чырвонага Кастрычніка".

Сёлета за асеньнія месяцы і дні „Колектывізацыі і ўраджаю" ў колгас улілося 60 бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак. Зараз гэтыя беднякі і серадн︎які па-ўдарнаму працуюць. Адзінай неразрыўнай сям'ёй тут змагаюцца за новае соцыялістычнае жыцьцё, за новы быт, за сусьветны Кастрычнік. Кожны дзень прыносіць усё новых і новых

колгасьнікаў-беднякоў і серадпякоў. Пашыраюцца колгасныя рады. Вось толькі за апошнія дні ў праўленьне колгасу падалі заявы яшчэ 15 беднякоў і серадпякоў, Усё просяцца прыняць у колгас.

Колгасьнікі ўсімі сіламі дапамагаюць вакольным бедняком і маламоцным серадняком. У летні гарачы час уборкі ўраджаю колгасьнікі сваімі машынамі і цягавай сілай дапамагалі бедняком сабраць ураджай. Дапамагаюць і колгасу беднякі і серадпякі. У часе ўборкі бульбы яны вышлі на дапамогу колгасьнікам.

— Мы, заўтрашнія колгасьнікі, павінны ўзмацняць колгас — крыніцу прыкладнай, ударнай работы.

Сёлета колгас справіўся з усімі сельска-гаспадарчымі работамі па-ўдарнаму.

Уборка ўраджаю і сяўба скончана сваечасова. Уборка бульбы скончана да 13 кастрычніка. Праведзена разьбіўка колгаснай пахаці на 12-польны севазварот. Засеяна: жыта—100 га, пшаніцы азімай—8 га і 40 га канюшыны.

Колгасьнікі перавыканалі плян сіласаваньня. Трэба было засіласаваць паводле заданьня 2 ямы, а засіласавана 4 — на 200 тысяч пудоў корму.

Колгас першым у раёне пачаў хлебазагатоўкі і выканаў іх з вялікім перавышэньнем. Здадзена дзяржаве зернавых культур — 64 тоны замест вызначаных плянам 44 тон, яблык — 20 тон, масла — 100 клг., малака 4,5 тон, воўны—1 цэнтнер, 19 кароў, 16 сьвіней і 50 курэй. Падатку здадзена 700 руб. Уся таварная частка гаспадаркі законтрактавана. Колгасьнікі першымі пайшлі на ліквідацыю цяжкасьцяй у справе забясьпечаньне рабочых цэнтраў мясам. Яны арганізавалі рыбацкую арцель з 30 чалавек, якая ўжо здала дзяржаве 40 тон рыбы.

— Мы ў колгасе, — гавораць колгасьнікі, — ва ўсю шырыню разгарнулі соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Узьняцьце гаспадаркі і выкананьне ўсіх гаспадарчых работ — вынік ударных тэмпаў работы.

— Мы прэм'явалі 10 лепшых ударнікаў колгасу і вылучылі на ўсебеларускае прэм'яваньне самых лепшых ударнікаў колгасу: Лісоўскую, якая 15 год батрачыла (уступіла ў колгас у 1928 годзе і зараз працуе па догляду сьвіней); П т у ш к у — батрака, які прышоў дзіцём у колгас, вырас і зараз паказаў ударныя тэмпы на палявых работах, і Г у н ь к о — батрака, старога колгасьніка, які з 8 коньмі адзін спраўляўся ў час баранаваньня на колгасных палёх.

Старшыня колгасу вадзіў мяне па сядзібе колгасу, паказваў хлявы, запасы корму, умалот збожжа. Падыходзячы да аборы, ён запытаў у жанчыны, якая вышла з сьвінарніка:

— А дзе матка, якая прывяла 14 парасят?

— А там, у маленкім сьвінарніку.

Мы ўвайшлі ў хлеў. Чорная вялікая сьвіньня рохкала ў асобным хляўку, каля яе капашылася цэлая статка белых, як сьнег парасят.

— Вось бачышь, якіх мы гадуем сьвіней. Мы на справе практычна вырашаем мясную проблему. А вось тут у нас абора, праўда, на наша статка цеснавата, але перазімуем, а вясной пачнем будаваць абору сьвінарнікі.

Мы праходзім каля высокай халупкі, пабудаванай накшталт ветрака, толькі адна розьніца—ня было крыльляў. Старшыня прыпыніў мяне:

— Глядзі — сказаў ён, — гэта наш млын. На гэтым млыне мы мелем збожжа для жывёлы, а часам і сабе цэнтнераў 12 за дзень зьмелем...

Гэта вось, бачыш, — наша цыркулярка. Я яе дапасаваў да трактара, а калі апошні заняты — да лёкомобіля пераводзім. Добрая рэч у гаспадарцы колгасу.

— Дык вось, браток, як мы жывем і працуем. Мы, былыя цёмныя, загнаныя батракі і беднякі, толькі пасьля Чырвонага Кастрычніка пазналі сапраўднае жыцьцё.

Я ехаў з колгасу і, успомніўшы абяцаньне колгасьнікаў:

змагацца за назву колгасу „Чырвоны Кастрычнік," апраўдаць яе перад працоўнымі СССР,—думаў сам сабе:

— ганаровае абяцаньне выконваецца і будзе выканана.

Вушацкі раён, колгас
„Чырвоны Кастрычнік"
5 студзеня 1931 году.

---

# БІБЛІОГРАФІЯ.

*Па Беларускіх прасторах.* Першы зборнік прац краязнаўчага гуртка Менскай 20-й ФЗС імя „Дзесяцігодзьдзя БССР“. Выданьне Менскай 20 школы і Менскага Акруговага Т-ва Краязнаўства. 245×170 мм., 31 стар., 10 мал. у тэксьце, цана 30 кап., тыраж 2000 экз.

Краязнаўства зьяўляецца аднэй з форм актыўнага ўдзелу працоўных мас у соцыялістычным будаўніцтве шляхам усебаковага навуковага вывучэньня данага раёну ў мэтах дапамогі плянуючым і опэратыўным органам савецкай улады і шляхам выкарыстоўваньня вынікаў гэтага вывучэньня для соцыялістычнай перабудовы краіны. Такі зьмест і значэньне набыло ў СССР карязнаўства ў сучасны момант. Гэткія-ж задачы павінны стаяць і перад усімі школьнымі краязнаўчымі організацыямі. У школьных краязнаўчых гурткох вучні павінны вывучаць свой раён, горад, колгас ці саўгас, фабрыку ці завод, тую ці іншую культурную або савецкую ўстанову ня толькі ў мэтах асьветных, але, галоўным чынам, дзеля актыўнай дапамогі адпаведным установам у іх соцыялістычным будаўніцтве, у выкананьні вытворча-культурных плянаў. Краязнаўчая праца ў школьных краязнаўчых гурткох зьяўляецца магутным сродкам у барацьбе за політэхнізацыю школы і за падрыхтоўку новых кадраў для соцыялістычнай народнай гаспадаркі. І зусім правільна гаворыцца ў прадмове да зборніку, што „У пэрыод соцыялістычнага будаўніцтва краіны і разам з тым будаўніцтва політэхнічнай школы, калі ад школы патрабуецца выпрацоўка ў падрастаючай моладзі марксыцка-ленінскага сьветапогляду клясавай сьвядомасьці, уменьня змагацца за комунізм і звычак соцыялістычнай працы, школы павінны дзяліцца сваім вопытам“. Даны зборнік і зьяўляецца добрай спробай 20-й школы падзяліцца з іншымі школамі сваім вопытам добра організаванай працы школьнага краязнаўчага гуртка.

Зборнік зьмяшчае ў сябе наступныя артыкулы: „Лямцавая фабрыка“, „Рабочы пасёлак „Комінтэрн“ і яго насельнікі“, „Транспорт у Менску ў 1929 годзе“, „1-я экскурсія па БССР краязнаўчага гуртка 20-й Менскай фабрычна-заводзкай школы“, „2-я краязнаўчая экскурсія 20-й Менскай фабр.-зав. школы па рацэ Бярозе“, „Вынятка са справаздачы бюро краязнаўчага гуртка 20-й школы“.

У артыкуле *„Лямцавая фабрыка“* ў лёгкай і популярнай форме падаюцца весткі аб росьце і разьвіцьці фабрыкі з 1924 г., апісваюцца процэсы вытворчасьці ў розных аддзяленьнях, умовы працы і быт рабочых. Юныя краязнаўцы—пераважна вучні 7 гр.—ня толькі апісваюць свае назіраньні, але яны ставяць ужо і некаторыя проблемы палепшаньня працы рабочых на фабрыцы. Так, напр., вучань Кнюшка прапануе для рабочых насьцілачнага аддзяленьня „набыць такія маскі, якія не прапускаюць пылу. Гэткія маскі ёсьць на гарбарным заводзе ў краснадубным цэху. Таксама трэба паклапаціцца, каб былі вэнтылятары“... На вялікі жаль, у артыкуле чамусь зусім не закранута пытаньне соцспаборніцтва (якое ў 1929 г. на прадпрыемствах ужо стала разгортвацца) і выкананьне прамфінпляну; ня выяўлена роля парт‘ячэйкі і фабкому ў мобілізацыі рабочых мас на выкананьне колькасных і якасных паказчыкаў плянавых заданьняў.

У артыкуле *„Рабочы пасёлак“*... даецца агульны малюнак пабудаванага ў 1926-27 г. рабочага пасёлку „Комінтэрн“ і апісваюцца бытавыя ўмовы жыцьця рабочага—модэльшчыка зав. „Энэргія“ комуніста Голубева, рэволюцыянэра і актыўнага грамадзкага працаўніка. Трэба было паказаць жыцьцё некалькіх тыповых сем‘яў рабочых; зусім мала зьвернута ўвагі на колектыўнае жыцьцё рабочых пасёлкаў і іх сем‘яў.

Зьвяно краяведаў-вучняў 5 гр. у арт. *„Транспарт у Менску ў 1929 г.“* закранаюць вельмі актуальнае ў нашы дні пытаньне, вызначаючы ўсю яго важнасьць; падаюцца цікавыя весткі аб аўтобусным руху ў горадзе і зусім не закранута вельмі важнае пытаньне аб правядзеньні трамвайнай лініі.

Характар і значэньне 1-ай экскурсіі па БССР такім чынам ацэньваецца ўдзельнікам гэтае экскурсіі вучнем А. Левіным: „За семнаццаць дзён нашага падарожжа па БССР мы пасьпелі аглядзець і падрабязна вывучыць Воршу, Дуброўну, Лепель, прайшлі па Дняпры праз Кабяляцкія парогі, азнаёміліся з рэкамі Вулай, Эсай Бярэшчай, Бярозай, вывучылі і апісалі Асінбуд, Дубровенскую тэкстыльную фабрыку, добра азнаёміліся з жыцьцём плытагонаў. Успамінкі аб гэтай

экскурсіі ў нас застануцца на ўсёжыцьцё". (Які бліскучы доказ вялікага выхаваўчага значэньня добра організаваных краязнаўчых экскурсій! — В. С.)... Апрацаваныя матар'ялы экскурсіі склалі пяць нумароў рукапіснага часопісу краязнаўчага гуртка 20-й ф.-з. школы „Па беларускіх прасторах" (№№ 6, 7, 8, 9, 10 за 1929-30 г.)". Вялікае і ўсебаковае значэньне экскурсій добра ўсьвядомілі ўсе члены краязнаўчага гуртка. „Экскурсія *ўмацоўвае* хлапца альбо дзяўчыну *фізычна*, дае яму шмат *ведаў і практыкі*, павялічвае яго *разумовы багаж*, усім гэтым экскурсія падрыхтоўве новую зьмену для социялістычнага будаўніцтва, здаровых і сьвядомых грамадзян Саюзу, піша вучань VI кл. Кавалеўскі. (Падкрэсьлена мной В. С.). У апісаньні другой краязнаўчай экскурсіі па р. Бярозе ёсьць цімала момантаў, важных і. ў справе вайсковае падрыхтоўкі: уменьне організаваць пераправу, выбраць месца для начлегу, расьцягнуць палатку, зрабіць разьіведку і г. д.

З „Выняткі са справаздачы бюро краязнаўчага гуртка" мы даведаемся аб кірунку працы краязнаўчага гуртка і аб тых тэмах, над якімі працавалі юныя краяведы 20-й школы. Гурток працаваў над вельмі актуальнымі пытаньнямі сёнешняга дня, цесна зьвязанымі з політэхнізацыяй школы і яе грамадзкай працай, пытаньнямі вывучэньня фабрычна-завадзкой вытворчасьці, быту рабочых, транспорту ў г. Менску. Побач з гэтым вывучаліся і такія пытаньні, як „Каляды ў сучаснай вёсцы", „Вясельле", (невядома толькі, у якім разрэзе і для якой мэты). У працягу 1928-29 г. гурток выпусьціў 5 нумароў рукапіснага часопісу „Па Беларускіх прасторах", 3 нумары „Архіву краязнаўчага гуртка 20-й школы" і організаваў 2 далёкіх экскурсіі. Гэта вялікая праца. З справаздачы даведаемся, што праца „вялася колектыўна, мэтодам складанай коопэрацыі"... Гэта відаць і з тых матар'ялаў, якія зьмешчаны ў зборніку.

Зварачаюць на сябе ўвагу добра і мастацкі выкананыя малюнкі (зарысоўкі) розных аддзяленьняў лямцавай фабрыкі, рабочага пасёлку „Комінтэрн", рабочага клюбу ў Выдрыцы і інш. Краязнаўства дае правільны вытворчы напрамак і школьнаму мастацтву. На вялікі жаль шмат якія малюнкі распалажаны ў зборніку няўдала, не на месцы.

Артыкулы напісаны жывой і добра апрацаванай, вобразнай мовай. Зборнік можа быць з карысьцю прачытаны кожным рабочым, колгасьнікам, вучнем і дае цікавы матар'ял для школьнай працы. У парадку социялістычнага спаборніцтва 20-я школа абавязалася да 1 красавіка г. г. выдаць другі зборнік краязнаўчых прац свайго гуртка і выклікала выдаць першы зборнік краязнаўчых прац наступныя школы: 4-ую Менскую, 8-ую Н.-Барысаўскую, Чэрвенскую беларускую, 1-ую Аршанскую, 4-ую Віцебскую, Сененскую, Полацкую чыгуначную, Лепельскую беларускую, Брагінскую, 3-ю Магілеўскую яўрэйскую, Клімавіцкую, 5-ую Мазырскую і Нараўлянскую школы (фабр.-зав. і колгаснай моладзі). Калі-б усе гэтыя школы выдалі краязнаўчыя зборнікі, падобныя разгледжанаму, мы мелі-б багаты вопыт і каштоўны краязнаўчы матар'ял, так патрэбны для нашай савецкай політэхнічнай школы. Заўважым толькі яшчэ раз., што тэмы для краязнаўчай працы павінны браць такія, якія маюць актуальнае значэньне ў справе нашага социялістычнага будаўніцтва і распрацоўка якіх можа дапамагчы мясцовым установам і організацыям хутчэй выканаць свой вытворча-культурны плян. Неабходна, каб юныя краяведы-вучні самі прыймалі актыўны ўдзел у вырашэньні тых задач, якія будуць вызначаны ў выніку праведзенай імі дасьледчай працы, цесна ўвязанай з задачамі плянуючых і гаспадарчых устаноў і організацый.

В. Самцэвіч.

# ХРОНІКА.

## Дагавор на социялістычнае спаборніцтва паміж ЦБК РСФСР і ЦБК БССР на 1931 г.

Улічваючы неабходнасьць пераходу ўсёй краязнаўчай працы на шлях социялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, ЦБК РСФСР і БССР бяруць на сябе абавязак выканаць ніжэйнаступнае:

1. Уся краязнаўчая праца як у цэнтры, так і на мясцох павінна быць накіравана на змаганьне за ґенэральную лінію партыі і пераключана на абслугоўваньне бягучых задач социялістычнага будаўніцтва шляхам цеснай увязкі краязнаўчай працы і працай плянавых і гаспадарчых органаў на аснове марксыцка-ленінскай мэтодолёгіі, вытрыманай клясавай лініі і разгорнутай самакрытыкі.

2. Ажыцьцяўляючы прынцып шырокага ўцягненьня ў краязнаўчую працу рабочых, колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкага сялянства, ЦБК РСФСР і ЦБК БССР абавязваюцца ўцягнуць у краязнаўчы рух па кожнаму з раёнаў РСФСР і БССР ня менш 60 чалавек, з якіх ня менш 30% рабочых і колгасьнікаў.

3. Уся краязнаўчая сетка ў працягу году павінна быць пераведзена на адзіныя організацыйныя формы: абласныя (для РСФСР) і раённыя бюро краязнаўства і нізавыя краязнаўчыя гурткі (для РСФСР і БССР).

4. ЦБК РСФСР і БССР павінны на аснове даных дзяржплянаў паведаміць усе мясцовыя організацыі аб экспэдыцыях, якія накіроўваюцца ў адпаведныя раёны, і даручыць гэтым організацыям правесьці максымальную ўвязку з работай экспэдыцый.

5. ЦБК РСФСР павінна цесна ўвязаць краязнаўчую працу з працай Таварыства пролетарскага турызму і яго філіялаў на мясцох, а ЦБК БССР прыняць належныя крокі да організацыі пролетарскага турызма ў БССР.

6. ЦБК РСФСР і БССР узаемна інформуюць адно другое аб прароблена́й імі рабоце рэгулярна праз кожныя два месяцы.

7. ЦБК і мясцовыя краязнаўчыя організацыі бяруць на сябе ініцыятыву і ўдзел у перабудове ўсіх краязнаўчых музэяў, на іх тэрыторыі, выходзячы з пастаноў 1-га музэйнага зьезду, якія знаходзяцца на аснове абслугоўваньня задач гаспадарчага і культурнага будаўніцтва.

8. Аднача́сова з шырокім асьвятленьнем пытаньняў краязнаўства ў цэнтральнай і мясцовай прэсе, а таксама наладжваньнем дакладаў, лекцый і дыспутаў на краязнаўчыя тэмы і перадачай лекцый па радыё, ЦБК РСФСР і БССР павінны правесьці спэцыяльную кампанію (дэкаднік, альбо пяцідзёнка краязнаўства) для популярызацыі ідэй краязнаўства.

9. ЦБК і мясцовыя краязнаўчыя організацыі РСФСР і БССР прымаюць актыўны ўдзел у правядзеньні масавых грамадзкіх кампаній (пасяўная, па абароне краіны, па ліквідацыі няпісьменнасьці, усеагульнаму навучаньню і інш.).

10. ЦБК і мясцовыя організацыі організуюць краязнаўчыя курсы, завочнае навучаньне, перападрыхтоўку краязнаўчых кадраў і дапамагаюць стварэньню катэдраў краязнаўства ў ВНУ.

11. Праводзіцца шырокі ахоп краязнаўчым рухам школ і вучнёўскай моладзі, прычым ЦБК РСФСР і БССР бяруць на сябе абавязак у бягучым годзе ахапіць 15% школ сеткі РСФСР і БССР і дамагчыся ўцягненьня ў краязнаўчую працу юнатаў піонэраў і комсамольцаў.

12. На працягу 1931 г. павінен быць організаваны і праведзены вучот усёй краязнаўчай сеткі і яе работы.

13. ЦБК РСФСР і ЦБК БССР прымаюць меры да максымальнага разьвіцьця выдавецкай працы і абавязуюцца выдаць на працягу году ЦБК РСФСР ня менш 30, а ЦБК БССР ня менш 10 брошур па організацыйным і мэтодычным пытаньнях краязнаўства.

14. ЦБК РСФСР абавязваецца організаваць у 1931 годзе ў трох прамысловых раёнах і адным раёне суцэльнай колектывізацыі, а ЦБК БССР у адным прамысловым раёне і адным раёне суцэльнай колектывізацыі сіламі мясцовых краязнаўчых організацый вопытнае комплекснае абсьледваньне ў мэтах складаньня іх гаспадарчага і социяльна-культурнага пашпарту, прычым схэмы і мэтодычную запіску абавязуецца апрацаваць ЦБК РСФСР.

Апрача таго, выходзячы з асаблівых умоў краязнаўчай працы ў БССР, ЦБК БССР бярэ на сябе яшчэ наступныя абавязацельствы:

15. ЦБК РСФСР і ЦБК БССР бяруць на сябе абавязак поўнасьцю выканаць свае гадавыя пляны.

16. Сумесна з райвыканкомамі праверыць склад членаў усіх краязнаўчых організацый з мэтай ачышчэньня іх (організацый) ад варожых нацыянал-дэмократычных элемэнтаў.

17. Канчаткова праверыць друкаваную продукцыю ЦБК і мясцовых краязнаўчых організацый для выяўленьня ў краязнаўчых выданьнях контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму і буржуазнай ідэолёгіі.

18. Сумесна з ВСНГ і Колгасцэнтрам організаваць і правесьці конкурс на лепшае монографічнае апісаньне фабрыкі, заводу, саўгасу ці колгасу.

19. Разгарнуць краязнаўчую працу сярод нацыянальных меншасьцяй БССР, у цеснай сувязі з нацсэктарамі БАН; організаваць краязнаўчыя гурткі ў нацыянальных колгасах.

20. Супэр-арбітрам па выкананьню гэтага дагавору выбіраецца Таварыства краязнаўцаў-марксыстых пры Усесаюзнай Комуністычнай Акадэміі, які правярае выкананьне гэтага дагавору ў канцы кожнага паўгодзьдзя, а пастаянны нагляд за выкананьнем дагавору бяруць на сябе профорганізацыі ЦБК РСФСР і ЦБК БССР.

21. Дагавор гэты мае моц па 1 студзеня 1932 году.

## Прыкладны плян працы раённых таварыстваў краязнаўства на 1931 г.

Выходзячы з установак у краязнаўчай працы, вызначаных у агульным палажэньні пляну працы ЦБК на 1931 г. (надрукаванага ў часопісу „Савецкая Краіна“ № 1-2 1930 г.), раённыя таварыствы краязнаўства, выходзячы з мясцовых умоў, павінны правесьці (прыкладна) наступную працу:

### I. Організацыйныя пытаньні.

1. Сумесна з мясцовымі організацыямі праверыць склад членаў краязнаўчых таварыстваў і гурткоў з мэтай ачышчэньня іх ад варожых нацыянал-дэмократычных элемэнтаў і адначасова разгарнуць працу па павялічэньню росту краязнаўчых організацый за лік рабочых, колгасьнікаў, батракоў, бядняцка-серадняцкіх мас вёскі і працоўнага насельніцтва мястэчак.

2. Організаваць краязнаўчыя гурткі па ўсіх буйных вытворчых прадпрыемствах: фабрыках, заводах, у колгасах, саўгасах і інш.

3. Пашырыць (сумесна з райінспэктурай нарасьветы) школьна-краязнаўчую сетку, заснаваўшы краязнаўчыя гурткі пры ўсіх ФЗС, ШКМ, профшколах, тэхнікумах.

4. Правесьці раённыя краязнаўчыя курсы-конфэрэнцыі ў мэтах падрыхтоўкі краязнаўчых кадраў з рабочых, колгасьнікаў і саўгасьнікаў.

5. Правесьці абсьледваньне і жывое інструктаваньне краязнаўчых гурткоў у раёне.

6. Прыняць актыўны ўдзел у правядзеньні перавыбараў кіруючых органаў у колгасах, у падрыхтоўцы і правядзеньні веснавой сяўбы і іншых гаспадарча-палітычных кампаній.

7. Наладзіць плянавую і сыстэматычную сувязь з часьцямі Чырвонай арміі, усімі гаспадарчымі ўстановамі і грамадзкімі організацыямі з мэтай выпрацоўкі форм і мэтодаў дасьледчае працы па розных галінах соцыялістычнага будаўніцтва.

8. Правесьці працу па перабудове раённых краязнаўчых музэяў і па організацыі краязнаўчых музэяў і куткоў (вытворчага характару на прамысловых прадпрыемствах, у колгасах і саўгасах, мэтай якіх павінны быць папулярызацыя і агітацыя за соцыялістычнае будаўніцтва.

9. Правесьці шэраг дакладаў і лекцый на сходах рабочых і колгасьнікаў аб задачах масавай дасьледчай працы і савецкага краязнаўства, выкрываючы шкодную контр-рэволюцыйную працу нацыянал-дэмократаў у краязнаўстве.

10. Разгарнуць краязнаўчую працу сярод нацыянальных меншасьцяй, організаваць вывучэньне нацыянальных і інтэрнацыянальных колгасаў і інш.

11. Разгарнуць соцспаборніцтва і ўдарніцтва сярод краязнаўчых організацый.

12. Дабіцца перад РВК забясьпечаньня раённых краязнаўчых таварыстваў неабходнымі для разгортваньня краязнаўчае працы сродкамі і ўключэньня ўсіх выдаткаў у каштарыс РВК.

13. Вылучыць сталых карэспондэнтаў з рабочых колгасаў і саўгасаў для часопісу „Савецкая Краіна“.

14. Разгарнуць працу па вярбоўцы падпісчыкаў на „Савецкую Краіну“, дабіваючыся падпіскі кожнай школы, хаты-чытальні, фабрыкі і заводу, колгасу, саўгасу, настаўніцтва, савецкага, партыйнага і профактыву.

### II. Мэтодычна-кіраўнічая і навукова-дасьледчая праца.

1. Мэтодычна-кіраўнічая дапамога (вусным інструктажам) краязнаўчым гурткам і брыгадам масавых досьледаў на прамысловых прадпрыемствах, у колгасах і саўгасах у справе вывучэньня рацыяналізацыі вытворчасьці, соцспаборніцтва і ўдарніцтва, організацыі працы, вытворчых сіл раёну і г. д.

2. Організацыя масавых дасьледчых экскурсій у прыроду для вывучэньня глебы, прыродных выкапняў, расьліннасьці, на фабрыкі і заводы, у колгасы і саўгасы і мэтодычная дапамога нізавым ячэйкам у організацыі і правядзеньні гэтых экскурсій.

3. Організаваць і правесьці комплекснае вывучэньне аднаго з лепшых прамысловых прадпрыемстваў у раёне і ня менш аднага колгасу або саўгасу.

4. Распрацаваць некаторыя з наступных тэм: організацыя працы ў колгасах раёну (ці хаця-б якога-небудзь сельсавету); культура і быт у колгасах; спэцыялізацыя соцыялістычных гаспадарак раёну; глебы раёну; прыродныя выкапні і энэргетычныя рэсурсы раёну; дынаміка разьвіцьця прамысловасьці ў раёнах; шляхі зносін у раёне і пытаньне транспарту; будаўніцтва ў раёне і шляхі яго рацыяналізацыі; разгортваньне соцыялістычных мэтодаў працы і замацаваньне іх; клясавае распластаваньне ў раёне; формы барацьбы з кулацтва ў раёне; соцыялістычны сэктар у вытворчасьці раёну; шляхі вырашэньня кармавога пытаньня ў раёне; разьвіцьцё жывёлагадоўлі ў раёне; роля МТС у колектывызацыі.

5. Распрацоўка актуальных тэм і заданьняў мясцовых гаспадарак, плянуючых, і культурных установаў і організацый.

6. Разгарнуць працу па выданьню мясцовых краязнаўчых часопісаў і популярна-навуковых прац (усебаковае апісаньне свайго раёну, монографічнае апісаньне фабрыкі, заводу, колгасу ці саўгасу).

## Курсы-сэмінары для рабочых.

Згодна пастановы ЦБК для рабочых прадпрыемстваў БССР намечана правесьці рад курсаў-сэмінараў, з мэтай падрыхтоўкі з іх масавага краязнаўчага актыву. У канцы лютага першыя такія курсы-сэмінары пачнуць сваю працу ў г. Менску для рабочых менскіх прамысловых прадпрыемстваў. Курсы будуць весьці працу па наступнаму зацьверджанаму ЦБК вучэбнаму пляну.

## Вучэбны плян краязнаўчых сэмінараў-курсаў для рабочых.

1. Соцыялістычнае будаўніцтва і масавая дасьледчая праца.
2. Задачы савецкага краязнаўства ў розных галінах соцыялістычнага будаўніцтва.
3. Організацыя краязнаўчага гуртка на прадпрыемствах, яго мэты і мэтоды працы.
4. Як організаваць комплекснае вывучэньне заводу ці фабрыкі і зрабіць монографічнае апісаньне прадпрыемства.
5. Вывучэньне рэўруху на прадпрыемствах.
6. Вывучэньне быту рабочых.
7. Організацыя вывучэньня соцыялістычных мэтодаў працы.
8. Краязнаўчыя экскурсіі, іх організацыя і тэхніка іх правядзеньня.
9. Апрацоўка краязнаўчых матар'ялаў (для выстаўкі, музэю, друку).
10. Вывучэньне мовы рабочых і тэхнічнай тэрмінолёгіі.
11. Краязнаўчы музэй на прадпрыемствах.
12. Організацыя дасьледваньня антырэлігійнасьці рабочых на прадпрыемствах.

ЦБК пры БАН.

## Рэзолюцыя Прэзыдуму ЦСПСБ па пытаньню аб садзейнічаньні профсаюзаў краязнаўчым організацыям.

*(Да прот. № 86/145 ад 30/XII-30 г.).*

Краязнаўства зьяўляецца аднэй з форм актыўнага ўдзелу працоўных мас у соцыялістычным будаўніцтве СССР. У разьвіцьці індустрыялізацыі прамысловасьці, у соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі — шляхам усебаковага вывучэньня свайго раёну, — яго прыродных багацьцяў, энэргэтычных рэсурсаў, організацыі буйнай соцыялістычнай вытворчасьці і яе рацыяналізацыі і разьвіцьця пролетарскайпа зьместу і нацыянальнай па форме культуры.

Краязнаўчая праца ў БССР да апошняга часу зусім не садзейнічала соцыялістычнаму будаўніцтву, а выкарыстоўвалася беларускімі нацыянал-дэмократамі ў мэтах сваёй контррэволюцыйнай дзейнасьці і насіла варожы для пролетарыяту характар; клясавымі ворагамі ў краязнаўчую працу зусім сьвядома ня ўцягваліся рабочыя і бядняцка-серадняцкія масы.

У мэтах карэннай перабудовы краязнаўчай работы і накіраваньня яе на шлях актыўнай дапамогі соцыялістычнаму будаўніцтву — патрэбна безадкладна шырока популярызаваць сярод рабочых і ўсіх працоўных БССР задачы савецкага краязнаўства, узмацніць практычны ўдзел у краязнаўчай працы самых рабочых і зрабіць яе сапраўднай формай актыўнага ўдзелу шырокіх працоўных мас у будаўніцтве соцыялізму, рашуча праводзячы зьнізу да верху самаачыстку шэрагаў краязнаўчых організацый ад астаткаў контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму.

Практычнымі задачамі краязнаўчай працы на сучасны этапе соцыялістычнага будаўніцтва павінны быць: дасьледваньне вытворчых сіл і экономікі свайго раёну, вывучэньне разьвіцьця соцыялістычнай прамысловасьці, колектывізацыі, рацыяналізацыі вытворчасьці, ударніцтва і соцспаборніцтва, як соцыялістычных мэтодаў працы, вывучэньне рэволюцыйнага руху, быту рабочых, правядзеньне культурнай рэволюцыі (ліквідацыя няпісьменнасьці, увядзеньне ўсеагульнага навучаньня, разгортваньне політ. і проф. асьветы і. г. д.

Улічваючы вялікае значэньне краязнаўчай працы ў вывучэньні вытворчых сіл краіны, прамысловасьці і соцыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі ў мэтах дапамогі соцыялістычнаму будаўніцтву — прапанаваць усім

профсаюзным організацыям прыняць актыўны ўдзел у правядзеньні „краязнаўчай пяцідзёнкі“ (з 25-га па 30 студзеня 1931 г.).

На прадпрыемствах, у чырвоных кутках, клюбах організаваць шэраг дакладаў і лекцый на тэмы аб удзеле краязнаўчых організацый у соцыялістычным будаўніцтве, разгарнуць сетку краязнаўчых гурткоў на прамысловых прадпрыемствах, у саўгасах і колгасах, уцягнуўшы ў краязнаўчую працу лепшых рабочых ударнікаў, рабочых вынаходцаў, рабкораў і адданы справе сацыялістычнага будаўніцтва інжынэрна-тэхнічны склад.

Прыняць актыўны ўдзел у популярызацыі і пашырэньні падпіскі на часопіс „Савецкая Краіна“.

У працы краязнаўчых гурткоў на ф-ках і заводах шырока скарыстаць вынікі дасьледчае працы заводзкіх лябораторый, вучот ФЗК, і адміністрацыі, эфэктыўнасьць працы ўдарных і скразных брыгад і соцспаборніцтва.

Бліжэйшымі задачамі краязнаўчых гурткоў зьяўляюцца: складаньне пашпарту вытворчага і культурнага профіляў на кожнае прадпрыемства і організацыя прамысловых музэяў, якія павіны популярызаваць дасягненьні і задачы нашай індустрыі і мобілізаваць энэргію рабочых для пасьпяховага выкананьня і перавыкананьня плянавых заданьняў, а таксама правядзеньня конкурсу на лепшае апісаньне ф-к, заводаў і колгасаў.

Прапанаваць ЦБ Пролетстуду разгарнуць краязнаўчую працу сярод студэнцтва. Разьезд студэнцтва на канікулы і вытворчую практыку скарыстаць для масавай работы па краязнаўству і правядзеньня краязнаўчай пяцідзёнкі.

Неабходна працу і задачы краязнаўчых організацый шырока асьвятляць на старонках цэнтральнага і мясцовага друку, а таксама і шматтыражак.

## Рэзолюцыя.

Заслухаўшы даклад аб чарговых задачах савецкага краязнаўства, нарада профактыву саюзу працасьветы (Віцебск), лічыць, што:

1) Да апошняга часу краязнаўства БССР не адпавядала задачам соцыялістычнага будаўніцтва, задачам дыктатуры пролетарыяту.

2) Дзякуючы засьмечанасьці контр-рэволюцыйнымі, нацыянал-дэмократычнымі і варожымі элемэнтамі краязнаўчых організацый, ЦБК БССР і яго друкаваны орган „Наш Край“ праводзілі контр-рэволюцыйную справу беларускіх нацыянал-дэмократаў, агэнтаў польскага фашызму, ідэолёгаў кулацтва.

Лічачы, што савецкае краязнаўства, адыгрывае агромнейшае значэньне, як форма прыцягненьня шырокіх і працоўных мас да актыўнага ўдзелу ў пасьпяховым і пераможным соцыялістычным будаўніцтве, як форма, праз якую шырокія масы будаўнікоў новага соцыялістычнага грамадзтва аўладаюць мэтодамі навуковага дасьледваньня і вывучэньня вытворчых сіл краіны, што дапамагае вырашэньню пытаньня пролетарскіх навуковых кадраў, на сучасным этапе шпаркага соцыялістычнага будаўніцтва, на завяршэньне пабудовы фундаманту соцыялістычнай экономікі, нарада лічыць, што практычнымі і неадкладнейшымі задачамі раённых профорганізацый працасьветы, профактыву, інспэктуры нарасьветы і ўсіх вясковых асьветнікаў, разам з вясковым актывам, зьяўляюцца наступныя задачы, патрабуючыя неадкладнага выкананьня:

1) Рашучае выкрыцьцё і выкарчоўваньне рэштак беларускага контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму ў краязнаўстве, школьным будаўніцтве, у падручніках, у экономіцы, гісторыі і іншых галінах навукі, шырокае выяўленьне перад масамі рабочых, колгасьнікаў, батрацтва, беднаты і серадняцтва ўсёй шкоднасьці контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму.

2) Рашуча і практычна перабудаваць работу краязнаўчых раённых і гарадзкіх організацый, шляхам афармленьня раённых краязнаўчых таварыстваў і іх бюро, забясьпечыўшы склад райбюро краязнаўства клясава-вытрыманым складам.

3) Неадкладна прыступіць да організацыі нізавой вясковай краязнаўчай сеткі, ячэек пры прадпрыемствах, саўгасах, колгасах і навуч. установах, шырока разгарнуўшы работу ўцягненьня ў краязнаўчыя організацыі ў першаю чаргу рабочых, колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкага актыву вёскі. Праверыць соцыяльны склад раённых краязнаўчых таварыстваў і рашуча ізгнаць нацдэмаў і ўвесь варожы элемэнт, перашкаджаючы соцыялістычнаму будаўніцтву.

4) Па - бальшавіцку правесьці краязнаўчую пяцідзёнку 25-30 студзеня г. г., склаўшы конкрэтныя пляны пацідзёнкі для свайго раёну, зрабіць пяцідзёнку сапраўды пераходным этапам у барацьбе за савецкае краязнаўства, уцягнуўшы ў яе пролетарскую грамадзкасьць і шырокія колы рабочых і колгасьніцкіх мас.

5) У плянавай працы краязнаўчых організацый выходзіць з пляна ў гаспадарчых і плянуючых органаў раёну, падпарадкаваўшы ўвесь тэмп краязнаўчай працы лёзунгу партыі і рабочай клясы „пяцігодка ў чатыры гады“.

6) Асабліва ўзмацніць сувязь і кіраўніцтва нізавымі ячэйкамі, пабудаваўшы іх па вытворчаму прынцыпу, разгортваючы работы па монографічнаму і тэматычнаму вывучэньню фабрык, заводаў, колгасаў і саўгасаў.

7) Уся краязнаўчая праца павінна праводзіцца ў цеснай сувязі з савецкімі, профэсыянальнымі, гаспадарчымі і грамадзкімі організацыямі пад кіраўніцтвам партыйных оргнізацый.

8) ЦБК шырока разгарнуць працу па выданьню популярнай мэтодычнай і мэтодолёгічнай літаратуры і краязнаўч. падручн.,

а профаб'яднаньням шырока разгарнуць мобілізацыю лепшых адданых справе соцыялістычнага будаўніцтва асьветнікаў для распрацоўкі заданьняў у гэтым напрамку.

9) Удзельнікі нарады абвяшчаюць сябе ўдарнікамі ў організацыі сеткі краязнаўчых таварыстваў па раёнах і абавязуюцца трымаць сталую сувязь з ЦБК і выконваць заданьні па распрацоўцы асобных пытаньняў.

**Сьпіс уздельнікаў нарады профактыву саюзу працасьветы ў г. Віцебску, якія аб'явілі сябе ўдарнікамі ў краязнаўчай працы.**

1. Майчынскі У. А., м. Дрыса, адказн. сакр. МК працасьветы.
2. Грамовіч А. Я., м. Ветрын, адказн. сакр. МК працасьветы.
3. Азарэнка Е. К., м. Ветрын, адказн. сакр. МК Дзіцяч. гарадку.
4. Датаў Л. І., м. Лёзна, адказн. сакр. МК працасьветы.
5. Балодзіт В. Ф., м. Вушачы, адказн. сакр. МК працасьветы.
6. Колесаў В. М., м. Сураж, адказн. сакр. МК працасьветы.
7. Сурганаў М. М., м. Сураж, адказн. сакр. Селькому.
8. Курачкіна Т. Т., м. Межа, адказн. сакр. МК. працасьветы
9. Залаты Я. З., м. Сураж, адказн. сакр. МК. працасьветы.
10. Грашанка М. Я., г. Полацак, старшыня раён. праўл. саюзу працасьв.
11. Бялькевіч П. Т., м. Вула, адказн. сакр. МК працасьветы.
12. Балабуткін А. Л., м. Сіроціна, адказн. сакр. МК. працасьветы.
13. Чарнецкі К. М., м. Гарадок, старшыня райпраўл. саюзу працасьв.
14. Кастрыцын П. Л., м. Чашнікі, адказн. сакр. МК працасьветы.
15. Лосеў З. Б., м. Гарадок, адказн. сакр. МК працасьветы.
16. Баранаў П. Я., м. Высачаны, адказн. сакр. МК працасьветы.
17. Якушаў М. В., м. Бешанковічы, адказн. сакр. МК працасьветы.
18. Рудзінская Е. Ф., м. Боркавічы, адказн. сакр. МК працасьветы.
19. Рагачова, г. Полацак, МК працасьветы.
20. Рахман, г. Полацак, МК працасьветы.
21. Парэмскі, г. Полацак, МК працасьветы.
22. Гардон І. М., г. Лепель, МК працасьветы.
23. Няфёдаў М. С. г. Сянно, МК працасьветы.
24. Плакс Э. А., м. Асьвея, МК працасьветы.
25. Шыёнак, г. Віцебск, Гарадзк. праўл. саюзу працасьветы.
26. Верынава, г. Віцебск, Гарадзк. праўл. саюзу працасьветы.

*Увага рэдакцыі*: Неабходна, каб кожны ўдарнік узяў на сябе пэўныя абавязкі і паведаміў ЦБК.

## Пастанова Організацыйнага сходу Т-ва краяведаў-марксыстаў.

### 1. Аб статуце Т-ва.

Апрацаваны Оргбюро Т-ва проект статуту Т-ва краяведаў-марксыстаў у асноўным прыняць.

Даручыць абранаму савету на падставе ўнесеных папраўак і пасьля ўзгадненьня з краязнаўчымі цэнтрамі саюзных рэспублік канчаткова зрэдагаваць статут і перадаць яго на зацьверджаньне Прэзыдыуму Комакадэміі.

### 2. Аб пляне прац Т-ва на 1931 г.

Распрацаваны Оргбюро плян працы лічыць орыентовачным. Даручыць Савету Т-ва апрацаваць конкрэтны плян працы з улікам новых сіл, уцягнутых у Т-ва.

### 3. Аб прыёме членаў у Т-ва.

Даручыць Савету Т-ва разгледзець усе заявы, паданыя ў Оргбюро да моманту скліку організацыйнага сходу, і зрабіць прыём у члены Т-ва асоб, якія адпавядаюць пунктам статуту.

### 4. Аб складзе Савету Т-ва.

Абраны склад Т-ва дапоўніць прадстаўнікамі саюзных рэспублік і асноўных экономічных і нацыянальных раёнаў СССР на Ўсесаюзнай нарадзе Т-ва.

### 5. Аб скліканьні Ўсесаюзнай нарады Т-ва.

Даручыць Савету Т-ва дагаварыцца з саюзнымі рэспублікамі, і ўзгадніўшы пытаньне з Прэзыдыумам Комакадэміі, склікаць на працягу 1931 г. Першую Ўсесаюзную Нараду Т-ва краяведаў-марксыстаў.

---

Выдавец—**Беларуская Акадэмія Навук.**
Рэдактар—**Рэдакцыйная Колегія.**

Менск. Друкарня БАН. Зак. № 639. Галоўлітбел № 300. Тыраж 1300 экз. 5 арк. 10 стар.

# ЗЬМЕСТ

*Стар.*



## ХРОНІКА.









~~204133~~

25587

